БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА. ЗАСНАВАНАЯ Ў 1906 Г. У ВІЛЬНІ. АДНОЎЛЕНАЯ ТАМСАМА Ў 1991 Г. З 1 САКАВІКА 1996 Г. ВЫХОДЗІЦЬ У МЕНСКУ. ВЫДАВЕЦ РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ «НАША НІВА»



Фота Сяргея Грыца

## «Я, партызан Парынаў...»

**АНОНС**

Наш аўтар, гісторык Ігар Лялькоў, які цяпер вучыцца ў Францыі, даслаў нам копію рапарту, які партызан брыгады імя Будзёнага Аляксей Парынаў накіраваў у жніўні 1944 году на імя начальніка Беларускага штаба партызанскага руху Калініна. Гэты архіўны дакумэнт, піша Ігар, «фактычна ўяўляе сабою завершаны твор — «неафіцыйную» гісторыю адной з партызанскіх брыгад, прычым напісаны ён чалавекам, які бачыў гэтую гісторыю «знутры» і «па гарачых сьлядох» апісаных падзеяў. Я думаю, што пасьля гэткай публікацыі ў сп.сп. пракурораў і вэтэранаў зьявяцца пэўныя цяжкасьці з абвінавачаньнямі «НН» у «клевете на героическое партизанское прошлое нашей страны», — сканчае свой ліст Ігар Лялькоў.

*Публікацыя – у наступным нумары «НН».*

# НАША НІВА

№ 4 (101) 23 ЛЮТАГА 1998 г.



# А хто там ідзе?

*Уяўны рэпартаж*

З блакітнай гары Каркавадо дзень і ноч самотны Хрыстос пазірае на разлогі любага гораду й зіхценьне лазуры ў затоцы Гуанабара. Яго, які ў дабравесьці распахнуў свае ўсеадаравальныя абдымкі, па начах залоцяць пяшчотныя прамяні нечуванае шчодрасьці любых ягонаму сэрцу братоў і сёстраў, і лямпаў «General electronic». Разгублены, лыпаючы вачыма, ты мусіш пакаштаваць «каруру»! Гэта нешта кшталтам плову, толькі мяса мураўеда і перац засалодкі. Смаката... Як ён мурашоў жарэ, дык пэўна ж можна і яго самога есьці. Ніхто яшчэ ад каруру не памёр.

Дзе тут пасядзець ціха? Ды няма дзе. Паўсюль зараз танчаць. Гэта яшчэ не Карнавал. На Карнавал усіх не пушчаюць. Але ж душа пяе, дзе хоча... Карнавал заўтра. Пырсьне ў стомлены кобальт нябёсаў сноп зыркіх калючых зорак-лямпачак, растане ў смузе, зьмяшаецца з акіянам, з пахам распараных лясоў і даўкім драўляным дымам...

... Глянь, ідуць. А што яны нясуць на сваіх плячах? Папугаяў, малпаў і зьмеяў. Чаму так сталася? Ну, ведаш, некалі даўным-даўно жыў папугай з папугаю... Вось людзі ад іх і пайшлі. Хто ж яшчэ столькі мяніць языком, як не папугай ды чалавек? Зьмяя? Ну ў каго ж яшчэ можа быць два языкі? Пра малпаў тлумачыць ня трэба.

А хто там ідзе?.. Людзі! Гэта ў яе сая — сукня са скрыдліцаў матылёўкастаніяў. Ну, ведаеш, на гэткія грудзі нават у Бразыліі матылёў ня хопіць! Не, гэта яшчэ не «караляева». Спачатку трэба абраць караля тутэйшага «Конга». Вызірай, вызірай самага мажнога ды трыбухастага. Вялікага чалавека павінна быць шмат... А гэты будзе пэўна прэм'ерам, а гэты — генэралісімусам. Шэсьцьдзесят палкоўнікаў і прыдворныя дамы.

Чаго яны хочуць? Каб Маці Вады нікога не забірала. Каб па Капакабане было шпацыраваць ня сумна. Каб на стале былі і хлеб, і каруру, і хінхін, і эфу, і паэльня. Ня толькі ж крэвэтак з авакадо трушчыць. Каб не забыліся ўнукі ні на самбу матута ні на самбу батата, бо інакш не здагадаюцца, ад чаго смуткуюць багі. Каб радзіла Маці Зямлі... Гэтага трэба хацець, бадай, болей чым жыць...

... Тр-р-рам-та-там! Спытае люты, ці добра абуты. Ну, дзякуй Богу, гэтыя ў ботах. Як той казаў, наш салдат заўсёды быў у ботах. Раптам прачнецца і, крый Божа, салдаты ў чымсьці іншым. Салдат абуў, абуе і астатніх. Хто як ня ён? Кубэ, вядома, Вільгельм. Гяўляйтар дасьціпны быў. «Дзень абаронцаў Айчыны» прызначыў на 23 лютага. Дзвынкнуць юбілейныя значкі-бляшкі, блісьне сьлязіна ўдзячнасьці. Пырсьне ў стомлены кобальт нябёсаў сноп зыркіх калючых зорак-лямпачак, растане ў смузе, зьмяшаецца з шызым салярным смуродам бранятэхнікі на шэрым гарадзкім асфальце, зь сівушным подыхам сівых герояў... Чаго яны хочуць? Можа, хоць якога-небудзь сьвята...

А ў Рыо, у горадзе Студзеньскае Ракі, у краі вечнага лета — не да сьвятаў. Там дзеіцца Карнавал. У Рыо ўсё ўсур'ёз: і акіян, і горы, і хлеб, і віно, і сьлёзы самотнага Хрыста.

**Сяргей Харэўскі**

# Жыцьцядайныя тэмы

## *Паштовы агляд*

«Наша Ніва» атрымлівае шмат лістоў, прычым гэты паток моцна адрозьніваецца ад звычайнае газэтнае пошты. Нам ня пішуць пра камунальныя збоі і кепскага дырэктара саўгасу (зрэшты, пра аднаго пішуць, і зашмат), не пытаюцца юрыдычных парадаў і пра рыбалоўскі каляндар. Найбольш допісаў у «НН» — гэта развагі пра гісторыю і цяперашні стан культуры ў краіне. Зь цягам часу друкаваць усе лісты, нават найцікавейшыя робіцца ўсё цяжэй, таму іншым разам мы будзем практыкаваць паштовыя агляды — выбарку найбольш цікавых месцаў з Вашых допісаў. Сёньня гутарка пойдзе пра рэакцыю чытачоў на публікацыі ў папярэдніх нумарах «НН».

Але найперш — усё ж водгук пра падзеі ў краіне. Сяргей Званар зь Менску піша пра падаткі, якія ўлада зьбіраецца ўвесьці для людзей творчых прафэсіяў.

*«Між тым, — працягвае ён, — інтэлігенцыя ніколі не вызначалася заможнасьцю. І тут з пэдагогаў, журналістаў, мастакоў, музыкантаў, навукоўцаў і мэдыкаў, якія зьяўляюцца залатым фондам нацыі, зь іхных маленькіх заробкаў ды напружанай працы на карысьць Беларусі стануць спаганяць велізарныя грошы, нашмат большыя за рэальна існуючыя ў кішэні. Не дамо прайдзісьветам зьдзеквацца над носьбітамі Спадчыны!»* — сканчае свой ліст Сяргей Званар.

## «Пара скончыць беларуска-літоўскі канфлікт»

Уладзімер Мароз з Чонак пад Гомелем ня згодны з тым, што «Пара скончыць беларуска-літоўскі канфлікт» («НН» №1, 1998). На думку сп. Мароза, гэты канфлікт па вялікім рахунку яшчэ нават і не пачынаўся. Але...

*«Сварка заўчасная. Увогуле сытуацыя з вышэйзгаданым канфліктам падобная да становішча, калі ў вашую хату ламаюць дзьверы людзі ў чорных масках, а вы кідаецеся да тэлефона сварыцца з суседам, што той не аддаў пазычаную лямпачку.*

*Усе папяровыя тэорыі дзеяньняў выглядаюць выкручанымі, калі справа даходзіць да ўвасабленьня ў жыцьцё. Выконваць іх даводзіцца звычайным людзям, не абцяжараным вялікім жыцьцёвым досьведам, веданьнем пастулятаў Дэйла Карнэгі ці неабходнай колькасьцю часу на абмысьленьне сваіх учынкаў. Простыя жыхары дзейнічаюць болей інстынктыўна, ніж сьвядома. Да таго ж, мы ня ў роўных вагавых катэгорыях зь летувісамі. Па такіх пытаньнях лепш спрачацца пры наяўнасьці ў бакоў незакамплексаванага элітнага фонду мазгоў. З нашага боку яго бракуе.*

*«Нацыянальную барацьбу ў спробах прыцягнуць на свой бок безнацыянальных жыхароў хоць бы ў частцы Віленшчыны, якая дасталася Літве, і літоўцы, і беларусы прайгралі». Аўтар, пан амэрыканец, падобна, ня ведае, адкуль у Летуве ўзялося столькі Іванаўскасаў, Баранаўскасаў, Сакалаўскасаў, Паўлаўскасаў і Буракявічусаў. Прабачце за празьмерную зьедлівасьць (Костас Калінаўскас).*

*Калі з усяго артыкула сп. Гурэцкаса паспрабаваць вылучыць асноўную думку, то яна будзе гучаць прыблізна так: «У гісторыі ВКЛ было столькі паскудзтваў. Нашто вам гэты бруд — пакіньце яго нам. Лепш прыходзьце, дамо вам тое-сёе пачытаць. А на Вільню нават не пазірайце — не аддамо. Ну а канфлікт... Трэба наладжваць».*

*На маю думку, Віленскі край — луста адрэзаная. Для ўсіх лепш пагадзіцца з гэтым раз і назаўсёды. Але ад самых развагаў пра вырашэньне беларуска-літоўскіх спрэчак на нямецка-францускі манер патыхае крывадушнасьцю.*

*Летуве дасталося ў набытак адабранае ў ляжачага і непрытомнага суседа трэцім бокам. А Францыя зь Нямеччынай высьвятлялі адносіны паміж сабой самі. Таму, калі вырашаць канфлікт паміж Літвой і Беларусяй у рэчышчы, прапанаваным сп. Гурэцкасам, ён не налагодзіцца ніколі.*

*Чаму спадчына ВКЛ патрэбная і нам, і ім?*

*Дзеля ўладкаваньня дзяржавы пасьля Кастрычніцкіх катаклізмаў і падобных да такіх, як ні круці, патрэбна нешта, што аб'ядноўвае нацыю. Найперш гэта гісторыя і мова. Хай гэта гісторыя часта бітага і крыўджанага, але — свая, зь якой можна рабіць пэўныя высновы на будучыню. Яна будзе тым каменем, на які можна сесьці і раздумацца.*

*Летувісы зараз маюць такую магчымасьць. Вельмі да часу ім мець пад бокам дурнаватага суседа, які раздае направа і налева ўсё, што мае, і адмаўляецца ад самога сябе: «Забірайце свайго каня з чалавекам, а мы людзі балотныя, у нас нават шаблі ніколі не было»...*

*Калісьці пачынаць прыйдзецца й нам. І каб той «нуль», ад якога мы зрабілі першы крок, быў як мага меншых памераў, трэба назапашваць факталягічны матэрыял. Барані нас божа пры гэтым ад якіх бы там ні было спрэчак зь летувісамі — моўчкі сапці, грабці і дзяўбці — проста займацца сваімі справамі і не зважаць ні на каго, тым болей нікому нічога не даводзіць.*

*Калі я ў межах гэтага ліста буду даводзіць пра неабходнасьць народу мець сваю сапраўдную і праўдзівую гісторыю, гэта будзе гучаць зьняважліва ў адносінах да тых, хто займаўся гэтым грунтоўна і не шкадаваў ні часу, ні нават жыцьця.*

*Але, на мой погляд, вельмі неабходным для краіны быў бы такі стан рэчаў, калі б у прынцыпе было немагчымым зьяўленьне ў дзяржаўных памерах забіякі зь вясковых танцаў, каторы, трохі падчытаўшы Маркса і наўмеўшыся рабіць «Боевой листок», ужо ўсё ведае, а куды ісьці, паказвае пальцам.*

*Трэба зазначыць, што яшчэ большыя канфлікты чакаюць нас з усходнімі і заходнімі суседзямі. Гэтыя ў гісторыях пра сябе нават літары пераліпчылі, а гледзячы на нас, пацiскаюць плячыма: «Из какого цеха люди?»*

*«Лютеранское Радио» адной з маскоўскіх радыёстанцыяў пад час леташняга гасьцяваньня галоўнага маскоўскага папа ў Вільні знаходзіла, напрыклад, «корни российского протестантизма» «в Литовском городе Нэсвиж» (добра, што ня «Нэсквік»).*

*Калі тубыльцам перастане хапаць адно кніжак, пісаных пад дыктоўку, і яны пачнуць сапраўды цікавіцца, дзе жывуць і што тут было даўней, то выпаўзе непрыемнае... Высьветліцца, што адзін славянскі народ спачатку абабраў да ніткі свайго братана, а пасьля высмактаў зь яго ўсе мазгі. Прычым да гэтае пары не стаміўся паўтараць, што так і было.*

*Перапала тое-сёе і другому, з больш шляхетным выглядам і далікатнымі манерамі, суседу-народу. Ну а трэці, не славянскі, але й сапраўды калісь братні, падабраў што засталося — чужое імя. Зараз ён выхваляецца, паказваючы фотакартку ў старым пашпарце: які ён быў самавіты і дагледжаны, а важыў... Ну проста ў пяць разоў болей, чым цяпер.*

*Вядома, і мы таксама не анёлы, але дзе пачуць пра гэта і адкуль даведацца, каб з густам і дыхтоўна. Замоўчваньне і выцягваньне на сьвет божы адных прыемнасьцяў скончалася ціха толькі калі не заставалася суразмоўцы. А мы ж пакуль ёсьць.*

*Таму лічу, што лепш казаць проста і называць рэчы сваімі імёнамі, каб пазьбегнуць непрыемнасьцяў у будучыні.*

*І на заканчэньне зноў пра галоўнае.*

*Паважаныя сябры, калі маеце хоць якую магчымасьць, калі ласка шукайце, захоўвайце, перакладайце, гаварыце ўголас пра вашыя набыткі. Падумайце таксама і пра нас, тых, хто стаіць уверх дупай і грабецца ў роднай зямельцы, здабываючы харч — чым мы можам і ў стане дапамагчы нашай агульнай цяжкай справе.*



*Не падумайце, крый Божа, што я тут заклікаў слухаць ворагаў. Гэта ня наша справа. Лепш будзем сябрамі хаця б самі сабе, а ворагі знойдуцца».*

Свае думкі наконт «беларуска-літоўскага канфлікту» даслаў нам мянчук Марат Гірко.

*«Аўтар мае рацыю, што з суседзямі трэба сябраваць і супрацоўнічаць. Хто ж супраць гэтага? Аднак сяброўства патрабуе роўнасьці і ўзаемнай павагі. Агульную гістарычную спадчыну абодвух народаў недапушчальна, як нейкую коўдру, перацягваць на сябе. Бо стаўленьне да сваёй гісторыі зьяўляецца часткаю любові да Радзімы. Нельга верыць у падманную гісторыю і не імкнуцца спазнаць сапраўдную. Калі нейкі народ і выйграе штосьці ад гістарычнага падману, ён прайграе маральна».*

Далей спадар Гірко падрабязна палемізуе з аўтарам нашаніўскае публікацыі, але, на жаль, часта безапэляцыйна і неабгрунтавана сьцьвярджае, што тое і тое ў нашай гісторыі было так, а ня йнакш. Увогуле, па вялікім рахунку, калі няма адназначных сьведчаньняў, дык хто яго ведае, што там было і як. Мы можам толькі дапускаць...

***

Чарговы ліст даслала нашая сталая дапісчыца з Койданава Ганна Матусэвіч.

*«Сёньня, — піша яна, — я хачу зрабіць вам падарунак. Мой выхаванец, Віця Шаціла, напісаў верш... Гэта не адзіны ягоны верш. 26 вершаў ён занес у рэдакцыю раёнкі. Санэты, трыялеты, пераклады Лермантава... Хлопец самастойна вывучае польскую мову, зьбіраецца перакладаць Міцкевіча. Увесну ў яго выйдзе другая кніга вершаў. 7 мільёнаў на ейнае выданьне дапамог яму сабраць ягоны спагадлівы начальнік, дзе ён працуе звычайным рабочым. Віця прызнаўся мне, што яму было прыемна, калі ягоныя вершы надрукавала «Наша Ніва».*

*Віктар Шаціла*
*ГРУГАН*
*Нехта ўвеў мяне ў зман:*
*Я — на могілках груган,*
*Вартаўнік сваёй Літвы,*
*Дзе крыжы ніжэй травы.*
*Усё сяджу сярод крыжоў —*
*Сярод даўніх, даўніх сноў.*
*Успамінаю ваяроў,*
*Усё гукаю я Сыноў...*
*Нехта ўвеў мяне ў зман:*
*Я — на могілках груган,*
*Вартаўнік сваёй Літвы,*
*Дзе крыжы ніжэй травы».*

## «Рэспубліка Радзіма»

Дарэчы, наконт Літвы. Здавалася, у другім нумары сёлета мы завяршылі дыскусію пра зьмену назвы нашае краіны. Ажно працягваюць ісьці лісты ад «ліцьвінскай» і «крывіцкай» партыяў, у якіх апантанты настойваюць на сваёй рацыі, не прыводзячы, праўда, ніякіх новых аргумэнтаў. Сытуацыю пракамэнтаваў наш супрацоўнік Паўлюк Канавальчык:

*«Недзе напрыканцы 80-х у беларускай афіцыйнай і незалежнай прэсе зьявілася вялікая колькасьць публікацыяў па гісторыі Беларусі, якія адкрывалі невядомыя датуль масаваму чытачу старонкі нашае мінуўшчыны. Тады ўпершыню я даведаўся й пра ідэю зьмяніць назву краіны. Тады гэта ўсё было ў навіну, цікава...*

*Прайшло зь дзясятак гадоў, «НН» пасьпела выпусьціць свой 100-ы нумар. Але тэма саманазвы працягвае «муціць народ». Шмат у каго гэтая тэма ўжо выклікае агіду, а нехта яшчэ толькі заангажаваўся «праблемай» і лічыць сваім абавязкам уставіць свае пяць капеек. З году ў год аўтары-нэафіты паўтараюць ня раз ужо аспрэчаныя гіпотэзы й канцэпцыі, ані не прымушаючы сябе хаця б азнаёміцца з аргумэнтамі папярэднікаў: мы чуем адно маналёгі».*

«Наша Ніва» зусім не закрывае на сваіх старонках тэму Імя краіны, але, сапраўды, ці варта паўтараць тыя самыя факты і аргумэнты.

*«Мы не «беларусяборцы»*, — палемізуе з артыкулам у другім нумары «НН» М.Кірэйчык з Гомеля, — *мы — Ліцьвіны. Навошта змагацца з тым, што само сыходзіць у нябыт з кожным годам? Народжанае зь недарэчнасьці крывое дрэўца ніколі ня дасьць пладоў. Так, у нас агульная матка. Вось толькі Беларусяй мы яе назвалі дзеля варожага сыканьня, не спытаўшы ейнае згоды. Дык ці трэба наракаць, што на іншае імя не адгукнецца, і хто вінен у гэтым?»*

Эмацыйны пасаж нашага чытача супярэчлівы сам у сабе. «Навошта змагацца?» — сапраўды, навошта? «Ня дасьць пладоў» — а ўсе нашыя плады ў XX стагодзьдзі — хіба ня з гэтага крывога дрэўца? «Дык ці трэба наракаць, што...» — ці трэба ўвогуле наракаць і шукаць некага вінаватага?

Напрыканцы допісу М.Кірэйчык запрашае «ўсіх, каму не абыякавая дыскусія што да нашага этнічнага й дзяржаўнага імя, ліставаць (246012, Гомель-12, а/с 124) альбо йначай уваходзіць у кантакт».

## «На мове помніка»

Дарэчы, наконт нараканьня. Два абураныя лісты мы атрымалі ў водгук на справаздачу карэспандэнтаў «НН» Севярына Квяткоўскага і Зьміцера Бартосіка зь вечарыны клюбу «Спадчына». І хіба з адным абурэньнем дапісантаў можам пагадзіцца: З.Бартосік пераблытаў імёны шаноўных братоў Грыцкевічаў. За памылку выбачаемся. Але, між іншым, асабіста ўва мне такая блытаніна пасяляе і пэўны аптымізм. Гэта ж не Іванам або Пятром назваў Бартосік шаноўнага спадара Анатоля, а імем Брата. Тым больш, абодва Грыцкевічы сапраўды вартыя называцца і чалавекамі года і культурнымі героямі свае Бацькаўшчыны на ўсе часы.

Што да астатніх эмацыйных закідаў, то яны ня вартыя ўвагі. Таму я нават ня буду называць імёны карэспандэнтаў. Гэта не пазыцыя, а хвілінавае засьляпленьне. Няўжо каму сапраўды прыйдзе ў галаву вінаваціць «НН» у непавазе да спадара Анатоля Белага і клюбу «Спадчына», зь якімі мы даўна і плённа супрацоўнічаем і супрацоўнічаць будзем. Зусім адваротная ад непавагі рэч (што і знаходзім у Квяткоўскага з Бартосікам) — нязлобны жарт і самагіронія, якіх гэтак не стае ўсяму нашаму адраджэнскаму бытнаваньню. Пакуль мы здольныя жартаваць зь сябе — мы гэтым дужыя. Мы жывыя. А нянавісьць, сарказм і «протчыя» гадасьці пакінем для непрыяцеляў.

## «Эратычныя занатоўкі»

Наш часты карэспандэнт з Дубровы Мікола Бусел гэтым разам даслаў саркастычны водгук на «Эратычныя занатоўкі» Адама Глёбуса ў другім сёлетнім нумары «НН». Шаноўны Мікола настолькі «ўзбудзіўся» Глёбусавым творам, што пераблытаў усё на сьвеце. Па-першае, Глёбус піша пра эротыку не ўпершыню. Па-другое, «Добры дзень, мая шыпшына» — першы ня Глёбусаў, а Арловаў зборнік, а «Толькі не гавары маёй маме» — Глёбусаў, але не апошні. Далей спадар Бусел прыступае да пажаданьняў празаіку:

*«Найперш, аўтар цалкавіта абмінае праблему пэтынгу ў нацыянальнай эротыцы. Можа, таму ягоным творам уласьцівыя пэўныя сухасьць і чэрствасьць, залішняя скіраванасьць на хутчэйшае зьяднаньне з аб'ектам каханьня.*

*Між тым, пэтынг, ці, па-народнаму, цісканьне, ёсьць альфа і амэга эротыкі. Гэта, можна казаць, вышэйшы пілятаж эрасу. Ці ж у дастатковай ступені валодае сучасны беларус, і найперш моладзь, тэхнікаю пэтынгу? Хутчэй за ўсё ён ідзе ўсьлед за інстынктам, адвяргаючы сухую клясыфікацыю. Вось тут бы аўтару і паказаць на ўласным досьведзе памылковасьць такіх падыходаў, даць станоўчы ўзор выкарыстаньня эрагенных зонаў, прыёмаў пазьбяганьня непрыемных наступстваў працяглага застою, паказаць пэрспэктыву дачаснага эскапізму, раскрыць прыёмы прарыву да вялікага Эрасу праз чорны ход. На жаль, гэтага нямашака. Але будзем спадзявацца, што будзе.*

*Цалкам абыходзіць аўтар і загадкавую таямніцу пэпэрэбэ. Ягоныя сэксуальныя паводзіны як быццам бы нелягічныя. Што гэта? Tedium sexi? Абулія? Зьмена сэксуальнай арыентацыі? Фізыялягічная няўпраўка? Сумнеўны ўплыў пэрсанальнага патрыярха? Мітрапаліт Трафарэт? Пытаньняў шмат, адказу пакуль няма. Магчыма, тут патрэбнае ўмяшаньне новага Зьбігнева Фройда, але й нацыянальнаму творцу справа знойдзецца.*

*Заслугоўвае на ўвагу спроба аўтара рэканструяваць прыёмы і позы спрадвечна нацыянальнага сэксу, я маю на ўвазе сьмелую позу «Хлопец пашаньку пахае...» Але, заўважу, карыстацца такой вострай позаю можна не заўсёды і далёка ня ўсюды. Яшчэ цёзка пісьменьніка этнограф А.Багдановіч выказаў меркаваньне, што такая пастава належала да абрадава-каляндарнага цыклю веснавых сьвятаў і магла ўжывацца толькі пад час веснавой перадбітвы за ўраджай непасрэдна ў баразьне пры зацугляным кані. Чаму ж раптам А.Глёбус рэкамэндуе яе расцугляна выкарыстаньне без належных падставаў?*

*Тэма, узьнятая А.Глёбусам, надзвычай прывабная, каб ад яе можна было лёгка адцурацца ці ігнараваць. Нельга думаць, што не было сэксуальнага супраціву брэжнеўскаму застою. У адной зь менскіх вучэльняў напрыканцы 60-х гадоў узьнікла група па вывучэньні ананізму. Група прыйшла да высновы, што і савецкая ўлада, і камунізм — усё гэта праявы ананізму. Была праведзеная канфэрэнцыя па праблеме з выпускам маляванай газэты. Аднак нядрэмнае вока кэйджыбі высачыла сяброў групы, а ейны ідэйны натхняльнік патрапіў дачасна ў салдаты — за экспэрымэнтальную генэтыку, як жартавалі сябры. Вось такі пакручасты лёс нацыянальнае эротыкі. Таму і заслугоўвае падтрымкі ідэя правядзеньня нацыянальнага конкурсу эратычнае мініятуры пад гадавіну беларуска-расейскага сангаму. Якраз супадае з каляндарна-абрадавым цыклем братэрскага яднаньня. Прапаную ў старшыні конкурсу сп. А.Глёбуса.*

*Мы, чытачы і прыхільнікі таленту Адама Глёбуса, чакаем ад яго новых жыцьцядайных твораў, а што яны будуць — сумневу няма».*

Рэдактар

# Сачыненьне пра Лабановіча

Рэжыму ўсё мала перамогаў. Як бачна з апошніх ладзеяў, галоўнай стратэгічнай задачай ён лічыць барацьбу зь беларускай моладзьдзю. Беларускай — а ня той, што «народжаная ў капусьце» і за квіток на дыскатэку здольная запісацца ў лукамол.

«Жыве Беларусь!» — напісала некалі адна дзяўчынка дзятсадаўскага веку чырвонай мамінай памадай на заднім баку белых дзьвярэй у калідоры кватэры. «Без памылак!» — моўчкі зьдзівілася я. Услых параіла не чапаць маю касмэтыку...

Сёньня рэжым судзіць нашых малодшых братоў. Ці маглі быць на іхным месцы мы гадоў зь дзясятак таму? На наш век прыйшлося менш бядотаў: прынамсі, мае мазгі на журфаку не кампаставалі ні гісторыяй КПСС, ні «навуковымі» атэізмам з камунізмамі. Што будзе праз дзесяць гадоў з нашымі дзецьмі, калі яны стануць аднагодкамі Вадзіма Лабковіча?

— Мяне ледзь не разарвалі на часткі, — сказала перад пачаткам працэсу знаёмая жанчына, што векам старэйшая за маю маці. Пад час прыезду ў Менск выпадак зьвёў яе зь нейкімі сваякамі нашых палітвязьняў. «Хай сядзіць! Хай разумнее!» — так сказала сваячка ці то Вадзіма, ці то Аляксея. «Як? Гэта ж героі Беларусі... вашыя героі!» — мая знаёмая — не беларуска ані з паходжаньня, ані з грамадзянства. Яна жыве ў самай пашчы імпэрыі. Яе, расейскую жанчыну па імені Любоў, аблаялі-абгаўнялі выпадковыя сьведкі тае размовы. Мае выпадковыя суайчыньнікі. У нас, здаецца, не адна Айчына ў рамках адной тэрыторыі...

Судзьдзя Лаўроў Уладзімер на другі дзень працэсу доўга высьвятляў, хто такія маскалі. Судзьдзя сам і адказваў на гэтае пытаньне зь першых хвілінаў юрыдычнае дзеі. Прыкладам, падмацоўваючы свой тэзіс пра каштоўнасьць для нашай гісторыі і культуры помнікаў Леніну і Дзяржынскаму, у якасьці аналяга спаслаўся на Пятра I ў Піцеры. Са словамі: «И он же построил на костях...» Маўляў, «на касьцях» — рэч натуральная. І тое, што Пётар на касьцях — у сябе на Радзіме, а правадыр з чэкістам — на акупаванай тэрыторыі ў іншага народу, не мільганула ў Лаўрова і ў думках. Дык хто судзіць нашых малодшых братоў, калі доказы іхнага «хуліганства» будуюцца «на касьцях» нашай агульнай сьвядомасьці?

Калі перад працэсам было ня ўбіцца ў маленькую залю, мне паведамілі ў канцылярыі суда наступную рэч: у якім памяшканьні праводзіць працэс — справа судзьдзі. Але ў вялікую залю паседжаньні не пераносяць, бо там няма клеткі. Сытуацыя створаная наўмысна. Першае сваё абвінавачаньне пракурор Цімафееў Дзьмітры вынес яшчэ па шляху ў залю суда. Мы зь ім побач прабіраліся праз грамадзкасьць і амон. Цімафееў гучна крычаў пра «беспорядки» і што «Сейчас будем сдавать в милицию! Составлять протоколы!»

Я ня ведаю, ці вывучалі гэтыя людзі ў школе Якуба Коласа і што пісалі ў сачыненьнях пра Лабановіча. Магчыма, яны былі вызваленыя ад урокаў айчыннай мовы зь літаратураю. Магчыма, жылі ўвогуле там, дзе любяць ставіць сабе і іншым помнікі на касьцях. Ня ў гэтым рэч — мая знаёмая з Расеі, напэўна, таксама ня ведае, хто такі Лабановіч. Але ёй дастаткова, што Вадзім Лабковіч напісаў у сачыненьні пра сваю з Лабановічам агульную найвышэйшую каштоўнасьць: духоўную свабоду. А судзьдзі шчэ трэба даводзіць тым, хто трапіў на працэс: «Я русский человек!» Ня ганьбіў бы маю «расейскую маці». Вось дзе — чалавек! А не маскаль.

Пад час спазьненьня й чаканьня пад дзьвярыма я гаварыла зь міліцыяй і іхным сабакам, які таксама спужаўся воклічаў «Жыве Беларусь!» Тэмы гутарак (вельмі «цёплых» напачатку): 1. Мы не «дубы зь дзярэўні»; 2. Журналістка адна спытала нас пра сумленьне, якое глупства!; 3. Журналіст «палучае» больш за амонаўца (!); 4. Мы сьцеражэм твой сон і «пакой»; 5. «Чтобы харашо жыць, выхадзі замуж за бандзіта»; 6. «Што б дзелал БНФ бяз нас? Кругом бандзіты!» (Мы б зь імі переражаніліся — г.зн. «Жыве Беларусь!» для хлопцаў у форме раўняецца вядомаму слову з трох літар. Назаўтра яны будуць ціха разьюшаныя тэлекадрамі і павыкідаюць ня толькі фатакораў з апэратарамі, але й кожнага, хто бяз пашпарту ці з фотаапаратам. Беларускія хлопцы... зь любым чалавекам гавораць, як зь вязьнем. Бо «работа такая». Бо «прыказ такой».)

У «органаў» яўна «прыказ» лоб пабіць, але выкрыць хоць якога тэрарыста. Інакш бы ў справе нашых хлопцаў не фігуравалі «самодельные взрывные устройства», як сьпяцы сьледзтва вызначаюць «консервные банки, покрашенные салатовой краской». Узгадваецца 1995 год і ўжо мне самой абрыдлыя, але актуальныя паралелі. На прэс-канфэрэнцыі ў перадвыбарным Грозным адзін з прадстаўнікоў РФ у Чачэніі скардзіўся, што баявікі ўчынілі супраць яго «тэракт» — падклалі ў машыну «муляж міны». Справа маладафронтаўцаў — такі самы «муляж» для прадстаўнікоў адпаведнай краіны ў Беларусі. Абаронцы «жалезнага Фэлікса» пакуль ня ведаюць, што прысудзіць хлопцам, і, па ўсім, адклалі суд да канца ваяжу Лукашэнкі ў Нагана і Ўладзівасток.

... Тэлефаную дахаты даведацца, як здароўе маці. «Што гэта там за суд у вас?» — цікавіцца яна. Тлумачу, як чалавеку, недасьведчанаму ў палітыцы, у трох сказах: каго, за што... «Малада... хто? — уражаная яна. — Маладгвардзейцы? Божа, што ў вайну!»

Таццяна Сыпітко

# Расея — Чачэнія: ні шлюбу, ні разводу

Цяперашняя тупіковая сытуацыя на расейска-чачэнскіх перамовах шмат у чым вызначаецца гісторыяй складаных узаемадачыненьняў Расеі і Чачэніі на працягу апошніх ужо амаль што трох стагодзьдзяў.

Чачэнія ўвайшла ў склад Расейскай імпэрыі не добраахвотна, а ў выніку доўгага працэсу скарэньня чачэнцаў, якія адчайна супраціўляліся. У савецкі час, пачынаючы з канца 20-х, калі Сталін распачаў гвалтоўную калектывізацыю і забараніў шарыяцкія суды на Паўночным Каўказе, якія дзейнічалі ў рамках мясцовага самакіраваньня, на гістарычнай тэрыторыі Чачэніі пасьлядоўна ўзгараецца шэраг узброеных паўстаньняў, апошняе зь якіх было задушанае толькі пад час Другой сусьветнай вайны.

Сталін не давяраў чачэнцам. Здаецца, толькі савецкія немцы, чачэнцы і іхнія родныя браты інгушы былі вызваленыя ад абавязковага прызыву ва ўзброеныя сілы ў гады вайны. Многія чачэнцы ваявалі на фронце і змагаліся з уласьцівым ім гераізмам, але гэта былі дабраахвотнікі.

У канцы лютага 1944 Сталін зрабіў спробу сьцерці Чачэнію з мапы гісторыі і выслаў чачэнцаў і інгушоў у Казахстан і Кіргізію. Ссылка працягвалася 13 гадоў, але, як гэта часта бывае, цяжкі досьвед выжываньня толькі загартаваў нацыю і зрабіў яе больш трывалай.

У 1957 годзе Хрушчоў дазволіў чачэнцам і інгушам вярнуцца на радзіму, была адроджаная Чачэна-Інгуская Аўтаномная Рэспубліка. Аднак у прыхаваных формах дыскрымінацыя чачэнцаў і інгушоў працягвалася аж да самага пачатку перабудовы. Пры Гарбачове распачаўся імклівы пад'ём нацыянальнай чачэнскай самасьвядомасьці. У чэрвені 1989 году (упершыню пасьля 1957-га) чачэнец (Доку Заўгаеў) быў абраны першым сакратаром Чачэна-Інгускага абкаму КПСС. У канцы лістапада 1990 чачэнскі нацыянальны рух аформіўся ў Чачэнскі Нацыянальны Кангрэс. На сваім першым зьезьдзе (23-25 лістапада 1990) Кангрэс прыняў дэклярацыю пра сувэрэнітэт Чачэнскай Рэспублікі Нохчы-Чо. У чэрвені 1991 ЧНКператварыўся ў Агульнанацыянальны Кангрэс Чачэнскага Народу (АКЧН).

Пад час жнівеньскага путчу 1991 АКЧН на чале зь ягоным лідэрам Джахарам Дудаевым рашуча падтрымаў прэзыдэнта Ельцына. 6 верасьня 1991 году прыхільнікі чачэнскай незалежнасьці разагналі Вярхоўны Савет Чачэна-Інгускай Рэспублікі. Пазьней гэты дзень будзе абвешчаны Днём Незалежнасьці Чачэніі.

27 кастрычніка 1991 АКЧН правёў на тэрыторыі Чачэніі першыя выбары чачэнскага парлямэнту і прэзыдэнта, а 1 лістапада 1991 усенародна абраны прэзыдэнт Джахар Дудаеў у аднабаковым парадку абвясьціў незалежнасьць Чачэніі ад Расеі.

Распад Савецкага Саюзу адбываўся паралельна са зьменамі ў Чачэніі. Цяперашняя Расея, у адрозьненьне ад СССР, уяўляе зь сябе ў значнай ступені монаэтнічную дзяржаву, дзе этнічныя расейцы, а ня проста расейскамоўнае насельніцтва, складаюць пераважную большасьць насельніцтва — больш за 80%.

Пачатак 90-х гадоў — важнае перакрыжаваньне гісторыі. На працягу трох гадоў да пачатку расейска-чачэнскай вайны вялікая Расея і маленькая Чачэнія фактычна разьвіваліся ў незалежных палітычных прасторах. У Расеі ішло паступовае фармаваньне Расейскай нацыянальнай дзяржавы, у Чачэніі ўпершыню за ўсю ейную гісторыю ўзьнікла чачэнская нацыянальная дзяржава. Многія чачэнцы сталі вяртацца на сваю гістарычную радзіму.

Да моманту пачатку вайны (11 сьнежня 1994) склаліся дзьве розныя нацыянальныя самасьвядомасьці — расейская і чачэнская. Хоць дэ-юрэ Чачэнія працягвала лічыцца часткай Расеі, фактычна чачэнцы ўважалі сябе асобнай нацыяй са сваёй уласнай дзяржавай. Уварваньне расейскіх войскаў у сьнежні 1994 яны ўспрынялі як агрэсію і новую спробу (як і ў 1944) «канчатковага рашэньня» чачэнскай праблемы.

Нягледзячы на пераважную вайсковую моц, вайна сталася нечакана цяжкай для расейскіх войскаў. Дастаткова прыгадаць, што бітва за Грозны працягвалася амаль тры месяцы. Расейскі вайсковы прыгнёт зьмяняўся спробамі весьці мірныя перамовы, але паступова сам канфлікт становіцца ўсё больш заблытаным і цяжкім для разьвязаньня. Відавочна, што ў сучасным сьвеце дзейнічае непісанае правіла: этнічныя канфлікты нельга разьвязаць сілай.

Падпісаньне ў жніўні 1996 г. Хасаўюртаўскіх пагадненьняў адкрыла шлях да нармалізацыі расейска-чачэнскіх дачыненьняў.

У канцы студзеня 1997 году ў Чачэніі быў абраны новы прэзыдэнт — Аслан Масхадаў. Ён быў фактычным кіраўніком чачэнскага супраціву ў гады вайны і ў той жа час мае рэпутацыю памяркоўнага і разумнага чалавека.

Пасьля абраньня прэзыдэнтам Масхадава вясной мінулага году перамоўны працэс разьвіваўся даволі інтэнсіўна. Былі падпісаныя ў траўні «Дамова пра мір і прынцыпы дачыненьняў паміж Расейскай Фэдэрацыяй і Чачэнскай Рэспублікай Ічкерыя» і міжбанкаўскае пагадненьне. У адпаведнасьці з дамоваю абодва бакі вырашылі «назаўжды адмовіцца ад ужываньня сілы пры разьвязваньні якіх заўгодна спрэчных пытаньняў». Міжбанкаўскае пагадненьне фактычна разглядае Чачэнію ў якасьці незалежнай дзяржавы. Яно вельмі падобнае да пагадненьня паміж ЗША і Панамай, у адпаведнасьці зь якім апошняя атрымлівае ад ЗША пэўную колькасьць даляраў для абарачэньня ў межах краіны.

Нягледзячы на ўсё гэта, поўнамаштабная дамова, якая рэгулюе палітычныя ўзаемадачыненьні Расеі і Чачэніі, так дагэтуль і не падпісаная. Улетку і асабліва ўвосені мінулага году перамоўны працэс зайшоў у тупік. Адстаўка намесьніка сакратара Рады Бясьпекі Расеі Барыса Беразоўскага стала самым відавочным сьведчаньнем таго, што пэўныя сілы жадаюць затрымаць мірны працэс.

Бачна, што ўзаемныя дачыненьні Расеі і Чачэніі, расейцаў і чачэнцаў сёньня разбураныя, і нічым, акрамя разводу, іх ня выправіць. Разьлюбленыя супругі разводзяцца, але й нацыі, якія не паразумеліся, пэўна, таксама мусяць дзейнічаць такім самым чынам. Працэс скасаваньня шлюбу і ў прыватным жыцьці няпростая справа, што ж казаць пра ўсталяваньне новых дачыненьняў паміж нацыямі.

На мой погляд, разумны кампраміс усё яшчэ магчымы. Многае залежыць ад сур'ёзнага і шчырага імкненьня Расеі адрадзіць разбураную эканоміку Чачэніі. На жаль, пакуль гэтага ня бачна. Бясконцыя заклінаньні расейскіх кіраўнікоў пра тое, што Чачэнія — суб'ект фэдэрацыі, не адпавядаюць рэчаіснасьці. Акрамя таго, гэта не садзейнічае выхаду з сытуацыі ўсё большага палітычнага й эканамічнага крызысу на Паўночным Каўказе. Наадварот, сытуацыя становіцца больш заблытанай і непрадказальнай. Аднак час ужо зразумець, што ваеннае разьвязваньне чачэнскай праблемы папросту немагчымае. Мірныя ж мэтады на прыкладзе чэхаў і славакаў альбо рэфэрэндуму ў Квэбэку хутчэй прынясуць станоўчыя вынікі.

Міхаіл Рошчын, Масква

# Пераскочце праз плот

*13 студзеня ў Беларускім таварystве дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі адбылося ўрачыстае адкрыцьцё выставы «Адвечная крыніца» сусьветнавядомага літоўскага фотамастака Рымантаса Дзіхавічуса (Ritantas Dichavičius). Выстава падрыхтаваная пасольствам Літоўскае Рэспублікі ў Беларусі да нацыянальнага сьвята Літвы — Дня Незалежнасьці.*



Здымак Дзяніса Раманюка

Гэта ўжо другая сустрэча беларусаў з творчасьцю Дзіхавічуса і вельмі сымбалічна, што яна адбылася напярэдадні сьвята закаханых — Дня Сьвятога Валянціна. Каханьне наскрозь працінае творы гэтага літоўскага фотамастака. Каханьне, якое сыходзіць ад здымкаў жанчын у іх прыроднай прыгажосьці і ўсеабдымнае прыроды-маці, у іх тоеснасьці, непадзельнасьці. Жаночая натуральнасьць пераўтвараецца ў Музу. Музу, якая ў часы, калі камуністы не разводзілі эротыку з парнаграфіяй, не дапускалася да гледача. Першая ж пэрсанальная выстава была зьнятая на другі дзень пасьля адкрыцьця. Па нейкім містычным зьбегу абставінаў пад час дэмантажу адзін з твораў сарваўся... і расьсек крывяную артэрыю аднаго з выканаўцаў загаду — сьцены залі згубілі манахромнасьць чорна-белай фатаграфіі, бо краіна згубіла цнатлівасьць — першая савецкая эротыка пабачыла сьвет.

Але тут цікава паслухаць меркаваньне самога аўтара: «Я не адношу свае фотаздымкі да эротыкі. Для мяне эротыка — толькі нагуляная дэманстрацыя біялягічнага пачатку. Там няма лунаньня над зямлёй. Жаночае цела — гэта пацір. Яго можна напоўніць напоямі, а можна — горнай крыштальнай вадой. Акрамя аголенага жаночага цела павінна быць яшчэ «нештачка», пэўнае глыбіннае сьвятло...».

Фатограф правёў колькі вельмі актыўных дзён у Менску, наведваючы майстэрні сваіх калег-мастакоў (з адукацыі Дзіхавічус мастак-графік). У гутарках ён падзяліўся зь беларусамі сваімі меркаваньнямі, якія я дазволю сабе працытаваць, бо яны наблізяць нас да творцы: «Самае каштоўнае — гэта дачыненьні людзей, і я, як мастак, калі бачу нешта прыгожае — гэта як допінг, яно ўзвышае чалавека. Селяшчук быў для мяне такой знаходкай, і я не магу паверыць, што яго ўжо няма... Я ад ягоных рэчаў проста шалеў, і ён падараваў мне некалькі малюнкаў, яны ў мяне ў тэчцы ляжаць, і я падумаў, што гэта злачынства — такія карціны хаваць... Іх трэба размножыць па сьвеце, таму што дабро павінна распаўсюджвацца, павінна замацоўвацца ў сьвядомасьці, у падсьвядомасьці, і ў геаграфічным разуменьні, і ў часовым разуменьні. Гэта павінна быць, інакш мы ўсе азьвярэем, зьдзічэем...»



І на разьвітаньне:«...Раскажу сваім (літоўцам) — вандруйце, не сьпяшайцеся ляцець праз акіян — пералезьце праз плот». Тое самае, бадай, варта сказаць і беларусам: бывайце часьцей у Вільні, ня ўсё золата духу ляжыць толькі на Захадзе, альбо на Ўсходзе, зірніце на Поўнач, цераз плот. Ці, прынамсі, скарыстайце магчымасьць, зайдзіце на выставу, бо дзьверы яе расчыненыя.

**Дзяніс Раманюк**

# Новы кантынэнт

*14 лютага ў памяшканьнях беларускага прадстаўніцтва амэрыканскай фундацыі «IREX/Pro Media» адкрылася фотавыстава Міхала Баразны «Мая Амэрыка». Выстава распачала сумесны праект «Нашай Нівы» й «IREX'a»: сэрыю закрытых камэрных вэрнісажаў. Бо ж беларускае мастацтва застаецца «мастацтвам не для ўсіх». Мастацтвам не ў «нары», «запечны» ці «за нябёсамі» — у Каралеўстве Беларусь...*

Мастак зачараваны ТЭКСТАМ. Літары, словы, сказы... Паўстаюць у кадры фотаапарату, каб імкнуцца далей за межы бачнага, і вярнуцца новымі выявамі — «Мая Амэрыка».

«Твая Амэрыка. Выбраная табою. Зыходны пункт, сьвядома выбраная радзіма». Летась Баразна ладзіў «Закрыцьцё Амэрыкі», ці-то Калюмбавай, ці-то вядомай адно мастаку. «Закрыў» дзеля чарговага адкрыцьця новай зямлі.

«Твая Амэрыка — твая свабода»... Штораз страчаная й адноўленая невядомая чыстая зямля, якая чакае тваіх сьлядоў, як ты чакаеш ейных сьлядоў у сабе. Але слова «Амэрыка» і вобразы, якія яно спараджае — агульныя для ўсіх народаў Старога Сьвету — простыя й выразныя, праз шмальцаваньне ператварыліся ў кічовыя. Як ні дзіўна, сем літараў слова зрабіліся шчэ больш прывабнымі й спакушальнымі. Хаця б дзеля таго, што «Амэрыка — краіна, якой няма»...

Што да «Маёй Амэрыкі», мяркую, Міхал Баразна адно на каліва паддаўся магіі слова, калі з фотаапаратам у руках рушыў на Ўсход нашага Каралеўства.

... «Амэрыка» — скасаваныя дарожны ўказальнік у цэнтры кадра. Невялічкая вёска ў Круглянскім раёне Беларусі. «Пункт», зь якога ўжо колькі гадоў, як зьніклі апошнія жыхары. Разбураныя сьцены хатаў, расьцярушаныя дахі, пабітыя шыбы, скрозь якія «звыклы сьветла-шэры беларускі туман» глядзіцца найбольш выразна... Сьцяг ЗША пад страхой і скамечаная бляшанка з-пад «Кока-Колы» ля забітых дзьвярэй (інсталяцыя ці каляж?) — даніна магіі слова. Кіч навыварат, што выглядае бесприытульна й бездапаможна. Магчыма, патрэбны адно дзеля «закрыцьця»...

«Амэрыка» — «шэрая стужка разьбітага




# Зімовыя лібэртаніі

*Воля — хоць і ўяўная, хоць і на вечар, але воля! — ня можа проста дацца ў рукі, яе трэба адстойваць, за яе трэба змагацца, яе трэба выпакутаваць. Ці не ўпершыню такія думкі прыйшлі да ўдзельнікаў канцэрту-акцыі «Вольныя танцы», што праходзіў у менскім клюбе «Акварыюм» 11 лютага. І яны змагаліся: калі прастаіш у фае ў паўпрыдушаным стане, дзе дзьве-тры сотні чалавек ціснуць на цябе ў гэткім жа чаканьні падзеі, то наўрад цябе спыніць разьбітае шкло (свабода любіць крыў) і ты сыйдзеш, ня стаўшы адным з удзельнікаў такой акцыі, ня вырваўшы з грудзей кліч перамогі, калі ўсе перашкоды апынуцца ззаду, а наперадзе цябе будзе чакаць свабода на тры гадзіны.*

«Вольныя танцы» — гэта акцыя з сэрыі грандыёзных канцэртаў, удзел у якіх бяруць выключна беларускамоўныя гурты і выканаўцы. Прыгадайце канцэрт на Купальле ў парку Горкага, калі над Менскам пранесься ўраган. Гэтым разам самі арганізатары стварылі невялікі катаклізм дзеля таго, каб разбудзіць сонны горад і ўсю заснулую публіку. Як ні дзіўна, гэта спрацавала — адчуўшы дух волі, на канцэрт сабралася незвычайная нават для менскіх клюбаў колькасьць народу.

Адзін з самых вялікіх плюсаў гэтай акцыі — удзел маладых, малавядомых гуртоў. Гэтым разам сярод іх былі «Exist» і «Склеп». Першая каманда, акрамя сваёй моўнай прыналежнасьці, адметная яшчэ й музыкай, якую выконвае, — гэта Indie Noise, адна з плыняў т.зв. «незалежнай музыкі», дзе вялікая ўвага надаецца пошуку новых гукаў праз экспэрымэнты з гітарамі, з трубой і г.д. У гэтым стылі вельмі важна не ператварыць noise у гукавы раздрай. Як бачым, у «Exist» ёсьць вялікія пэрспэктывы і надзеі на далейшую папулярнасьць. «Склеп», які выконвае даволі прыстойны альтэрнатыў, завёў публіку зь першых песьняў, і ў залю ўвайшла тая, каго чакалі, — Свабода. Ды й «Склеп» садзейнічаў гэтаму: экзатычным, але прыемным для вуха здаўся У.Караткевіч, пакладзены на музыку рэгей. (Уявіце сабе: Боб Марлі пяе: «Бог жыве на Беларусі»!)

Другую частку акцыі складалі «Камэлот» і «Žnič». «Камэлот», які, лічы, ніколі не выступаў перад такой колькасьцю публікі, упершыню пабачыў сваю, так бы мовіць, матэрыялізаваную папулярнасьць. «Žnič», які, згодна з апытаньнямі часопіса «Legion», стаў у 1997 годзе самым заўважным адкрыцьцём году, адыграў самую брутальную частку канцэрта, паралельна правёўшы на сцэне паганскія маленьні.

Нарэшце, заключную частку пачалі хлопцы з Ulis'а. Гэта быў ці ня самы лепшы выступ Славы Кораня за апошнія паўгады; кардынальна ўзяўшыся за паляпшэньне свайго вакалу, Корань не імкнецца зрабіць зь цяперашняй каманды той «Ulis», калі тэксты пісаў Аксёнцаў, песьні выконваў Патрэй, а самога Кораня «сьвядомая» частка публікі называла Вячкам. Але ці вернуцца часы «танцаў на

# Сьцяг можа ператварыцца ў дзіду

*20 лютага ў штаб-кватэры БНФ адбылося шоў «Міс Маладога Фронту» — «кульмінацыйны момант» маладафронтаўскае «Зімовае Алімпіяды».*

Галоўная задача журы, якое складалася з Паўла Знаўца, Лявона Баршчэўскага, Валерыя Шчукіна, Юрыя Беленькага, Валерыя Буйвала, а таксама жаночага лідэра Тацяны Ванінай, была вельмі простая: зірнуць на тузін паненак і выбраць пяць найпрыгажэйшых. Астатнім пакідалася суцяшальная магчымасьць выявіць сябе ў гаворкасьці, кемлівасьці і хуткасьці рэакцыі. Прэтэндэнткі былі падзеленыя на дзьве часткі: «цёртыя» журналісткі незалежных СМІ, і «дзевачкі-званочкі» з Маладога Фронту.

Бадай, першым у найноўшы час выказаўся аб нацыянальнай эротыцы Зянон Пазьняк. Яшчэ ў 1994 годзе ён зрабіў для «НН» заяву, растыражаваную ў хуткім часе першым каналам нацыянальнага радыё — у беларусаў эротыкі няма і быць не магло, бо праца забірала ў людзей увесь час. Інфармацыя прайшла паміж навінамі аб пагрозе кітайскае ядзернае зброі і колькасьці сабранага на айчынных палёх збожжа. Тады большасьць маладафронтавак толькі пачынала задумвацца аб няіснай для іхнага сёньняшняга лідэра «праблематыцы»...

Чаго можна чакаць ад дзяржавы, якая ў сваёй кішэннай газэце сярод пяцідзесяці сэкс-сымбаляў краіны не ў апошнім шэрагу прапануе Вячаслава Францавіча Кебіча? Таго самага, што ад апазыцыі, якая вуснамі «самага маладога дэпутата ВС трынаццатага скліканьня» праз увесь конкурс прыгажосьці задае дзяўчатам-удзельніцам пытаньні аднаго кшталту: «што больш падабаецца — «бабсьлей» ці «хуткасны спуск?»

Мяркую, праз сваю «цёртасьць» журналісткі ўяўлялі патэнцыял складу журы, перад якім яны мелісь дэманстраваць (насамрэч хаваць і хіхікаць) свае панады. Пытаньні-летуценьні «судзьдзяў» скіраваліся на бяспройгрышны ва ўсіх адносінах аб'ект — ППРБ. «А што б вы рабілі, калі б Ён..., калі б зь Ім..., калі б Ягоны сын вам...?»

Што да «званочкаў», дык здавалася, што ля дошкі с крэйдай у руках яны пачуваліся б больш утульна. Бо, хоць у любой старэйшай клясе існуе свой балбес-аксэлерат, які «ловіць кайф» ад жартаў пра «Сісіпісі» («вялікая амэрыканская рака»), у яго заўжды можна запусьціць крэйдай ці чым больш важкім. А як такое зрабіць з «флагманамі» незалежнай палітыкі? Яны ж ня ворагі — свае.

«Сіла жанчыны — любоў, зброя жанчыны — сьмех». Наважуся выказаць здагадку, што наша «аб'яднаная апазыцыя» трымаецца ня толькі дзякуючы таму, што нашыя жанчыны шчырыя ў сваёй любові да незалежнасьці, але й таму, што не імкнуцца «сьмяяцца апошнімі». Калі Фонд «Наша Ніва» выпусьціў паштоўкі сэрыі «Менскай Вясны'96», адну зь іх БНФ адмовіўся браць на распаўсюджваньне. Гэта быў фотаздымак, які адным зь першых



# Пакідайце ж акцэнт ваш

Адзін мой знаёмы паэт вельмі радуецца нязводнаму беларускаму акцэнту. Нават прыдумаў гэтаму «ўбоству» навуковую назву — «фанэтычная трываласьць». На ягоную думку беларускае «дзеканьне» ды «шчэканьне» сьведчаць пра жывучасьць нашае генэтычнае прыроды.

Едучы аднаго разу цягнікам у Гомель, я зь нязьведаным датуль нецярпеньнем чакаў канца падарожжа. Маімі суседзямі ў вагоне былі ніжэйшыя чыны амону. Усяго чалавек 10, але ўражаньне ўзьнікала, быццам акупавалі яны ўвесь вагон. Менавіта акупавалі, бо адрозьнівалі іх ад астатніх пасажыраў ня толькі блакітны камуфляж, неардынарны рост, павышаныя дэцыбэлы і празьмерная насычанасьць гаворкі расейскім матам, але, перш за ўсё, выразны беларускі акцэнт. Які выдаваў у мушкецёрах прэзыдэнта гадаванцаў правінцыі. Такая нязвыклая канцэнтрацыя «блакітных мундзіраў» на абмежаванай прасторы яўна прыгнечвала «преданный им народ». Размовы сьцішыліся, позіркі схаваліся за газэтнымі бачынамі, а па вагоне разносіліся нямілагучныя рэплікі амонаўскай разборкі на тэму «хто ў нашым узводзе стукач», што ўрэшце скончылася невялічкай бойкай у тамбуры. Сярод цывільнай публікі ахвочых выйсьці на перакур рэзка паменела.

Усё гэта нагадвала кепскае савецкае кіно пра фашыстаў, дзе немцы маглі несьці любую лухту, але з абавязковым акцэнтам. «Матка, яйка, партызанэн». Я таксама прыкусіў свой беларускі язык, закрыўшыся выйгрышным вобразам «белага разьведчыка». Нарэшце ў Бабруйску ў вагон падсеў яшчэ адзін пасажыр, саракагадовы прыгожы абхазец, які, мне здаецца, успрыняў беларускіх гасконцаў за традыцыйных нашых «бедных салдацікаў». Ад радасьці вяртаньня на радзіму, ці, можа, ад шчырасьці каўказкае душы, абхазец вырашыў напаіць «ліц славянскай нацыянальнасьці». На фоне ягоных расповедаў пра вайну, пра горскія звычаі й нават пра абхаскую літаратуру мае плямістыя землякі са сваімі пытаньнямі пра каўкаскіх «жэншчын» выглядалі поўнымі дзікунамі. Ніводнага мату не сарвалася зь языка сапраўднага ваякі, а ў некаторых момантах вылаяцца яму ўсё ж хацелася. Але ён мог дазволіць сабе глядзець на сабраную за сваім шчодрым сталом зграю трохі звысоку, нягледзячы на свой невялічкі расток. Беларускі ж акцэнт стаў яшчэ больш невыносны ў спалучэньні з акцэнтам каўкаскім. «Чаму так?» — думаў я. Ня ў словах жа справа. Але як важка гучаць вымаўленыя каўказцам словы — вайна, брат, кроў, пасьля «стукача», «жэншчын», «трахнуць». Нарэшце байцы нябачнае вайны вываліліся ў Жлобіне, чым вельмі ўсьцешылі ўсіх, асабліва правадніцу, якая ўвесь час была заклапочаная — якую яшчэ міліцыю клікаць, калі б тая разборка ў тамбуры прыняла больш сур'ёзныя памеры. «Адкуль яны набіраюць такіх кібаргаў?» — асьцярожна запытаўся ў мяне мой маўклівы сусед.

Я зразумеў сваю рэакцыю на родны акцэнт. У адрозьненьне ад каўкаскага, ці якога іншага, наш акцэнт больш гаворыць пра моўную мёртвасьць чым пра жыцьцё. У ім няма абаяльнасьці іншаземства. Ніхто б не зьдзівіўся, перайдзі абхазец на мову продкаў. Гэтым ён і адрозьніваецца ад сваіх спадарожнікаў. Беларускую мову зь іхных вуснаў пры ўсёй маёй фантазіі ўявіць не магу. Але затое мой слых цешыць любы чужынскі акцэнт у беларускай мове, як факт міжнароднага прызнаньня. Вымаўленае расейцам «чяму» ці палякам «калі ўаска» адразу мяняюць адносіны да суразмоўцы ў цяплейшы бок. Вось толькі не магу ўзгадаць, як гучыць мая мова з вуснаў немца або француза. Як не магу зразумець таксама дыпляматаў з братняга Захаду — чаму яны не адкрылі гэткі маленькі дыпляматычны трук. Адное толькі «спадар прэзыдэнт» гучала б не слабей за любую ноту. Але гэта іх праблемы.

**Зьміцер Бартосік**

асфальту... закатнае сонца адлюстроўваецца ў лужынках... драбнюсенькіх азярках... Зблытаная вяровачка дарог-сьцяжынак. Ня кожнаму — гэтая дарога. Ня кожны — для гэтае Амэрыкі. І свабода — ня кожнаму».

Мастак стварае ТЭКСТ. Мастак патанае ў ім, у карунках ягоных словаў і сказаў: «Чалавек, які патрапіў у Амэрыку — вернецца... каб убачыць Амэрыку сваю: неба, поле, лес, дом...»

Але я гляджу на здымкі — звычайныя беларускія краявіды, кожны зь якіх кажа пра перажываньні мастака. Часам мне здаецца, што ўбачанае я адчуў даўным-даўна, часам — што фіксую момант шчыраваньня. Урэшце адчуваньні сыходзіцца ў адно...

**... Амэрыка мяне больш не цікавіць. Я думаю пра новы кантынэнт Каралеўства.**

**С.К.**

даху», калі нават музыка была лягчэйшай, ды ці варта вяртаць іх наогул. Наўрад, бо з тых часоў шмат што і шмат хто зьмяніліся, і ў першую чаргу — самі слухачы, якія, на жаль ці на шчасьце, ужо ніколі не назавуць Кораня Вячкам. Яны ведаюць і любяць цяперашні «Ulis» і яго цяперашняга саліста.

Як ні дзіўна, галоўныя ўдзельнікі «Вольных танцаў» адыгралі менш за ўсіх. Фатум над «NRM»: пад час амаль кожнага выступу альбо вырубаецца энэргія, альбо ляціць «комбік», альбо яшчэ якая халера, што псуе ўсім настрой. Гэтым разам здарылася першае, пасьля чаго па залі папаўзьлі чуткі пра помсьлівых нядобразычліўцаў, а сам гурт пачалі параўноўваць з каралём (?) Вітаўтам, хоць самі хлопцы ўпарта даводзяць пра ўстойлівую нязьменнасьць дзяржаўнага ладу «NRM».

Акцыя закончылася, а пытаньне засталося: ці выйдуць «Вольныя танцы» за межы «Акварыюму»? Дачакаемся вясны.

**Сяргей Сахараў**

абыйшоў увесь сьвет — перад зрыхтаваным да разгону шэрагам міліцыянтаў стаіць адна-адзіная дзяўчына, і ўказвае на тых, хто наставіў на яе гумовыя палкі. Мы знайшлі гераіню здымка, і даведаліся дакладныя словы, якімі яна змагалася з ворагамі незалежнасьці: «Мужыкі... Ды тут няма каму аддацца!»...

Хто і на што прыйшоў паглядзець 20 лютага ў офіс БНФ? Публіка з аднолькавым імпэтам рэагавала на чытаньне вершаў Славамірам Адамовічам, і на жарты пра «бабсьлей»... Перамагла дзяўчына з Маладога Фронту Натальля Маковік.

Калі рэвалюцыі пачатку стагодзьдзя пачыналіся з кіданьня бомбаў, дык рэвалюцыі сучаснай Эўропы пачыналіся з скідваньня вопраткі. Пераможца конкурсу стала ня толькі адзінай, хто не засаромелася свайго прыгожага цела. Яна зжалілася, і не пасьмяялася з «жартаўлівага журы», але нагадала, што бел-чырвона-белы сьцяг у ейных руках, можа ператварыцца ў дзіду.

**Севярын Квяткоўскі**

# ЖАБА Ў РОЦЕ

У зямлі старых могілак невялікага прыволскага горада Н. ляжаць косткі нікому невядомага цяпер чалавека. Ніхто не прыносіць да іх кветкі. Не прынесьлі іх і 1 лютага, ці ня ў самы значны для чалавека дзень жыцьця. У гэты дзень у 1661 годзе магілёўскія месьцічы ўшчэнт выразалі расейскі гарнізон, які ад пачатку Маскоўскай вайны (1654-1667) займаў места, кантралюючы ладны кавалак Падняпроўя. Паўстанцы далі ўцячы толькі некальким жаўнерам. Сярод іх быў Мітрафан Бортнік.

У гэтым горадзе нарадзіўся мой прыяцель Міця, які часам езьдзіць на адведкі да сваякоў. Я думаю, што ён калі-небудзь прыхопіць маё прывітаньне да месца спачыну таго чалавека, які зьявіўся тры з паловай стагодзьдзі таму, магчыма, адно дзеля таго, каб сёньня, дзякуючы Міцю, шчэ колькі людзей адчулі сябе «белымі»...

**Н. — глыбокая расейская правінцыя, адкуль у дзесяцігадовым узросьце Міця прыехаў настала ў Беларусь.** Ён прызнаўся, што найпершым моцным уражаньнем ад краю была абсалютная абыякавасьць пагодкаў-аднаклясьнікаў да пляжаньня жабаў —самай папулярнай у Н.-скай дзятвы гульні. Да таго ж ён даведаўся, што ў ягоных аднаклясьнікаў, як і ў астатніх тубыльцаў, ёсьць свой «язык», якім яны — дзівакі — не карыстаюцца. Па словах знаёмца, гэтыя ўражаньні нарадзілі ў ім адчуваньне ўласнага дзікунства.

Мінуў час, хлопчык з расейскае глыбінкі вырас у дзядзьку, які адчуў сябе «белым чалавекам», толькі калі зьвязаў першыя сказы, прамоўленыя беларускаю мовай. Цяпер гэтае «белае» адчуваньне мацуе яго на ўсіх шляхах няпростага чалавечага жыцьця. Але Міця кажа па-беларуску толькі калі адчувае сябе ў, так бы мовіць, «паголена-адпрасаваным» стане, каб не кампрамэтаваць сваё адкрыцьцё дзяцінства. Таму ня дзіва, што ён жудасна ненавідзіць «непаголены» беларускі акцэнт...

***

Я згадваю пераломны час, калі на менскіх вуліцах нібы зьніадкуль зьявілася беларуская мова. Калі гучная гамонка ў грамадзкім транспартце па-беларуску высоўвала суразмоўцаў на месца Абраных. Гэта пачалося на пачатаку 90-х, калі мой сябра А. «тусаваўся на Чырвонай», і ўся тасоўка была перакананая, што беларуская мова — гэта новы «круты» прыкол панкаў. А. стаўся свайго кшталту «зоркай». А панкі, як вядома, гэтаксама як і хіпі ці анархісты, лічаць сябе выбранай «кастай».

Адначасова беларуская мова сталася ледзь ня «модай» і сярод простай, і сярод а la чынавенскай публікі, бо зьявілася гэткая «моўная» тэндэнцыя з боку дзяржавы. На жаль, постсавецкая беларусізацыя зьдзяйсьнялася ня «пост», а савецкімі мэтадамі, што выклікала ў хіпі-панкаў-анархістаў і іншых вольналюбівых катэгорыяў людзей натуральнае непрыйманьне. Непрыйманьне, якое яны наіўна інтэрпрэтавалі як абарону ад «нацыяналаў», заангажаваных «шызікаў». У сваіх «кастах» «нацыянал-панк» А. патрапіў у двухсэнсоўнае становішча. Але ненадоўга.

Стаўленьне зьмянілася пасьля 1995 году, калі «абраныя касты» на сваім карку адчула цяжар «сумы праблемаў», які новыя ўлады не дзялілі паміж «абранымі» й «звычайнымі» грамадзянамі. Тады шмат каго з тых лысавалосатых, хто ў свой час «сьцябаўся» з «нацшызікаў», я пабачыў у шэрагах дэманстрантаў, калі яны ПА-БЕЛАРУСКУ скандавалі лёзунгі...

***

... Міцін зямляк Бортнік быў рэкрутаваны ў войска з горада Н. у юнацкім узросьце. Але пасьля магілёўскай «камфузіі» ягоны жыцьцёвы шлях згубіўся дзесьці на абшарах Вялікага Княства, і стаўся вядомым толькі ў 1698 годзе, калі Мітрафан Бортнік у пяцідзесяцігадовым узросьце ўзьнік на тэрыторыі Расеі і паступіў на службу ў маскоўскі Царскі Прыказ. Сярод дзясяткаў чыноўнікаў усіх кшталтаў ён заняў сьціплую, але неабходную расейскай дзяржаве пасаду — перакладчык «белорусскаго языка»...

***

... Беларуская мова літаральна за пару гадоў вялікай часткай грамадзянаў з усіх «кастаў» была асэнсаваная й прынятая як сымбаль Свабоды. Найперш — унутранай свабоды, бо ніводзін зь менскіх хіпі-панкаў-анархістаў (амаль ніводзін) перад тым не адчуваў якую-кольвек нацыянальную, ці, тым больш, моўную дыскрымінацыю. «Матчына» расейская мова як не забаранялася, так і йснуе дагэтуль сабе пацīху, але ж забарона нармальнага жыцьця прыйшла менавіта разам з забаронай беларускае мовы. У гэтых умовах для любых расейскамоўных суразмоўцаў сталася дастатковым вымавіць некалькі беларускіх словаў, каб зразумець, што бачыш перад сабою «свайго» — нармальнага (выбранага?).

«Касты» зьніклі. Засталіся толькі «белыя людзі»...

***

Зямляк Бортніка Міця — ня хіпі, ня панк і не анархіст. Тым больш, ён ня мае нічога агульнага ані з чынавенствам, ані з пралетарыятам. Але, калі трэба, ён можа зарабіць сабе на жыцьцё і зьбіваньнем скрыняў, і адміністратыўнай працай, а калі пашэнціць — сьпевам... Міця па-за кастамі, ён проста ЧАЛАВЕК. Я разумею, чаму ён (акрамя выпадкаў, калі «зазіраюць у лісты й страляюць у сьпіну») перасмыкаецца, калі чуе «беларускі акцэнт» — трасянку...

***

... Для тых абываталяў, якія, як раней, гэтак і цяпер карыстаюць так званую трасянку, беларускія словы існуюць натуральным, а не прыдбаным чынам, і, натуральна, ня могуць быць сымбалем. Гэтыя абываталі — беларускі народ. Большасьць, чый палітычны, сацыяльны, і культурны выбар зьдзяйсьняецца паводле абсалютова невытлумачальных (для іх самых) прынцыпаў.

Што такое трасянка? Ці зрабіў хто з філёлягаў выкладку, якая б паказвала, што ёсьць беларускай з дамешкам расейскай, і наадварот?

Я памятаю, як падчас школьнае экскурсіі ў Піцер з прыемнасьцю даведаўся, што я «говорю как-то не так». А перад тым у пяцігадовым узросьце ў бабульчынай вёсцы я быў засьмяяны за тое, што «гуси гогочут». З часам гусі пачалі «гагатаць». Я ПРЫДБАЎ тое, што «народу» дадзенае воляй лёсу: праз «трасянку»...

«Перадавая частка моладзі» амаль усёй Эўропы — «хіпі-панкі-анархісты», тыя, што ставяць унутраную свабоду вышэй за ўсё, — ужо ці не паўстагодзьдзя ўжывае своеасаблівую англа-...скую «трасянку». Гэта «піплы», якія жывуць у «флэтах» разам з «герламі», і носяць на нагах «шузы»... Звычайны размоўны слэнг, падставы ўзьнікненьня якога ўжо даўна забытыя, паколькі забыты перасьлед рок-музыкі й спадарожных ёй урбаністычных субкультураў.

У Беларусі гэтая мова разьвілася далей, прырасла так званым гратэскавым «нармальным языком» — «інтэлігенцкай трасянкай». Гэта гратэск, які паўстаў на глебе самаабароны ад «няправільнасьці» трасянкі, ейнае падначаленасьці, але пры гэтым і як прыкмета прызнаньня тарашкевіцы.

Сёньня для вялікай часткі людзей гэты сьцёб згубіў сваю актуальнасьць. Насамрэч ані расейская, ані трасянка ня ёсьць аб'ектыўнай пагрозай для адчуваньня ўнутранае свабоды, сымбаль якой быў адкрыты расейскамоўнай большасьцю зусім нядаўна...

***

... Пачаўшы перакладаць з «белорусскаго» праз год пасьля таго, як рашэньнем Вальнага Сойму 1697 году «язык» зьнік як юрыдычны факт, Бортнік скончыў займацца гэтай справай толькі калі «надобность» у ёй адпала й на ягонай радзіме. Тады, калі Пётар Першы завяршыў сваю Паўночную вайну, па якой Рэч Паспалітая дэ факта пераўтварылася ў расейскую «падмандатную тэрыторыю».

«Белорусскій языкъ» прывёў досыць сталага ўжо на той час Бортніка да стану «белага чалавека»: з прыблуды-ваякі ён ператварыўся ў рэспэктабэльнага «мэна», які скончыў сваю кар'еру, кажучы сучаснай мовай, «загадчыкам дэпартамэнту перакладаў». Ну, а тое, што гэта яго не ўбараніла ад царскае няміласьці, і на старасьці гадоў ён быў сасланы ў родны горад — ня ў лік. Бортнік ведаў, куды вяртаўся...

***

... Часам мне здаецца, што, гаворачы па-беларуску, Міця ня проста выкладае свае думкі, але штосэкунды зьдзяйсьняе ЧЫН. Што варта яму хоць слова прамовіць па-расейску, як ягоныя вочы адразу ж пачнуць шукаць у навакольлі якую-небудзь жабу. Што кожнае слова, прамоўленае па-беларуску «няправільна», успрымаецца ім, як згадка менавіта пра тую «жабу», як намёк на ягонае таямнічае нерэалізаванае памкненьне.

Міціна прозьвішча Бортнік. Ягоны продак трыста зь лішкам гадоў таму ў нашым краі адкрыў для сябе панятак волі. Але ён ня змог быць сярод вольных людзей, і вярнуўся ў сваю краіну Халопаў Аднаго Цара. Трыста гадоў таму Мітрафан здрадзіў адкрыцьцю маладосьці. Бо немагчыма быць адным «белым» сярод «нэграў». Але я ведаю, што ён вярнуўся Міцем. Вярнуўся на сваю сапраўдную Радзіму. У Краіну-Волю, чыя тэрыторыя за трыста гадоў зьменшала да россыпу пацерак на мапе. Міця — адна з гэтых пацерак.

Таму, слухаючы, як у спрэчцы аб «балотнасьці» беларускага акцэнту ён хвалюецца й неўпрыкмет для сябе «чекае» й «рекае», я лію «тлушч на вагонь» дражнілкай-трасянкай і ўсьміхаюся. Ён дарма хвалюецца. Бо не падазрае, што, зьехаўшы на адведкі сваякоў у год свайго, нікому невядомага сваяка, ён ужо ня ўбачыць «жабаў» дзяцінства.

Ён не скантрабандуе, а зьвязе на радзіму «беларускі акцэнт».

**Севярын Квяткоўскі**

# Армія, што не належыць рэжыму

## КОЛЬКІ САЛДАТУ ТРЭБА ДЛЯ ПОЎНАГА ЖЫВАТА

«Прывітаньне! Мы вось тут зь Віцьком вырашылі аб'яднаць свае магчымасьці ў гэтай нялёгкай справе (напісаньні ліста. — **С.А.**). Па-першае, называй мяне проста Джыга, альбо Яша Безнадзёга. Сапраўднага прозьвішча я ўжо ня памятаю. Прабач, даўно не размаўляў па-беларуску, таму будуць трапляцца перакручаныя словы. Сам я зь вясёлай мясьціны пад назвай Бяроза. Прыкметны гарадок, ёсьць там і жывыя людзі, як і паўсюль. Панк я, чорны нефармал-ненармал. Чакаю, калі ж мяне адпусьцяць дахаты. Засталося ня вельмі многа. Цэлы дзень мы сядзім, нічога ня робім. Толькі прыкалваемся з гэтага б... І «папяровы дзед» зусім распусьціўся, прыходзіцца дзембелю пісаць. Просіць прыслаць газэту «Свабода».

... А колькі салдату трэба для поўнага жывата? Сёньня дзянёк выхадны. Да ўсіх мамкі з таткамі пад'яжджаюць. Вось і перабіваемся мы цэлы дзень з кілбасы на печыва, з сала на сочыва з катлетамі. Ня дзіва, што пасьля такой пякельнай сумесі сьціскае дыханьне. А кабеты тут зьяўляюцца, як той казаў, стой і ня падай. Адразу сумна робіцца. Вось і Віцёк наш адкінуўся на сьпінку крэсла, заплюшчыў вочы і задумаўся. Ну а я думаю, што пара завяршаць сваю пісаніну... Няхай жыве Беларусь! Якушык Андрэй».

Гэты ліст мне даслалі два салдаты N-скай часткі сучаснай беларускай арміі. Адзін ужо вярнуўся ў цывільнае жыцьцё, у другога дзембель сёлета ў ліпені. Ад аднога зь іх я даведаўся пра існаваньне ў нашым войску своеасаблівых «арыштанцкіх ротаў» — баявых падразьдзелаў, укамплектаваных асобамі, якія маюць судзімасьць, гэта значыць, што ў пераважнай большасьці яны прайшлі праз турму.

Цяпер у беларускай арміі прызыўнікі служаць усяго васямнаццаць месяцаў. Пры гэтым кожныя выхадныя родныя могуць наведваць свайго салдата ў часьці, калі толькі ён не на дзяжурстве. Калі салдат спраўляецца па службе, начальнік часьці можа адправіць яго ў кароткі альбо доўгатэрміновы — дзён на 20 — адпачынак. Тым ня менш, усе гэтыя даброты службы не здымаюць праблемы дзедаўшчыны: нарастае дэградацыя радавога і сяржанцкага саставу. Зрэшты, як і афіцэрскага корпусу. І калі сярод салдат і сяржантаў застаюцца актуальнымі суіцыд, дэзэртырства з захопам зброі і расстрэл саслужыўцаў, то матэрыльная нястача афіцэраў штурхае апошніх на злоўжываньне службовым становішчам, што прыводзіць іх на лаву падсудных. Цяпер у турмах рэжыму акрамя бардаў, паэтаў, бутлегераў, прадпрымальнікаў, банкіраў ды іншай гарапашнай публікі сядзяць і афіцэры ад старлея да палкоўніка. Можна сказаць, што гэтыя людзі, афіцэры беларускай арміі, страцілі гонар. А можна і інакш разважыць: беларуская армія (за выключэньнем генэралітэту) застаецца адзінай структурай, на якую сёньня ня можа разьлічваць рэжым Лукашэнкі. І таму рэжым імкнецца падавіць армію матэрыяльна. Рэжыму ўвогуле не патрэбная баяздольная кадравая армія. Рэжыму патрэбная армія ўнутраная — міліцыя, якая ўяўляе сабой дэклясаваны элемэнт з індульгенцыяй на ўседазволенасьць. Гэтыя высновы пацьвярджае мая размова з афіцэрам былой Віцебскай паветрана-дэсантнай дывізіі.

## СТАРЫ САВЕЦКІ ГАРДЭРОБЧЫК

Мы сустрэліся зь ім у купэйным вагоне цягніка «Баранавічы — Полацак». Я ехаў забіраць зь Віцебскага аблсуда свае арыштаваныя рэчы, мой сусед па купэ вяртаўся ў сваю родную «Баравуху-1», на тэрыторыю, дзе і сёньня функцыянуюць казармы, пабудаваныя яшчэ ў 1940 годзе, і ў якіх зімой тэмпэратура апускаецца да плюс сямі градусаў паводле Цэльсія. На думку трыццацітрохгадовага капітана ВДВ, сёньня беларуская армія налічвае ўсяго каля сямідзесяці тысячаў вайскоўцаў, у той час як у органах унутраных справаў «пад ружжом» знаходзіцца каля ста пяцідзесяці тысячаў чалавек. Кадравую армію будуць і далей скарачаць. Міліцэйскі корпус мае тэндэнцыю да далейшага павелічэньня.

Калі я згадваю пра ППРБ, капітан рэагуе адназначна нэгатыўна. Ён сьцьвярджае, што армія ня любіць свайго «галоўнакамандуючага», а калі настане час «Ч», яна не дазволіць уцягнуць сябе ў вайну супраць уласнага народа.

І яшчэ распавёў мне капітан. Некалі, чакаючы, што хутка старую савецкую вопратку заменяць на новую ваенную форму новай беларускай арміі, ён пасьпяшаўся аддаць некаторыя рэчы свайго афіцэрскага гардэробу на даношваньне ўласнаму бацьку. Аднак новай формы капітан так і не атрымаў. Цяпер свой стары савецкі гардэробчык капітан даношвае сам. Побач зь ім шыракаплечыя амонаўцы ў сьвежай дыхтоўнай форме выглядаюць антычнымі героямі. Дарэчы, як паведаміў капітан, цяпер міліцыі нададзеныя правы вайсковых патрулёў. Вось чаму апошніх вельмі рэдка можна ўбачыць нават у раёне Прывакзальнай плошчы нашай сталіцы. Затое тройкі ў форме попельна-фіялетавага колеру ня ўпусьцяць момант, каб зацягнуць у камэндатуру падвыпітага салдата альбо афіцэра, альбо проста ў цёмным кутку адбіць вайскоўцу ныркі, не абцяжарваючы сябе фармальнасьцямі прававога характару ды службовымі інструкцыямі.

## ІНТЭНДАНТ

З палкоўнікам N. мы сустрэліся ў ягонай двухпакаёвай кватэры, у доме, пабудаваным турэцкімі рабочымі для афіцэраў з ГСВГ. Некалькі старых дываноў, канапа ў залі, два мяккія крэслы з абшарпанымі



падлакотнікамі, гаўбец, на якім стаяць скрыні зялёнага колеру, нешта падобнае ці то на сэрвант, ці то на модную сярод абывателя 80-х «сьценку» з паліцай, запоўненую кнігамі, якія былі выдадзеныя таксама ў мінулым дзесяцігодзьдзі. Зь беларускіх выданьняў сіратліва пазіралі толькі «Легенды і паданьні» з сэрыі «Беларуская народная творчасьць».

Нельга не заўважыць, што такі сьціплы інтэр'ер знаходзіцца ў кватэры палкоўніка, які зьяўляецца намесьнікам начальніка адной з базаў захаваньня рэчавай маёмасьці. У 1995 годзе ўсё ранейшае кіраўніцтва базы было арыштаванае, тылавікі атрымалі розныя тэрміны пакараньня. Але хто дасьць гарантыю, што і новыя работнікі не паквапяцца на матэрыяльныя каштоўнасьці, якія ім даручана захоўваць? Той жа палкоўнік N. сёньня атрымлівае зарплату ў суме тры мільёны пяцьсот тысячаў, а матэрыяльную адказнасьць нясе за маёмасьць, якая каштуе не адзін мільярд нашых беларускіх рублёў. Я яшчэ не сказаў, што ў майго знаёмага начбазы ёсьць стары «Масквіч», на якім ён возіць сваіх жонку, дачку й сына ў вёску да бацькоў. Сын дапамагае бацькам па гаспадарцы, бацькі дапамагаюць сыну прадуктамі. Праз паўтары гады сын можа пайсьці на законную вайсковую пэнсію. І будзе ён мець няпоўныя трыццаць восем. А пакуль што палкоўнік N. набывае ў калегаў самагон, каб потым зь яго дапамогай агараць для свайго аўтамабіля гараж, а пасьля Вялікадня, калі адтане й прагрэецца грунт, пачне рыхтаваць цяплічку пад новы ўраджай пад вокнамі сваёй турэцкай кватэры.

Каб правесьці поўную інвэнтарызацыю базы, кажа палкоўнік N., паводле ягоных падлікаў, спатрэбіцца два гады. А інвэнтарызаваць на складах ёсьць што. Напрыклад, тысячы жаночых станікаў і бандажных паясоў, выробленых яшчэ ў пачатку шасьцідзясятых. Што рабіць з гэтым маральна састарэлым прычындальлем, вайсковае начальства ня ведае. Калі ж я расказаў гэтую навіну адной знаёмай, яна заўважыла, што станікі 60-х сёньня сапраўды нікога не зацікавяць, а вось паясы — гэта актуальна, гэта, бадай, дэфіцыт. Словы жанчыны, прытым мэдыка, мне ў гэтым пытаньні аспрэчваць не выпадае.

Акрамя станікаў спарахнелым грузам ляжаць на складах палаткі — яшчэ з сорак трэцяга, а таксама салдацкія гімнасьцёркі, галіфэ і нацельнае той самай пары. Некалькі гадоў таму назад гэткія «ўборы» спрабавалі прадаваць у краме «Паляўнічы», што на праспэкце імя Ф.Скарыны ў Менску.

На маё пытаньне да палкоўніка, як ён расцэньвае нядаўнія заявы дзяржаўнага тэлебачаньня пра наяўнасьць у Беларусі матэрыялу, прыдатнага для стварэньня ядзернай зброі, афіцэр адказаў, што ўсё можа быць. І потым, хіба ў свой час не маглі з нашай Краіны вывезьці толькі ракетаносьбіты і пакінуць пару-тройку ядзерных боегаловак? Зрэшты, калі ўзьнікне пільная патрэба, то на тэрыторыю Рэспублікі можна вельмі хутка вярнуць са смаленскіх лясоў ракетныя комплексы «Тополь».

Так мяркуе палкоўнік N.

Іншая інфармаваная крыніца сьцьвярджае, што цяпер у Беларусі над стварэньнем чагосьці кшталту расшчапляльных матэрыялаў працуе некалькі былых супрацоўнікаў расейскіх ядзерных цэнтраў. Застаецца толькі даведацца, чаму яны пакінулі тыя цэнтры? Хіба ППРБ паабяцаў большыя ганарары?

## АФІЦЭРЫ З САРАТАВА, ЛІПЕЦКА, ТУЛЫ...

Армія не належыць рэжыму. Нават і цяпер, калі зь яе шэрагаў звольнілі шмат прыстойных афіцэраў і прапаршчыкаў, прафэсіяналаў сваёй справы.

Армія яшчэ не падпала пад волю «галоўнакамандуючага», таму ў яе здаровы арганізм актыўна імкнуцца пранікнуць паразіты — носьбіты расейскага імпэрыялізму.

Летась прайшоў першы афіцэрскі сход Узброеных Сілаў Беларусі. З дакладам выступіў міністар абароны генэрал-палкоўнік Аляксандар Чумакоў, прысутнічалі Лукашэнка і ягоны памагаты ў справах нацыянальнае бясьпекі Шэйман. У сваім дакладзе ППРБ выказаў «удзячнасьць за разуменьне сытуацыі, за адданасьць Айчыне», а таксама «за падтрымку на леташнім рэфэрэндуме, актыўнасьць у працэсе інтэграцыйнага збліжэньня Беларусі і Расеі». На прэзыдэнцкія кампліманты афіцэрскаму корпусу генэрал-палкоўнік адказаў сваімі. Намаганьні Лукашэнкі як найхутчэй і спрытней давесьці Беларусь да інкарпарацыі ў суседнюю краіну, на думку Чумакова, «поўнасьцю падтрымліваюцца асабовым складам Узброеных Сілаў».

Увогуле даклад міністра абароны не вытрымлівае ніякай крытыкі, бо зроблены з адзінаю мэтаю — каб спадабалася «галоўнакамандуючаму». Таму і заяўляе не зьміргнуўшы вокам таварыш Чумакоў, гаворачы пра праблему нестатутных узаемаадносін паміж вайскоўцамі, што «на сёньняшні дзень у цэлым па Ўзброеных Сілах Рэспублікі Беларусь яна практычна зьнятая з парадку дня». Так што калі заўтра, ня дай Бог, беларускі навабранец ускрые сабе вены, абараняючыся такім чынам ад гвалту «дзядоў», то гэты выпадак ня стане фактам статыстыкі. І калі іншы салдат загіне ад пабояў у 5-й «арыштанцкай» роце адной з танкавых часьцей у сумнавядомых «Печах», што пад Барысавам, то бацькам напішуць: памёр ад вострай сардэчнай недастатковасьці.

Армія не належыць рэжыму. Што ж да генэралітэту, дык тут больш складана: генэралам у іх веку хочацца спакою. У нашых умовах такое жаданьне вядзе да калябарацыянізму, калі так выразна ўяўляецца, быццам яшчэ некалькі дзясяткаў гадоў таму ты даў прысягу не народу, а асабіста ППРБ.

Гаворачы аб праблемах нашай арміі, як не пацікавіцца нацыянальнай прыналежнасьцю таго ці іншага афіцэра, які займае тую ці іншую адказную пасаду. Напрыклад, беглы аналіз прэзыдэнцкіх прызначэньняў у 1997 годзе дае наступную карціну.

Аляксандар Сяргеевіч Хрыстафораў, генэрал-маёр, народжаны 9.09.1946 у в. Енгалычава Саратаўскай вобласьці —прызначаны начальнікам тылу Ўзброеных Сілаў Беларусі.

Аляксандар Ільіч Скачкоў, палкоўнік, народжаны 23.07.1950 у пас. Птань Тульскай вобласьці —прызначаны камандзірам Мабільных сілаў.

Сяргей Васільевіч Жыціхін, палкоўнік, народжаны 8.02.1955 у г. Кабанску, Бураты́я — прызначаны начальнікам упраўленьня зьнешніх сувязяў Міністэрства абароны Беларусі.

Аляксей Васільевіч Мудрак, палкоўнік, народжаны 1.04.1951 ў сяле Нова-Міхайлаўка Амурскай вобласьці — прызначаны камандзірам 6-й гвардзейскай асобнай мэханізаванай брыгады 28-га армейскага корпусу.

Аляксандар Аляксандравіч Новікаў, палкоўнік, народжаны 7.10.1951 году ў г. Чаплыгін Ліпецкай вобласьці —прызначаны начальнікам штабу — намесьнікам камандзіра 65-га армейскага корпусу...

## ТАНКІ

Сёньня беларуская армія налічвае 1778 танкаў. Арганізацыйна яны ўваходзяць у склад двух танкавых палкоў 120-й гвардзейскай мотастралковай дывізіі, танкавых батальёнаў асобных мэханізаваных брыгад і базаў захаваньня ўзбраеньня і тэхнікі. Галоўнай баявой машынай танкістаў зьяўляецца танк Т-72.

У верасьні 1995 году на базе 103-й гвардзейскай паветрана-дэсантнай дывізіі і 38-й гвардзейскай асобнай паветрана-дэсантнай брыгады створаныя Мабільныя сілы Рэспублікі, якія складаюцца з трох мабільных брыгад, дысьлякаваных у Віцебску, Баравусе, што пад Полацкам, і ў Берасьці.

Менавіта ў гэтых Мабільных сілах служыць мой знаёмы капітан, які ня носіць форму з годнасьцю афіцэра, а мусіць дашоўваць тое, што яшчэ ацалела.

Менавіта ў адной з танкавых часьцей Барысава рэзаў вены знаёмы мне салдат Віктар.

І ўсё ж армія выклікае да сябе павагу. Перш за ўсё за тое, што не ваюе супраць уласнага народа. І ня будзе, як бы ні заігрывалі зь ёю камісары рэжыму.

***

2 ліпеня мінулага году надвечар было чыста і сьвежа пасьля дажджу. Публіка гуляла ў сталічным Купалаўскім сквэры. Здаецца, аб гэтым дні каля помніка Янку Купалу паэты чыталі вершы. Мы з групай яшчэ не зусім старых літаратараў пілі піва, празаік расказваў сюжэты сваіх будучых апавяданьняў.

І раптам цішыню надвячорка ўзарваў моцны, нязвыклы для вуха грукат, з боку Круглай плошчы ішлі баявыя машыны: цяжкія прыземістыя танкі, цягачы з ракетнымі ўстаноўкамі, бронетранспарцёры, камандзірскія «ўазікі». Мы забыліся пра піва і рынулі да праспэкту. Кожны з нас успомніў сваю савецкую армію, свой род войскаў...

Хацелася перакуліцца ў жанчыну ды кідаць кветкі пад ногі ваенным. Ды і было за што: хлопцы шчыра ўсьміхаліся, а некаторыя ў адказ на нашыя прывітальныя воклічы гукалі «Жыве Беларусь!»

Як сабе хто, а я люблю вайсковую форму, зладжаны рух салдацкіх калён і сьцягі над імі, і барабанны бой. Люблю сапраўдную зброю. Бо мы служылі і навучыліся трымаць яе ў руках як сьлед.

**Славамір Адамовіч**

# ІНФАРМАТАР



## Бясплатныя прыватныя абвесткі

Баўгарская, польская мовы: пераклады якой заўгодна складанасьці, індывідуальнае навучаньне. Тэл.: 221-23-68

Шукаю паштовыя маркі БНР. 211408, Полацак, вул. Невельскага 55-54, тэл.: 4-78-62

Прычына заняпаду Беларусі — дэградацыя эліты. Нашая задача — яе адраджэньне. Нацыя патрабуе байцоў Ідэі. Тэл.: 2738-516. Андрусь

Хто цікавіцца Беларушчынай, замаўляйце і набывайце аўдыёкасэты айчынных бардаў, сьпевакоў і музыкаў розных часоў. Тэл.: 257-93-11. Тацяна Цыркунова

Zaprašajem patryjotaŭ VKL! Lićviny, hurtujciesia!!! 246012, Homiel, a/s 124

MHAT «Lićviny» zaprašaje patryjotaŭ našaj baćkauščyny — VKL!!! Imia, nacyja, samabytnaść!!! 246012, Homiel, a/s 124

Young man (26) looking for speaking English guy with same interests for friendship. Call: 221-92-05

Каханую дзяўчынку Воленьку віншую з днём нараджэньня. Жадаю ўпэўненасьці ў нашай перамозе. Юрась

Моргун з Баранавічаў. Ты патрэбны ЗБСу й іншым маладзёвым арганізацыям горада. Тэл.: (01634) 5-74-40. Руслан Равяка

Строй жаночы трыкатажны новы (п.48) прадам. Тэл.: 221-23-68

Настройка й дробны рамонт піяніна. Тэл.: 221-23-68

Фартэпіяна, сальфэджыо: індывідуальныя заняткі. Тэл.: 221-23-68

С.Адамовіча зборнікі вершаў для сябе куплю. С.Адамовіча касэту зь вершамі куплю. Тэл.: 298-82-26

Юрыдычныя кансультацыі поштай. Заяўка і капэрта са зв/а. Танна. 220009, Менск, а/с 113, «Nick»

**КУПОН**

**Бясплатнай прыватнай абвесткі**

*Тэкст:*

*Імя і прозьвішча*

*Адрас, тэлефон*

Запоўніце гэты купон і мы надрук... абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. ... Менск, а/с 71

НАША НІВА







# БЕЛАРУСКІ ПАТРЫЯТЫЧНЫ СЬПЕЎНІК

## МАРШ «РАЗЬВІТАНЬНЕ»

*Муз. Н.Іванова*
*Словы У.Лойкі*

1. Бывай, мой родны кут і зьвяз!
Бывайце вы, лугі і гоні!
Іду ад вас апошні раз
Пад знакам слаўнае Пагоні. | *двойчы*

2. За волю ў бой жыцьцё заве,
Мае змагарныя дарогі.
Купальскай кветкі не сарве
Ніхто ў душы мне без трывогі.

3. Я сам пайду за край, народ
Упорна песьняй роднай, звонкай,
Пад буру жудкіх непагод,
Мяне што мучаць і старонку.

4. Мо лягу дзесьці я ў далі
Пад небам хмарным ці сьсінелым, —
Паўстануць тысячы зь зямлі
Пад сьцягам бел-чырвона-белым!

5. Бывай, мой родны кут і зьвяз!
Бывайце вы, лугі і гоні!
Хай бачу ў лучнасьці я вас,
Пад сьцягам слаўнае Пагоні! | *двойчы*




Маршам

*Шаноўныя чытачы! Рэдакцыя набудзе ўсе нумары «Нашае Нівы» за 1996 год і асобныя нумары за 1996 г.: №3, 4, 17-22, 29 і за 1997 г.: №9-26, 25-26 (2 асобнікі), 27-28, 29-30*

# Паведамленьне Заходнепалескага таварыства

240 гадоў таму ў маёнтку Бабрыўцы-Скокі пад Берасьцем нарадзіўся клясык польскай літаратуры Юльян Урсын Нямцэвіч, які, апроч таго, быў ад'ютантам Касьцюшкі і разам зь ім сядзеў пасьля ў Петрапаўлаўскай фартэцыі. З гэтай нагоды Заходнепалескае навуковае таварыства разам зь Менскім лінгвістычным унівэрсытэтам наладзіла круглы стол. Пра лёс і творчасьць ліцьвінскага пісьменьніка й паэта распавялі Вольга Судлянкова і Мікалай Лыпко, а Кастусь Цьвірка прадставіў пляны выданьня кніжкі Нямцэвіча, улюбёнага аўтара Караленкі й Кэмпбэла ў сэрыі «Беларускі кнігазбор».

Маёнтак Нямцэвічаў захаваўся, хоць і моцна пацярпеў ад разрабаваньня мясцовымі жыхарамі ў 1944-45 гадах, а касьцёл расьцяглі амаль дашчэнту, і шчэ дагэтуль стаяць хаты з падлогамі з касьцёльных дошак у Бабрыўцах, а некаторыя людзі носяць заручальныя пярсьцёнкі, зьнятыя зь нябожчыкаў у касьцёльных пахаваньнях...

Наступнае паседжаньне Заходнепалескага таварыства будзе прысьвечанае яшчэ аднаму выдатнаму польскамоўнаму пісьменьніку Францішку Віславуху, чые творы неўзабаве будуць надрукаваныя ў часопісе «Спадчына». Інфармацыя праз тэл.: 231-55-71 у Менску.

**Андрэй Пацяюк**




**На гэтым тыдні распачынаецца рассылка кнігі прозы Васіля Быкава «Сьцяна» тым нашым чытачам, якія зрабілі папярэднюю аплату выданьня. «Наша Ніва» прыносіць прабачэньні за затрымкі, зьвязаныя з тэхнічнымі прычынамі.**

Іншыя ахвотныя могуць атрымаць кнігу паводле стандартных правілаў сыстэмы «Кніга-поштай» (гл. № 50).

## КНІГІ – ПОШТАЙ

**Каб замовіць патрэбную Вам кнігу, неабходна пазначаную суму плюс суму за перасылку праз пошту пералічыць на наступны рахунак:** БГФ «Наша Ніва» р/р 3015201930039 «Гарант» філія АКБ «Поіск» г. Менску, Код 987.

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары «Для пісьмовага паведамленьня» указаць назву кнігі й Ваш дакладны паштовы адрас і, калі ёсьць, тэлефон.

*Зьвяртацца можна праз пошту: 220085 Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч.*

| № | Аўтар і назва | кошт | кошт перасылкі |
|---|---|---|---|
| 1 | Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў. | 60.000 | 16.000 |
| 2 | А.Лукашук. Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста. | 28.000 | 12.000 |
| 3 | А.Цьвікевіч. «Западноруссизм». Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў 19 і пачатку 20 в. | 40.000 | 16.000 |
| 4 | І.Абдзіраловіч. Адвечным шляхам. Дасьледзіны беларускага сьветапогляду. | 10.000 | 10.000 |
| 5 | Е.Ширяев. Русь Белая, Русь Чёрная и Литва в картах. | 40.000 | 12.000 |
| 6 | М.Говард. Сучасная культурная антрапалёгія. | 25.000 | 16.000 |
| 7 | У.Ла Бар. Асабістасьць з псыхалягічнага пункту гледжаньня. | 12.000 | 10.000 |
| 8 | Дж.Эйчысан. Гаваркія істоты. Уводзіны ў псыхалінгвістыку. | 10.000 | 12.000 |
| 9 | Што такое параўнальнае літаратуразнаўства. | 25.000 | 12.000 |
| 10 | Б.Фэйган. Уводзіны ў археалёгію. | 10.000 | 12.000 |
| 11 | Дж.Лоўзі. Гістарычныя ўводзіны ў філязофію навукі. | 20.000 | 12.000 |
| 12 | Ж.Дзюрасэль. Эўропа з 1815 году да нашых дзён. | 15.000 | 16.000 |
| 13 | Ф.Брэтон. Выбух камунікацыі. | 20.000 | 12.000 |
| 14 | Ж.Эрш. Філязофскае здумленьне. | 30.000 | 12.000 |
| 15 | Ш.Дэбаш. Уводзіны ў палітыку. | 30000 | 16.000 |
| 16 | К.Рын. Дэмакратыя і этычнае жыцьцё. | 25.000 | 10.000 |
| 17 | Дж.Бэрдшоў. Эканоміка. Ч1: Мікраэканоміка. Дапаможнік для студэнтаў. | 45.000 | 20.000 |
| 19 | Фрагмэнты (філязофіі, культуралёгіі, літаратуры) №2(97) | 40.000 | 20.000 |
| 20 | Крыўя. №1, 1994 | 45.000 | 12.000 |
| 21 | Крыўя. №1, 1996 | 55.000 | 12.000 |
| 22 | В.Кіпель. Беларусы ў ЗША. | 15.000 | 16.000 |
| 23 | М.Грыгор'еў. Войска ВКЛ ад Сасаў да Касьцюшкі. | 20.000 | 10.000 |
| 24 | Т.Сапач. Восень. | 10.000 | 6.000 |
| 25 | А.Глёбус. Толькі не гавары маёй маме. | 30.000 | 16.000 |
| 26 | А.Глёбус. Скрыжаваньне. | 10.000 | 6.000 |
| 27 | Э.Сміт. Нацыяналізм у дваццатым стагодзьдзі. | 15.000 | 12.000 |
| 28 | Беларускі вайсковы строй і зброя. | 20.000 | 6.000 |
| 29 | Беларускі рок-н-рол. | 10.000 | 6.000 |
| 30 | П.Бэрк. Рэнэсанс. | 25.000 | 12.000 |
| 31 | Ю.Штайнэр. Эўрапейскія дэмакратыі. | 25.000 | 20.000 |
| 32 | Ё.Тэрборн. Эўропа сёньня і заўтра(1945-2000). | 32.000 | 16.000 |
| 33 | А.Дэні. Гісторыя эканамічнай думкі. | 70.000 | 24.000 |
| 34 | Я.Найдзюк. Беларусь учора і сёньня. | 30.000 | 12.000 |
| 35 | В.Гапоненка. Іван Яркоўскі. У пошуках гармоніі сусьвету. | 10.000 | 6.000 |
| 36 | А.Ятусевіч. Слоўнік зоапаразіталагічных тэрмінаў. | 20.000 | 10.000 |
| 37 | Ніл Гілевіч. Любоў прасьветлая. | 35.000 | 12.000 |
| 38 | С.Станкевіч. Русіфікацыя беларускае мовы ў БССР і супраціў русіфікацыйнаму працэсу. | 10.000 | 6.000 |
| 39 | Г.Сяржаніна. Беларуская навуковая тэрміналёгія. Біялёгія. | 10.000 | 10.000 |
| 40 | Ніл Гілевіч. Талісман. | 15.000 | 10.000 |
| 41 | Я.Станкевіч. Маленькі МАСКОЎСКА-БЕЛАРУСКІ слоўнічак. | 10.000 | 6.000 |
| 42 | Л.Мірачыцкі. Сьветлым ценем Адама Міцкевіча. | 10.000 | 6.000 |
| 43 | Рэформа беларускага правапісу 1933 года. | 6.000 | 6.000 |
| 44 | Ул.Арлоў. Адкуль наш род. | 85.000 | 15.000 |
| 45 | Я.Запруднік. Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях. | 55.000 | 16.000 |
| 46 | Новы Запавет. | 65.000 | 16.000 |
| 47 | Каралеўства Беларусь: Посткаляніяльная культура. | 105.000 | 15.000 |
| 48 | А Лукашук.«За кіпучай чэкісцкай работай» | 50.000 | 12.000 |
| 49 | Канвэер сьмерці | 240.000 | 20.000 |
| 50 | Васіль Быкаў. Сьцяна. | 92.000 | 20.000 |

**ДЗІЦЯЧАЯ КНІГА**

| № | Аўтар і назва | кошт | кошт перасылкі |
|---|---|---|---|
| 1 | Кася ў школцы. | 9.000 | 14.000 |
| 2 | Шарль Пэро. Чарадзейныя казкі. | 20.000 | 26.000 |
| 3 | Лагодны Цмок. | 15.000 | 21.000 |
| 4 | Гарасьо Кірога. Казкі трапічнага лесу. | 15.000 | 21.000 |
| 5 | Графіня дэ Сэгюр. Зачараваная хатка. | 20.000 | 26.000 |
| 6 | Марві Яла. Дзівосная Ноч. | 15.000 | 21,000 |

## КАСЭТЫ – ПОШТАЙ

***На складзе БГФ "Наша Ніва" ёсьць касэты (кошт 42.000 + 7.000 БРБ)***

Ален. Нармалёк (1995)
Ален. Нармалёк 2 альбо Мафія (1996)
Вольга Акуліч.Трохкутнік
Вальжына Цярэшчанка (1991-1995)
Беларускія народныя казкі
Музычныя казкі (1996)
Бонда. Найлепшыя песьні
Данчык. Я ад вас далёка. Мы адной табе належым
Данчык. Мы яшчэ сустрэнемся.
Новае неба. Дзеці чорнага гораду (1991)
Новае неба. Сон у трамваі (1994)
Новае неба. Go home (1995)
Новае неба. Мая краіна (1996)
Крама. Хворы на рок-н-рол (1993)
Крама. Гэй, там, налівай! (1994)
Крама. Камэндант (1995)
Крама. Лепшыя песьні (1993-1995)
Мроя. Найлепшыя песьні з праграмаў 1988-1990
NRM. ŁaŁaŁaŁa (1995.)
NRM. Одзірыдзідзіна (1996)
Беларуская музычная літаратура (т.1-4)
Залаты фонд Беларускага рок-н-ролу (т.1-5) т.1. Бонда. Уліс. Рэй. Мясцовы час. Блізьняты (1986-1990) т.2. Бонда. Уліс. Мроя. Крама. Новае неба. Мясцовы час. Тутэйшыя хлопцы (1990-1993) т.3. Золотая середина. Отражение. Алексей Шедько & Доктор Моро. Гранит. Метро. Сузор'е. Зартипо (1986-1991) т.4. Палац. Уліс. Крама. Новае неба. Мроя (1992-1994) т.5. Зиндан. Why Not. Отражение. Инспектор. Торнадо. Флэт (1992-1994)
Рок па вакацыях-96 (НРМ. Уліс. Флэт. Торнадо. Крама. Рублёвая зона. Новае неба. А.Шадзько і А.Юшын)
Будзьце аптымістамі, рабіце дзетак (Новае неба. Ляпис Трубецкой. НРМ. Палац, 1996)
Беларускі джаз т.1. Рэнэсанс т.2. Ігар Сафонаў т.3. Яблычная гарбата. Пчаліны танец.
Беларуская гітарная музыка (1996)
Беларуская сымфанічная музыка (1996)
Яўген Паплаўскі. Творы (1996)
Лепшыя музычна-драматычныя творы радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная» т.1. Чалавек, якому хацелася ўсяго (памяці Ф.Мэркуры) т.2. Лесьвіца ў нябёсы (фантазія па матывах Лед Зэпэлін, Робэрта Планта і Рычарда Баха) т.3. Танец поўні (прагулка са Стынгам)
Андрэй Мельнікаў. Успамін (1994-1995)
Андрэй Мельнікаў. Салам Саўкам (1993)
Андрэй Мельнікаў. Песьні выгнаньня (1991-1993)
Андрэй Мельнікаў. Камяні майго вогнішча (1994-1995)
Андрэй Мельнікаў. Да апошняга камісара (1995-1996)
Андрэй Мельнікаў. Гэта мы (1996)
Андрэй Мельнікаў. Шлях. 2 часткі (1996)
Уліс. Краіна доўгай белай хмары (1990)
Уліс. Чужаніца (1991)
Уліс. Танцы на даху (1993)
Уліс. Life-96
Уліс. Блуканьне (1996)
Мясцовы час. Наша ўскраіна (1991)
Віктар Шалкевіч. Смутны беларускі блюз (1996)
Палац (1995)
Песьні беларускіх бардаў (1992)
Рок супраць рэвалюцыяў (Новае неба. Зіндан. Уліс. Мроя. Крама, 1994)
Маладзёжныя хрысьціянскія сьпевы. Прыйдзі і праслаўляй (1996)
Ліцьвіны. Неба і зямля (1994)
Ліцьвіны. Пятае сакавіка (1996)
Зьміцер Бартосік. Да пабачэньня... (1996)
Уладзімер Клімовіч. Дзеці вятроў (1997)
Камэлот. У краіне талераў. (1995)
Эдуард Акулін. Мая Крывія. (1996)
Неруш (1997)
Ігар Палівода. «Максім» (1997
Новае неба. Выбранае. Песьні з альбомаў 1990-1996 г.
Уліс. Ратуйце вашыя душы. Песьні з альбомаў 1996 г.
NRM. Made in NRM. Песьні з альбомаў 1995-1996
KRIWI - праект фольк-мадэрн студыі «Палац»
Купалінка - Kupalinka. Folk-group.
Ліцьвіны. Галуб на чарэшні.
Песьнярок. Песьні «Песьняроў» у выкананьні «Крамы», NRM, «Троіцы», «Тарнада», «Пані Хіды», «Ляпис Трубецкого», «Нейродюбеля», Валіка Грышко.
Белы сон (Беласток, 1997)
Харошкі. Полацкі сшытак, традыцыйная музыка (1997)
Жыгімонт Ваза. Стан Галюцынацыі
Марыя Скуратовіч. Табе, Хрысьце!
Песьнярок. CD (170.000)
Кардон. Радыяцыя
Мроя. Дваццаць восьмая зорка
Небясьпечная Зона (Exhumator, Sarcastic Green, Barfly's Dreams, Gernunnos, God's Tower ды інш.)
Народны альбом: Супольны музычны праект (1997).
Made in Belarus: Беларускія застольныя песьні ў танцавальнай апрацоўцы (1997).
Сяржук Мінскевіч. Шляхі (1997).
Палац. Дарожка (1997).
Данчык. Беларусачка і іншыя песьні (1974/1998).
Мясцовы час. Падвойны альбом (1998): Слота (1989), Мой дом (1990).

**КОШТ КАСЭТАЎ 43.000 + 7.000 ПОШТА**

Gods Tower. The Eerie.
Gods Tower. Canticles.
Plastic Hardcore. Ultra.
Chemical Warfare. Demolition Tape.
Headcleaner. Hash. Resistance.
Insania Trivium. Candle of Fire.

**Касэты можна замовіць праз пошту: 220085 Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч**

## НАВІНКІ!











Ave Maria: Часопіс Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі. — 1997, № 11-12 (37-38).

Дыялёг: Культурна-рэлігійны часопіс. — Баранавічы: Касьцёл Маці Божай Фацімскай. — 1998, № 1 (45).

Каталіцкія навіны: Выданьне Менска-Магілёўскай Архідыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касьцёлу. — № 12 / 1997 — 1 / 1998.

Ян Павал II. Christifideles laici / Пасьлясынадальная Апостальская Адгартацыя Christifideles laici Сьвятога Айца Яна Паўла II аб пакліканьні і місіі сьвецкіх у Касьцёле і ў сьвеце дваццаць гадоў пасьля II Ватыканскага Сабору. — Менск: Менска-Магілёўская архідыяцэзія, 1997. (Сэрыя «Сынадальная бібліятэка»).

На пачатку 1998 году ў Беларусі выйшла адразу некалькі нумароў каталіцкіх часопісаў. Каталіцкі касьцёл у Беларусі мае ўжо сваю новую традыцыю выданьня пэрыёдыкаў.

### НАВІНКА!

*Алесь Краўцэвіч. Вялікі князь Вітаўт: Нарыс / Мастак А.Прыбылоў. Навукова-папулярнае выданьне. — Менск: Юнацтва, 1998.*

Гэтая кніжка з каляровымі рэканструкцыямі й даступным тэкстам разьлічаная на масавага чытача, найперш — на школьніка.




## НОВЫЯ КНІГІ І ПЭРЫЁДЫКІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

Беларуская энцыкляпэдыя: У 18 т. Т.5: Гальцы — Дагон / Рэдкал.: Г.Пашкоў і інш. — Менск: БелЭн, 1997. — 576 с., іл. — Наклад 10000 ас. ISBN 985-11-0090-0 (т.5) ISBN 985-11-0035-8

Гучок Яўген. Формула травы: Кніга трохрадкоўяў. — Менск: Выдавецтва клюбу «Спадчына», 1997. — 339 с. ISBN 985-6007-16-х

З гісторыі эканамічных рэформаў на Беларусі: Вуч.-мэтад. зборнік. Вып.2 / Т.Бушчык, У.Сосна, А.Сасім і інш.; Пад агульн. рэд. В.Галубовіча. — Менск: ВП «Экапэрспэктыва», 1997. — 104 с. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-6102-18-9

Ілюстраваная храналёгія гісторыі Беларусі: Ад 1919 г. да нашых дзён / Беларуск. эцыкл.; Гал. рэд. БелЭн: Г.Пашкоў (гал. рэд.) і інш.; Складальнік І.Хаўратовіч; Мастак Э.Жакевіч. — Менск: БелЭн, 1997. — 192 с., іл. — Наклад 5000 ас. ISBN 985-11-0086-2

Купала Янка. Поўны збор твораў. У 9 т. Т.4. Вершы, пераклады 1915-1929. — Менск: Мастацкая літаратура, 1997. — 446 с., іл. — Наклад 6000 ас. ISBN 985-02-0250-5 (т.4) ISBN 3-340-01093-7

Крапіва Кандрат. Збор твораў у 6 т. Т.2. Апавяданьні, фэльетоны, артыкулы / Прадм., камэнтары С.Лаўшука. — Менск: Мастацкая літаратура, 1997. — 479 с. — Наклад 3300 ас. ISBN 985-02-0372-2 (т.2)

Краўцэвіч Алесь. Вялікі князь Вітаўт: Нарыс. — Менск: Юнацтва, 1998. — 47 с., іл. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-05-0004-2

Майерс Д. Псыхалёгія / Навук. рэдактар М.Ярчак; Пер. з анг. В.Старавойтавай, І.Карпікава, Л.Русакевіч. — Менск: Бел.Фонд Сораса: Лекцыя, 1997. — 560 с., іл. (Адкрытае грамадзтва). — Наклад 2500 ас. ISBN 985-6022-12-6 (Бел. Фонд Сораса) ISBN 985-6305-12-8 (ТАА «Лекцыя»)

Патоцкі Л. Успаміны пра Тышкевічаву Сьвіслач, Дзярэчын і Ружану / Укл., прадмова, камэнтары А.Філатавай. — Пер. з польскай І.Саламевіча. — Менск: Полымя, 1997. — 270 с. —(Літаратурныя помнікі Беларусі). — Наклад 2700 ас. ISBN 5-345-00763-2

Пралеска: Хрэстаматыя для дзіцячага сада і пачатковых школ / Уклад. А.Сачанка. — Менск: Выд. Ул.Скакун, 1997. — 704 с. —Наклад 15000 ас. ISBN 985-6235-08-1

Старычонак В. 50 новых сачыненьняў па беларускай літаратуры. — Гародня: Выд. В.Мельнікава, 1997. — 128 с. — Наклад 30000 ас. ISBN 985-6314-10-0

Цудоўная дудка: Творы беларускай драматургіі: Для мал. школьнага веку / Уклад. і ўступ. артыкул С.Лаўшука; Маст. М.Рыжы. — Менск: Юнацтва, 1997. — 478 с., іл. (Бібліятэка беларускай дзіцячай літаратуры) ISBN 985-05-0128-6

Антонович С. Пётр Машеров: Докум. повесть: Для ст. школьнага веку / Мастак Ю.Цярэшчанка. — Менск: Юнацтва, 1998. — 351 с., іл. — Наклад 10000 ас. ISBN 985-05-0225-8

Гучок Е. Исток пути (Из стихов 1958-1974 гг.). — Менск: Выдавец С.Красько, 1997. — 74 с. — Наклад 250 ас.

История Беларуси. — Менск: МП «Беларыт», 1997. — 448 с. —Наклад 10000 ас.

Метлицкий М. Бабчин: книга жизни / Пер. зь беларускай А.Стрыгалёва, М.Стрыгалёва. — Менск: Мастацкая літаратура, 1997. — 334 с. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-02-0406-0

Сорока В и др. Русско-белорусский словарь делопроизводственной и архивной терминологии / В.Сороко, Т.Мальцева, А.Запартыко. Беларуска-расейскі слоўнік справаводнай і архіўнай тэрміналёгіі / У.Сарока, Т.Мальцава; Да зб. у цэлым: Нав. рэд. В.Лемцюгова. — Менск: Полымя. БелНДІДАС, 1997. — 441 с. — Наклад 5000 ас. ISBN 985-07-0153-6 (Полымя) ISBN 985-6099-07-2 (БелНДІДАС)

Czasopis. Pismo Informacyjno-Kulturalne Wschodniej Bialostoccyzny. — Nr.2 (85). Luty 1998

# грамафон.

## Андрэй Аляксандраў

ПАКІНЬЦЕ МНЕ ПРАВА ЗАСТАЦЦА САБОЙ

Халодныя зоры гарачай рукой
Я кратаю — кропелькі сонца.
Пакіньце мне права застацца сабой
І зоры сагрэць мне дазвольце.

Узьняўшы свой ветразь над шумнай ракой,
Забуду спакой і забавы.
Пакіньце мне права застацца сабой —
Маё неад'емнае права.

У бойцы крывавай з атрутнай хлусьнёй
За рукі мяне не трымайце —
Пакіньце мне права застацца сабой,
Астатняе ўсё — забірайце!

Стрываць дапаможа мне скруху і боль
Блакіт крылаў роднага неба.
Пакіньце мне права застацца сабой —
І больш мне нічога ня трэба!

## Аляксандар Антончык

***

Заступніца роднага краю
Мяне і сяброў маіх ўчуй
Зьмяні гнеў суровы на міласьць
Грахі нам цяжкія даруй

Даруй што кляліся ад жаху
У вернасьці жорсткім багам
Маўчалі як храмы паганіў
Бязродны чужынец і хам

Памілуй пакорлівых судзьдзяў
Якія з-за лжывых ідэй
Ссылалі на зьдзек і пагібель
У Сібір непавінных людзей

Дзяржаўнаму важнаму люду
Дар мовы бацькоўскай вярні
Хай зь ёю ён мудрасьць набудзе
Адчуе свае карані

Пакінь нам лагоднае неба
Зьбяры зь ніў нябачны уран
Ня шлі за грахі калі ласка
Больш ядзерны сьмерч-ураган

Павер наш народ ачуняе
Спадзе цемра з хворых вачэй
І позіркам ўбачыць ён ясным
Сваіх непакорных дзяцей

Што ў смуты ліхую гадзіну
Устояць пад ветрам змаглі
І ўласным жыцьцём рызыкуя
Айчыну сваю зьбераглі

За імі у сьветлыя далі
Ён рушыць павольнай ракой
Каб шчырай сумленнаю працай
Зьмяніць лёс краіны радной

Адродзяць дзядоўскі сьвятыні
Гародня, Бярэсьце, Нясьвіж
Узьняўшы з павагаю ўгору
Табою дарованы крыж

## Вольга Базылёва

У ЧЫРВОНЫМ КАСЬЦЁЛЕ

У сьценах гэтых сьвятых
Уздымаецца вышай душа,
Ў сэрцы глухая імша
Кожны пільнуе ўздых.

Ты хочаш вер ці ня вер,
Хочаш глядзі, не глядзі,
Толькі адчай не судзі,
А прапануй свой давер.

Зь безьлічы ярказ ікон
Вочы глядзяць чысьцінёй,
Бы размаўляюць з табой.
Нейкі нябачны палон.

Недзе анёлы крылом
Сонца ўзьнімаюць над дахам,
Сумны арган мроіць Бахам,
Голас выводзіць псалом.

Я зразумець не магу,
Чым гэты сьвет мяне вабіць,
Нейкай бясконцасьцю, мабыць.
Я абдымаю смугу...

## Тацяна Барысава

ЦЕМРА НАВІСЛА

Цемра навісла
і адусюль чую:
варожыя боты
нішчаць і пляжаць
ускрэслую Рунь
зь непрыхаванай ахвотай.
Толькі адзінага
ім не зрабіць:
Велічны Дух Абаронцаў
не скатаваць, не стрымаць, не забіць.
Велічны ён як Сонца!

## Аляксей Бацюкоў

МОВА

Мова росьпісаў на марозным шкле.
Мова подыху зімніх вуснаў.
Краем пропасьці ўецца сьлед
Ад далоні славянскіх рунаў.

Цябе сьціснуў апошні вянок
Цяжка-родных, бязьлітасных моў.
Моц вытокаў плавіцца ў лёд —
Корка зьбітых, забытых слоў.

Крок наступны схаваў туман.
Да якой ты ідзеш мяжы?
Шлях твой лёг між магільных ям,
Між цьвікоў на ўтульным крыжы.

## Тацяна Будовіч

***

*Э.С.*

Свой пэндзлік чароўны вазьміце, мастак,
Той сьвет намалюйце, дзе зараз вясна.
Дзе квецень каштанаў прылашчыць сьвяжак.
Адчуе каштан — на зямлі рай ня зман.
Жыве там зь мянушкаю дзіўнай зьвярок.
Назвалі яго ці ня вы «Нармалёк»?

... А сьвет той так блізка —
праз дьверы ў сьцяне.
Праз дзьверы ў сьцяне,
што я бачыла ў сьне.

## Міхась Волат

РАЗМОВА З СЫНАМ

Сяджу. Сумую. Кепска мне.
Чаму? Дык Беларусь далёка.
А што там робіцца? Дык ў сьне...
Прымроіць цяжка. Эх, нялёгка.

Але жыць трэба. Бо ў вачах
Я сына бачу — позірк сьмелы!
Хоць іншым разам ўзьнікне жах,
Ад тых Навін і... Твар зьнямелы...

Аднойчы сын сядзеў. Маўчаў!
Зьвярнуўся да яго я —
Кажу: «Пайшлі гуляць». І ўжо пачаў...
А ён мне... Вось ўжо Доля...

Сказаў, як рубануў: «Чаму
У Беларусі так нялёгка?
І колькі жыць яшчэ Яму?
Ён што, страшней за Цмока?

А як бабуля? Зь ёю што?
Жыве ж яна у Беларусі.
Нам ехаць трэба! А мы, няўжо...
Ня зможам зьезьдзіць да бабусі?»

Сказаў. І змоўк. І цяжка мне
Пачуць ад сына гэты словы.
Бо іншым разам сам сабе
Ня зможаш толкам даць высновы.

А сыну йшчэ — пяць год ўсяго!
Яму сьмяяцца трэба.
А ён, пачуўшы пра яго,
Ласкава просіць Неба...

Аб чым? Ну ведама ж ужо.
Яго турбуе Край наш родны.
Ён просіць Бога, каб «усё» —
Прайшло, і перамог бы — Дух Народны.

## Вольга

***

Спазьніцца падняцца на вежу
Маёй ненадзейнае мары
Сплясьці з тумана мярэжу
На непатрэбныя твары

Запляміць бялёсай хмарай
З клятчастай тканіны сукню
Сьняжкамі пацэліць ў ліхтары
У сьветлы квадрат кухні

Там колісь пяклі булкі
Татары — вандроўныя птушкі
З суседняга мне завулка
Салодкі дымок ватрушкі

## Сяржук Герасімаў

БЫЛОЕ СЬВЯТА

*Прысьвячэньне Году-Сьвяту'93*

Тое сьвята адгрымела
Ліхаманкава. Сышло.
Беларусь «жыцьця» хацела...
У Беларусь «жыцьцё» прыйшло:

Перакрэсьліла пачуцьці,
Што віталі у паветры,
Прыпыніла рух бягучы
Фотастужак кілямэтраў.

Ўміг пазбавіла адзеньня,
Апрануўшы перад гэтым...
Даравала ўжо надзею,
Ды забрала разам зь летам.

Начапіла сьветлафільтар
Колеру кірзовых ботаў...
Словам, НЕХТА працавіта
Беларусаў «абработаў».

А ў мяне — па сёньня ў сэрцы
Стан крывіцкае Пагоні —
Не згібее, не сагнецца
Наш ваяр на белым коні.

І адкажуць яшчэ здраднікі,
За свае, уласна, словы:
«А зачэм нам коні з саблямі»...
Хай рыхтуюцца да размовы!

## Ала Кажэра

МАРЦІН І АРЫНА

Паеду, пагляджу, ці зноў буяе вішня,
Ці там масьніца мне старая прарыпіць,
Ці камень той ляжыць ля ганка, дзе ўвішна
Арына басанож, бывала, прабяжыць.

Паеду, пагляджу на роўныя пракосы,
Што дзед Марцін касой ураньні пракладаў,
Дзе лён распачынаў блакітныя дзівосы,
І дзе авёс буйны таемнасьці шаптаў.

Там бусел кіраваў штодзённай шчырай дзеяй,
Крылатае сям'і нявызначаны кляс,
Аднаасобнік-дзед з упартаю ідэяй
Адзін на вёску ўсю ня пойдзе у калгас.

Дзе моцы браў Марцін у тым супрацьстаяньні,
Нібы асадны князь, свой замак зьберагаў,
Нястомна працаваў ад ранку да сьвітаньня
І шчодра дабрабыт ўсім родным раздаваў.

І я малой ішла ў Арыніну сталоўку,
Мне смакаціны той і сёньня не забыць.
Чароўны рытуал — Арына ля кароўкі,
І гэты цуд мастак мог толькі улавіць.

А на бярозе той пан-бусел зноў гняздзіцца
Прыхільнікам ідэі вольнага жыцьця,
Ды з помніка сьвятло вячыстае бруіцца
Мне дарагіх вачэй з жывога небыцьця.

## Яўхім Корчак

КУПАНЬНЕ

Па бела-чырвонай зямлі
паўзуць крывыя караблі.
У вадкім сьвятле крыніц
замочаны стос парваных спадніц.
На беразе п'яным каля ракі
песьню мурлыкалі мужыкі.
У жоўтай вадзе дзябёлыя бабы
купаліся, быццам крабы.
Ад гэткага пуду спужаныя рыбы
на бераг выкідваліся, як амфібы.
А лысыя дзеці іх не лавілі —
за бабамі голымі пільна сачылі.
Сваімі вачмі анатомнымі
гладзілі грудзі томныя.
Ніжэй жывата шасталі,
Каб даведацца, ці вушастая...
Усе абы чым займаліся,
Адно толькі — не...

## Спадар Кілбасьнік

МАРШ МАРГІНАЛАЎ-ДЭГЕНЭРАТАЎ

Справа — дрэнь!
І зьлева — дрэнь!
Колькі дрэняў навакол!
Кожны дзень
Варожы цень
Правакуе ў нас раскол!

Ззаду — гад!
Сьпераду — гад!
Колькі гадаў разьвялі!
Гром гармат,
Праклёны, мат...
Забівай! Палі! Смалі!

З боку — зброд!
З другога — зброд!
Колькі зброду вакол нас!
Гэй, узвод!
Ідзі ў паход!
Даставай боезапас!

Зьверху — бруд!
І зьнізу — бруд!
Значыць, мы ідзем на дно.
Будзе тут
Усім капут:
Ім і нам жа заадно!

## Марыля Лагодзіч

***

Маўчы.
Глядзі і ціхенька
маўчы.
Плывуць чорныя хмары —
маўчы.
Зьзяюць чорныя зоркі —
маўчы.
Глядзяць чорныя вочы —
маўчы.
Адкрываюць чорную душу —
маўчы.
Малююць чорнымі фарбамі сонца —
маўчы.
Дораць чорную маску —
дзякуй і маўчы.
Просяць прасьпяваць?
А ў цябе ёсьць голас?..

## Тацяна Лапцёнак

ПАЛЮБІЦЕ МАЮ БЕЛАРУСЬ

... Я паспрабую напісаць такі верш,
каб заціхла само жыцьцё,
зьнерухомела нават паветра,
дрэвы, сонца і вецер...

Можна будзе пачуць, як б'ецца
адзінокае сэрца.
Сэрца маёй Беларусі.
Столькі ног прайшлося па ім,
а яно —
усіх любіць, і толькі!..

Якім бы ні быў, хто б ні быў —
чалавек, можа, воблака, вусень:
кожны яму дарагі, таму што ўсё жывое.

І сама Беларусь жывая.
Я спрабую сказаць гэта вам:
У зямлі таксама ёсьць сэрца.
Яно б'ецца зусім як ваша,
і баліць, як у вас, і плача...

Палюбіце яго не за славу
і ня словамі зь яркіх фраз.
Хоць нямодна любіць Айчыну,
палюбіце яе вось такую,
несвабодную, вамі закутую.

Беларусь — наша рана. Рана...
Удыхніце вальней хоць раз.
Палюбіце маю Беларусь...

## Віктар Ліцьвінаў

З ВОСІПА БРОДЗКАГА

Ляці адсюль, лагодны матылёк.
Жыцьцё табе пакінуў. Гэта доля
і знак таго, што шлях — кароткі.
Ляці хутчэй. Аб ветры я паклапачуся.
Яшчэ я сам дыхну табе ўсьлед.
Ляці хутчэй над голымі садамі,
Наперад, родны мой. Апошняя парада:
будзь асьцярожны там, над правадамі.
Што ж, я даручыў табе ня зьмест;
а нейкую настойлівую тэзу;
ты, мабыць, сам адзін з усіх істот,
мігцеўшых на палёх мэтэмпсыхоза.
Глядзі ж, не пападзі пад кола мар
і птушак абмінай удалым рухам
і намалюй перада мной мой твар
у пустым кафэ. І у паветры —
гэта там, дзе скруха!

## Ігар Максімаў

***

Божа...
Пазбаў народ ад адмаўленьня
Свайго уласнага імя.
Укажы кірунак станаўленьня,
Пазбаў зямлю ад халуя,

Якога распладзілася замнога,
На грэшнай матухне зямле.
Перш за матэрыю было слова,
Якое вечна не памрэ.

А потым толькі паявіўся
Разумных істотаў сумазброд,
І разам зь імі грэх зьявіўся,
Які пладзіцца кожны год.

І невядома, што чакае
Народ наш бедны ў будучым.
Ці ён урэшце ўшчэнт сканае,
Ці будзе жыць жыцьцём сьвятым.

## Алесь Менскі

ЧАРГОВАЯ РАДЗІМА

Не глядзі на небакрай —
Там толькі хвалі.
Па-над намі ўгары
Паўднёвы Крыж.
Цяжкі лёс не дакарай:
Яго абралі
Самі мы. Ну што, стары,
Чаго маўчыш?

Можа, думаеш пра плыт,
Які учора
Нас на выспу нашых мараў
Перанёс?
Тут, дзе мяккі аксаміт
І водар мора,
Дзе кружляе паміж хмараў
Альбатрос,

Дзе няма турмы, загадаў
І падману,
Дзе свабодны адшукалі
Мы абсяг,
Тут, далей ад здрады
І дурману,
Зноў нарэшце ўзьнялі
Родны сьцяг.

Наш атол — ці адчуваеш? —
Край наш крэўны!
Ты, шаноўны, маеш
Новы дом!
Дык чаго ты пазіраеш
Так сумнеўна
І матляеш па зямлі хвастом?

## М.Міхееў

***

Недзе ў далёкай, чужой нам старонцы
Жыў-быў дыктатар сьціплы пад сонцам.
Пешшу хадзіў ён з народам сустрэцца,
Заходзілі людзі ў палац, каб пагрэцца.

Зранку ня гойсаў ён па базару,
Навошта было, дый не да твару.
Выйдзе на ганак, жонку абдыме...
Вольна жылі ўсе ў ягонай краіне.

Быў там парадак, былі там і яйкі.
Вы яшчэ верыце ў гэтыя байкі?

## Аляксей Нагорны

МАРА

Аб землях мару я працягнутых бязь меры,
Аб гучных сьпевах сінявокіх васількоў.
Я ў край свой беларускі веру
І ў беларускіх дужых хлапчукоў.
Калі ж на Беларусь напасьць якая прыйдзе,
Узьбянтэжыцца мой беларускі край.
І моцнай хваляй на бяду ён сыйдзе,
Застанецца ж ня ліха, а мараль.
Усе клопаты і гора, прымушэньні —
Усе вынес беларускі родны кут.
Адзінае ня вынес — адчужэньне
Ад роднай мовы — большая з пакут.
Забыў ён знакамітых твораў словы,
Стварыўшых спадчыну імёны страціў.
Я мару, каб гучалі гукі мовы
Пад сэрцам кожнага і ў кожнай хаце.

## Юрась Півуноў

...

Засьнежанае сонца сьлепіць вочы,
І забываеш жахі чорнай ночы.
Ня згадваеш папрокі ды праблемы,
Не існуе ніякае дылемы.
Душа пяе, імкнецца у вышыні,
Але... псуюць паветра чыстае машыны,
Блішчасты сьнег рыпіць пад чаравікам,
Жабрак у пераходзе сядзіць цьвікам.
Замілавана згадваеш каханую,
Табе і сыну ўсёй душой адданую,
У Бога просіш болей гэткіх дзён,
Бо час бяжыць — ты ўжо не маладзён.
... Засьнежанае сонца сьлепіць вочы,
І забываеш жахі чорнай ночы,
Ня згадваеш папрокі ды праблемы —
Не існуе ніякае дылемы...

## Зьміцер Піскур

НАСТРОЙ

Мой ранішні настрой блукае ў небе,
блукаю я.
Павольнаю хадой
ідзе міліцыянт спраўляць патрэбу.
Ідзе, каб сапсаваць мой ранішні настрой.

## Пятро Прыходзька

ПРЫЧАСЬЦЕ

Мне ў маленстве дзед прарочыў шчасьце,
Свой раскрываў прыгожы сьвет надзіў.
Запомніўся той дзень, як на прычасьце
Ён у царкву з сабой мяне вадзіў.

Там, дзе іконы зьзялі нібы люстры,
Для ўсіх сьвяшчэньнік прычашчэньне меў.
Ад просьвіры аж саладзелі вусны —
Ня піў раней такога і ня еў...

Царква як неба зьзяла залатое,
І разумеў — яно не для прыкрас.
Толькі ня знаў — чаму прычасьце тое
У Хоцімску праскуркай звалі ў нас?

Дзед усяляў мне ў сэрца болей веры,
І я пазьней, у сталыя гады,
Ў храм праз расчыненыя насьцеж дзьверы
Прыходзіў сам да споведзі сюды.

Ня знаю — што пашчасьціла мне выжыць,
Калі ў баях ішоў з сваім палком?
Але спыняюся я перад кожным крыжам,
Дзе ўхутаны Усявышні ручніком.

## Браніслаў Пяткевіч

У БАЛОЦЕ

Нелады жыцьця дамоўкі
Пугай моцна б'юць па твары,
І грызуць, нібы залоўкі,
Нішчаць згоды добрай мары.
Гаспадыня вып'е чарку —
Недагледжана жывёла.
Гразьзю бэсьціць чэсьці марку,
Д'ябла прыме за анёла.
Не спрацуюць уговоры
І парады паратунку,
Што было ужо учора,
Тое сёньня ў тым кірунку.
Да яе брыдзе галота,
Гультаі і выпівохі.
На парозе адзінота,
Лёсу розныя падвохі.
Час змарнаваны блуканьнем,
Пашукаць вянок уцехаў,
Палажыў канец каханьню —
Муж уцёк, кудысьці зьехаў.
У хляве мычыць кароўка,
На стале бязь ежы чарка.
Гаспадыня ўжо удоўка,
Не гняцецца мужняй сваркай.
У вачах муціцца плесьня,
Боль у скронях па звычаю;
Каб злучыць канцы ад пэнсій,
Ходзіць грошы пазычае.
Не свае дзядзькі крэдыты,
Не ўцячэш ад іх на клячы,
І ад іх нікто ня сыты,
Гэта купіны няўдачы.
Да здароўя шлях стаў вузкі,
Слабнуць сілы, розум хворы,
Ні гарэлкі, ні закускі,
Раскрамсалі твар разоры.
Як далей пражыць? Пытаньні.
Адказаць на іх няпроста.
Ноч. У вокны лезуць зданi.
Ліпне млявасьць, як кароста.

## Алена Раманоўская

З ГАЯ ВАЛЕРЫЯ КАЙЎЛА

Miser Catulle, desinas inepture...

Катул, гаротнік, хопіць, супакой сэрца.
Як што сплыло, таго не адрадзіць зноўку.
А сонца, братка мой, і для цябе зьзяла,
І ты калісьці бег на кліч сваёй любай,
Каханай так, як больш нікто ў сьвеце.
І ты жаданым быў (ці варта ўсё помніць?).
Калісьці сонейка і для цябе зьзяла!
Ды вось абрыдлі ёй твая, бядак, вернасьць
І сам ты... Што ж! Цяпер трывай, браце!
Дарма што кінуты, шануй сваю годнасьць
Бывай жа, любая. Катул ўсё сьцерпіць.
Ня дасьць і знаку, як яму горка.
Табе ж, дальбог, яшчэ шкада стане.
Каханка лепшага няўжо прыдбаць марыш?
Любоў мацнейшую няўжо сустрэць хочаш?
Каго абдымеш, як адна ўмееш?
А вусны прагныя каму кусаць будзеш?
Трывай, Катул! Шануй сваю годнасьць...

## Крысьціна С.

***

Мы думаем пра лёс сваёй краіны,
Спрачаемся, трывогі не суняць,
Але яна спытаць даўно павінна:
Ці не пара пачаць яго ствараць?

Тэарэтычна — усе мы патрыёты,
А асабіста кожны — прамаўчыць,
Галоўнае — заробак і работа,
Салодка спаць і смачна есьці й піць.
А дзе, у якой дзяржаве — гэта дробязь,
Галоўнае — няма ў ёй вайны,
А калі што — гарэлкі з салам хопіць,
Перазімуем неяк да вясны...

## Станчык

САНЭТ

Калі нам волі не хапае
і дрыгва пачала сьмярдзець,
ня трэба толькі «не хацець»,
дарэмна піць, запозна раіць.
Фашыст пінае маці ў бок,
мацюкам блеюць немаўляты...
Вунь там вячэралі дзяўчаты —
так лепей у зону. Дзе мой «срок»?
У нябёсах доказаў няма.
Пытаньні тлуста абвісаюць —
у іх саюз з кагалам зор.
Трымаць замужна прыгавор,
жыць у кожным выпадку за краем,
крычаць: Халеру вам! Ганьба.. —
зайздросны лёс, а не СУДЬБА.
Усё то прыгожа. Усё то маем.

## Стлейг

***

О, чорныя мясьціны абкружаюць нас.
Прабач мне, Бог, што я няўдалы грэшнік.
У рукох сьціскаю сьмеласьці я меч,
Мне больш ня трэба анічога, крамя веры.
Сваё каханьне жорсткасьць абароніць
І я ня злобны. Толькі часам
Цяжэй на сэрцы, не спыняю працы.
О, Божа, падымі мяне.
Калі ж загінуць, дык загінуць лепей
Каля свайго каханьня.

## Давыд Сьцізорык

***

Хуткасьць... Енк слабы...
Толькі не пярэч!
Не такіх, як мы,
Забіралі прэч.
Хворым тармазам
Не сьпявай псалмы...
Што казалі там
Не такім, як мы?
«У чужой руцэ
Твару не хаваць»?
(Толькі не пярэч!)
«Узьняць бяскроўны твар дагары»?
Там — Бог.
«Гэй, авантурыст!»

Занесла... убок...
Шпурнула... уніз...

## Алесь Шадрын

***

Купіў я ружы белыя
Прынёс дадому іх,
Каб дажылі зьнямелыя
Да промняў веснавых.
Я кветачкі цудоўныя
Пяшчотай атачаў,
Пялёстачкі чароўныя
Ад зла абараняў.

Але, як дзеткі малыя
Ад змроку горкіх дзён,
Яны стаяць завялыя
Ды сьняць маркотны сон.
Сьлязіначкі раняючы,
Я зь імі — паміраў,
Ды ў роспачы згасаючы,
Расьліны сузіраў.

Марнеюць кветкі мілыя
Ды блякнуць назаўжды,
Галовы белакрылыя
Схіліўшы да вады,
Паніклыя ды хворыя
Пялёсткі файных руж,
Іх не ўратуеш, кволыя,
Яны ад доўгіх сьцюж,

Пялёсткі руж загінулі —
Абрыдла мітусьня,
Яны нам сьвет пакінулі
І разам зь імі — я.

## Мікола Яўмененка

Я ЦЯБЕ, ТАКУЮ, НЕ ПАКІНУ!

Радыёактыўная старонка —
Беларусь радзімая мая,
Ёд пераварыла, варыш стронцый
Унутры залозаў спакваля.

Ты, калі сьмяртэльна захварэла,
Паратунку не шукала. Не!
На вачах хірэла і старэла,
Лёсам змардаваная «на нет».

Ты бадай нічога не хацела,
Абы як рабіла абы што,
З папулістам-«бацькам» звар'яцелым
Разбурала свой уласны дом.

Я цябе, такую, не пакіну!
Як пакіну вымушана, ты
Пазаві, як маці свайго сына.
Я вярнуся й выручу зь бяды.

Я ўжо добра ведаю хваробу
І магу табе дапамагчы.
Падлячыць збалелыя вантробы
Змогуць нашы ўласныя ўрачы.

Ты ж яшчэ такая маладая,
Прыгажэйшая за ўсіх саўчых!
Шчэ цябе «Пагоня» залатая
Па дарозе зорнай паімчыць.




*Напачатку васьмідзясятых рок-культура Беларусі зьведала моцнае ўзрушэньне — зьявіўся зусім новы тэрмін: «беларускамоўная рок-музыка». Адным зь першых беларускамоўных гуртоў была «Bonda».*

*Узьнікненьне «Bondy» прыпала на той час, калі рок-рух у суседніх рэспубліках былога СССР набыў рысы нацыянальнага. Асабліва дынамічна разьвіваўся й нават падтрымліваўся ўладамі расейскі рок-н-рол, які, нібыта, і мусіў рабіць наймацнейшы ўплыў на беларускія гурты. Але «Bonda» выбрала іншы шлях: пасьля трохгадовага пошуку сваёй моўнай плыні музыкі пачалі сьвядома выконваць усе песьні па-беларуску. Другі фактар, які дазволіў гурту стацца адметнай зьявай у беларускім рок-н-роле — прафэсійнасьць. Спачатку музыкі імкнуліся быць падобнымі да польскага «Lady Punk» ды ангельскага «Police», але гэта было толькі спачатку...*

*Кроніка, якая прапануецца чытачам, спатрэбіцца ў будучыні для стварэньня гісторыі беларукага року, у якой «Bonda» займае адно з найважнейшых месцаў.*

*Пры складаньні кронікі выкарыстоўваліся ўспаміны Сяргея Кныша, Ігара Варашкевіча, Аляксандра Белізяка (усе — гурт «Bonda»), музычных крытыкаў Вітаўта Мартыненкі й Анатоля Мяльгуя; публікацыі ў газэтах «Чырвоная Зьмена», «Ніва» (Беласток), «Добры вечар», «Вечерний Минск», у часопісах «Крыніца», «Бярозка», «Беларусь».*



**АРХІЎ БЕЛАРУСКАЙ РОК МУЗЫКІ**

# «BONDA»

*(Кроніка гурта)*

**1980**

Сяргей Кныш і Іван Маркаў зьбіраюцца ў падвале Тэатральна-мастацкага інстытуту на рэпэтыцыі; у рэпэртуары — кампазыцыі замежных гуртоў; да хлопцаў далучаецца Вячаслаў Сьцяпанаў. Гурт пачынае выконваць песьні па-расейску (на вершы з часопіса «Юность»).

**1981**

Далучаецца гітарыст Анатоль Дарожка, студэнт Інстытуту культуры.

**1982**

Вяртаецца з войска Ігар Варашкевіч; ён паступае ў Тэатральна-мастацкі інстытут, дзе знаёміцца зь Вячаславам Сьцяпанавым.

Ігара Варашкевіча запрашаюць у гурт «Студыя 7» (С7).

**1983**

Красавік. С7 і гурт «Ліфт» перамагаюць у 1-м гарадзкім конкурсе маладых ВІА, прысьвечаным 65-годзьдзю ВЛКСМ.

Вячаслаў Корань (гурт «Ліфт») пераходзіць у С7.

Удзел ва ўсесаюзным рок-фэсьце ў Тарту (Эстонія): па прыезьдзе на вакзале для высьвятленьня асобы міліцыя забірае ў КПЗ Сяргея Кныша і Аляксандра Белізяка, у якіх няма пашпартоў. Пратрымаўшы у КПЗ ноч, іх адпускаюць.

Сьнежань. Пасьпяховы канцэрт С7 у Маскоўскім архітэктурным інстытуце.

У рэпэртуары С7 зьяўляецца першая беларускамоўная песьня «Соль жыцьця» (словы Сяргея Кныша, музыка Івана Маркава).

1984

У інтэрнаце Тэатральна-мастацкага інстытуту С7 займела сваю студыю, дзе пішуцца «Песьня падарожніка», «Дзядзька Юзік», «Сьметнік», «Сабака».

У аддзеле культуры ЛКСМБ тэксты праходзяць «атэстацыю» («літаваньне»): адказная за гэтую справу нехта Гаралёва правярае тэксты на крамолу;

Канцэрт С7 у Тэатральна-мастацкім інстытуце. Водгукі ў прэсе: Павал Якубовіч саркастычна параўноўвае імрэзу з Вудстокам.

Вячаслаў Сьцяпанаў запісвае расейскамоўныя песьні.

Вячаслаў Сьцяпанаў разам з Анатолем Дарожкам сыходзяць з С7 і ўтвараюць расейскамоўны праект «Мэтро».

Іван Маркаў і Сяргей Кныш едуць на заробкі ў Ніжневартаўск, дзе зьяўляецца іхная песьня «Кожны з нас» (іншая назва — «Месца пад сонцам»);

Усталёўваецца «залаты склад» гурта С7: Іван Маркаў (гітара, вакал), Сяргей Кныш (бубны), Ігар Варашкевіч (вакал), Вячаслаў Корань (гітара), Сяргей Краўчанка (гітара, back-вакал).

**1985**

С7 падумвае зьмяніць назву. Паэт Анатоль Сыс прыносіць сьпіс словаў, выпісаных з «Падручнага расейска-крыўскага (беларускага) слоўніка» Вацлава Ластоўскага; у сьпісе ёсьць слова «бонда».

Пачатак стварэньня альбому «Кожны з нас» (варыянт назвы — «Месца пад сонцам»).

Лета. С7 упершыню зьяўляецца на Беларускай тэлевізіі й запісвае сваю кампазыцыю (адсутнага Сяргея Кныша замяняе знаёмца гурта — Мікалай Федарэнка).

Гурт «Мэтро» стаў ляўрэатам на фэсьце Lituanika.

**1986**

1 красавіка ў газэце «Чырвоная Зьмена» (№63) зьявіўся артыкул Вітаўта Мартыненкі «Бонда» на сваім месцы» - першая згадка назову «Bonda» ў дачыненьні да С7.

Музыкі «Bondy» зьвяртаюцца да прафэсара Адама Мальдзіса з просьбаю зрабіць філялягічную падтрымку новай назьве.

29-30 красавіка «Bonda» прыймае ўдзел у сэрыі канцэртаў, прысьвечаных адкрыцьцю рок-клюбу «Няміга». Пасьля імпрэзы арганізатары абвяшчаюць пра надыход новых эраў: пост-Чарнобыльскай і новай эры ў беларускім рок-руху.

«Bonda» бярэ ўдзел у фэсьце Lituanika, дзе журы сьвядома ня йдзе на ўзнагароджаньне «Bondy», з-за чаго Анатоль Мяльгуй (адзіны прадстаўнік Беларусі) пакідае паседжаньне журы ў знак пратэсту.

Сяргей Кныш сыходзіць у войска; адыграўшы ў гурце колькі месяцаў, сыходзіць Сяргей Брыкса; прыходзіць Сяргей Зелянкевіч.

Канцэрты ў Беларусі.

Восень. Цалкам запісаны альбом «Кожны з нас».

**1987**

Ігар Варашкевіч абараняе дыплём; яго накіроўваюць у Горадню.

«Bonda» афіцыйна замацоўваецца ў структуры Белдзяржфілярмоніі на ўмовах самаакупнасьці.

Запісы «Bondy» круцяць на радыёстанцыі BBC; улады патрабуюць тлумачэньняў, як гэтыя запісы з СССР патрапілі на Захад; канфлікт прыводзіць да сыходу зь Белдзяржфілярмоніі.

**1988**

Удзел у якасьці гасьцей ва Ўсесаюзным фэсьце рок-музыкі ў Магілёве і ў трэцім фэсьце Маладзёвай песьні ў Наваполацку; удзел у фэсьце «Парад надзеяў».

«Bonda» запісвае ў аўтобусе маскоўскай фірмы MCI, які прыехаў у Менск, песьні «Хлопец дурны», «На аўтастрадзе», «Ура!»

Сяргей Кныш бярэ ў банку крэдыт дзеля здымкаў кліпа песьні «Ура!».

28 кастрычніка ў Беларускай тэлевізіі прэм'ера кліпа «Ура!»

Запіс праграмы «Прыйдзе іх дзень».

Сольныя канцэрты «Bondy» ў Палацы спорту. Пачатак сур'ёзных сутычак у гурце; са складу сыходзяць Сяргей Краўчанка й Вячаслаў Корань. Абноўлены склад гурта: Андрэй Хмяльніцкі, Мікалай Логінаў, Ігар Варашкевіч, Сяргей Кныш, Іван Маркаў.

У газэце «Чырвоная Зьмена» зьяўляецца інфармацыя пра тое, што ў ЗША нібыта выйшаў дыск «Bondy».

**1989**

Вясна. Канцэрты ў Варшаве, гурт выступае перад беларускай і ўкраінскай дыяспарамі на адной сцэне з украінскім гуртом «Воплі Відоплясова»; канцэрт у Гайнаўцы.

Красавік. Песьня «Хлопец дурны» займае другое месца ў хіт-парадзе радыёстанцыі «Беларуская Маладзёжная».

Іван Маркаў сыходзіць з «Bondy».

Удзел у Гомельскім фэсьце «Рок-крок» (гурт выступае ў складзе: Ігар Варашкевіч, Сяргей Кныш, Вячаслаў Смольскі, Андрэй Хмяльніцкі, Шот). У кулюарах упарта цыркулююць чуткі пра распад «Bondy», але гурт бярэ адзін зь пяці прызоў фэсту.

Лета. Іван Маркаў вяртаецца. Склад гурта: Ігар Варашкевіч, Сяргей Кныш, Іван Маркаў, Сяргей Антонаў, Аркадзь Юшын.

Восень. Кампазыцыя «Ура!» займае трэцяе месца ў міні-фінале хіт-параду БМ.

**1990**

На двайным дыску «Хіт-парад «Беларускай Маладзёжнай» выходзяць кампазыцыі «На станцыі Койданава» і «Твая Атлянтыда».

24 лютага на фэсьце «Тры колеры» «Bonda» выступае апошні раз. Апошняя песьня — «Як малпа на дрэве».

Распад гурта.

**1992**

Люты. У табліцы №4 хіт-параду «Чырвонай Зьмены» і радыёстанцыі «Свабода» (хіт-парад) песьня «На станцыі Койданава» займае 4 месца.

Сакавік. У табліцы №5 хіт-параду песьня «На станцыі Койданава» займае 4 месца;

Красавік. У табліцы №6 хіт-параду песьня «Шляхі ў ноч» займае 1 месца.

Травень. У табліцы №7 хіт-параду песьня «Шляхі ў ноч» займае 7 месца.

Чэрвень. Рэтра-канцэрт у Альтэрнатыўным тэатры, прысьвечаны 10-м угодкам «Bondy». Залатым складам гурт выканаў кампазыцыю «На станцыі Койданава» і «Прыйдзе іх дзень».

**1993**

Кастрычнік. У табліцы №24 хіт-параду «Песьня падарожніка» займае 10 месца.

Лістапад. У табліцы №25 хіт-параду «Песьня падарожніка» займае 6 месца.

Сьнежань. У табліцы №26 хіт-параду «Песьня падарожніка» займае 6 месца.

**1996**

На фірме «Ковчег» выходзіць касэта «Легенды беларускага рок-н-ролу: Bonda». Гэты альбом раней не выдаваўся. На касэце няма песьні з гэтага альбому «Тата мае рацыю».

**1998**

28 студзеня «Bonda» ў складзе: Ігар Варашкевіч, Сяргей Кныш, Сяргей Краўчанка, Іван Маркаў, Вячаслаў Корань, Валеры Ціціцкі (бубны), Андрэй Лявончык (клявішнік гурта «Крама») выступаюць у рамках «Рок-каранацыі'97» у менскім кінатэатры «Масква». Выконваюцца кампазыцыі «Соль жыцьця», «Песьня падарожніка», «На станцыі Койданава». Зь песьні «Прыйдзе іх дзень» выкананы толькі адзін куплет, бо адміністрацыя «Масквы», спасылаючыся на недахоп часу, патрабуе пакінуць сцэну. Рэпліка Ігара Варашкевіча: «Забараняюць выканаць песьню, як і дзесяць гадоў таму».

**Падрыхтаваў Сяргей Сахараў**





**Беларускі Гуманітарны Фонд «Наша Ніва» стварае Архіў беларускай рок-музыкі, у якім зьбіраюцца і дасьледуюцца матэрыялы, зьвязаныя з сучаснай незалежнай музычнай традыцыяй Беларусі.**

**Калі ў Вас ёсьць старыя, рарытэтныя аўдыё-відэаматэрыялы, а таксама газэты, часопісы, афішы, плякаты і да т.п., калі ласка, напішыце нам на адрас: Архіў беларускай рок-музыкі, а/с 5 Менск 220085, або затэлефануйце ў рэдакцыю «НН» — Сяргею Сахараву.**

# То загарыцца, то згасьне...



*Алімпійскія гульні ў Нагана нагадалі мне пра некаторыя японскія сюжэты нашага культуразнаўства. Першы тычыцца Брамы Расёмон у старой японскай сталіцы Кіота. Другі сюжэт — «Легенда пра Нараяму» — японскі мастацкі фільм, зьняты нібыта паводле апавяданьня Ўладзімера Караткевіча «Нямоглы бацька». Казка Караткевіча выйшла ў «Бярозцы» ў 80-м годзе, а фільм Шахея Імамуры зьявіўся на экранах у 83-м. Здараецца, што ў розных канцах сьвету ў адзін час, незалежна адна ад аднае нараджаюцца тыя самыя спэцыфічныя ідэі.*

Я сачу за тэлетрансьляцыяй лыжнае гонкі ў Нагана і раптам адчуваю, што ў полі майго зроку зусім не спартоўцы або экранны антураж з хранамэтрамі, прозьвішчамі ды іншым. Вока спыняецца на засьнежаных узгорках, паросьлых соснамі, якія ня могуць не хваляваць сваім падабенствам да роднага краявіду. Сасна і вярба — два самыя японскія дрэвы ў паэзіі і жывапісе. Хіба што дубоў японскіх ня згадваю. Але й бязь іх падабенства дастатковае.

Ні ў нас, ні ў іх я не знаходжу схільнасьці або здольнасьці да яркіх відовішчных шоў. Але іхныя апісаньні спусьцелага ў шарую гадзіну мястэчка, слаты і сініх агеньчыкаў у тумане лёгка абуджаюць ува мне пачуцьцё бацькаўшчыны. Так зразумелае беларусам жаданьне зашыцца ў скрыню ад усяго сьвету, як у Коба Абэ, ці самурайскае самагубства селяніна Антона з аднайменнае драмы Максіма Гарэцкага, калі селянін ад псыхалягічнае безвыходнасьці лягае на касу. Гэта толькі асобныя, вырваныя з кантэксту сьведчаньні таго, што між намі існуе нейкае неасэнсаванае да канца адзінства, прынамсі блізкасьць.

Вы скажаце, што яны — непадобныя да нас людзі. Але гэта зусім не перашкаджае ў мастацтве. Парадокс у тым, што ў творах японцаў мы вычытваем такія характарыстыкі краявіду, людзей і іх паводзінаў, якія зь цяжкасьцю стасуем менавіта да японцаў.

«Старая яшчэ шырэй расплюшчыла вочы з чырвонымі павекамі і ўтаропілася ў твар слугі. Утаропілася вострым позіркам драпежнай птушкі», — пісаў Акутагава.

Ці можаце вы ўявіць сабе старую японку з арліным позіркам?

Падахвочаны ўласным адкрыцьцём, я паспрабаваў перачытаць славутую Акутагававу «Браму Расёмон», замяніўшы асабовыя імёны на беларускія. Браму Расёмон у старажытнай японскай сталіцы Кіота замяніў на Вострую Браму ў старажытнай беларускай сталіцы Вільні, а вуліцу Судзаку, адпаведна, — на Базыльянскую. Вось што з гэтага выйшла:

«Гэта здарылася аднойчы пад вечар. Нейкі слуга хаваўся ад дажджу пад Вострую Брамай.

У шырокім атворы, апрача яго, нікога не было. Толькі на тоўстым круглым слупе, зь якога сям-там аблупілася фарба, сядзеў цвыркун. Паколькі Вострая Брама стаіць на люднай Базыльянскай вуліцы, тут маглі б хавацца ад дажджу некалькі жанчын і маладых людзей са сьвятадухава манастыра. Тым ня менш, акрамя слугі, нікога не было.

Тлумачылася гэта тым, што на працягу апошніх двух-трох гадоў на Вільню адно за другім абрыньваліся бедзтвы — то землятрус, то ўраган, то пажар, то голад. Вось сталіца і запусьцела незвычайна. Як распавядаюць старажытныя летапісы, дайшло да таго, што сталі ламаць статуі апосталаў ды сьвятарнае начыньне і, зваліўшы ў кучу на краі дарогі пакрытае пазалотай дрэва, прадавалі яго на дровы. Такія былі справы ў сталіцы; таму пра падтрымку Вострае Брамы, зразумела, ніхто больш не клапаціўся. І, карыстаючы зь яе закінутасьці, тут жылі лісы і барсукі. Жылі злодзеі. Нарэшце, павялося нават прыносіць і кідаць сюды непрыбраныя трупы».

Наўрад ці ў такім перастварэньні ёсьць якаясь сутнасная недакладнасьць, калі згадаць віленскую гісторыю зь яе паморкамі, пажарамі і спусташальнымі набегамі «цішайшага» расейскага цара Аляксея Міхайлавіча...

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах...

Цікава, ці ўспамінаюць японцы ў такіх выпадках сваю Браму Расёмон і — «вакяў на грозных канях»?

Сюжэт Караткевічавага «Нямоглага бацькі» для беларускай літаратуры досыць экзатычны. У вёсцы існуе закон, каб старых бацькоў, якія ўжо з работнікаў ператварыліся ў едакоў, уласныя дзеці вывозілі ў пушчу і там пакідалі ці то на зьядзеньне дзікім зьвярам, ці то на галодную сьмерць. Тое самае — у Імамуры, у «Легендзе пра Нараяму». У абодвух творах сынам настае час выпраўляць бацькоў на паміраньне: японцу — маці, беларусу — бацьку. Цікава, што і там, і там сыны носяць сваіх старых на плячах. Але самае цікавае, што ў абодвух творах сыны паўстаюць супраць нялюдзкага закону.





«Нямоглы бацька» — зусім невялікая літаратурная казка, а «Легенда пра Нараяму» — маштабнае, маляўнічае кінапалатно. Сваёй каляровай шматфарбавасьцю яно нагадвае мне «Людзей на балоце», якіх Віктар Тураў зьняў таксама ў пачатку 80-х. Калі ўявіць сабе, што Тураў зьняў свой фільм не паводле Мележа, а паводле Караткевічавага сюжэту, мы б атрымалі ў пачатку 80-х цікавую зьяву ў сусьветнай культуры. У адным часе сышліся б дзьве «Легенды пра Нараяму» або два «Нямоглыя бацькі» — беларускі і японскі. Можна таксама гаварыць пра нераскрытыя магчымасьці нашай культуры, а менавіта пра тое, як у нас у пачатку 80-х склаліся перадпасылкі стварыць свой кінематаграфічны шэдэўр і як ня лёсіла гэта зрабіць. Японцы, якім дасталіся канскія ляўры, далі красамоўны прыклад нашага нешанцунку.

Яшчэ адзін такі прыклад — ужо зь сёньняшняга дня.

Цяпер у Японіі вучыцца і працуе нямала беларусаў. Ёсьць сярод іх і сьвядомыя патрыёты. Разам з тым у тэлетрансьляцыях з Нагана на трыбунах было шмат бэсэсэраўскіх сьцягоў, а нацыянальнага, незалежнага я ня бачыў ні разу.

Японская тэма і тут высьвечвае зьнікомасьць нашае культуры: то загарыцца, то згасьне, то загарыцца, то згасьне...

Дарэчы, падабенства нашых сьцягоў — гэта яшчэ адзін сюжэт беларуска-японскае блізкасьці.

**Сяргей Паўлоўскі**

# Песьні беларускаму спорту

«Над стадыёнам алімпійскім наш вольны Сьцяг дэмакратычны!» — не без іроніі дэклямаваў мой сябра падчас тэлетрансьляцыі адкрыцьця XXV Алімпійскіх гульняў у Барсэлёне. Тады, у 92-м, нашы спартоўцы выступалі адной эсэнгоўскай камандай разам з астатнімі братамі па няшчасьці. Але гэткая прыкрасьць цалкам кампэнсавалася шматразовым узьняцьцем сьцяга родных колераў у гонар беларускіх перамогаў. У гонар аднаго толькі залата Шчэрбы наш сьцяг уздымаўся шэсьць разоў.

Гэтая маленькая радасьць узмацнілася ў не залатым для беларусаў Ліліхамэры. Дзе пры зьяўленьні на экране Парамыгінай ці Жалязоўскага ў левым ніжнім куце адразу ж зьяўляўся і белчырвона-белы прастакутнік. Адна толькі наяўнасьць гэтага значака на экране апраўдвала для беларускай зборнай першы алімпійскі прынцып, дзе «галоўнае — удзел». Так думалася мне каля тэлеэкрану зімою 94-га.

Алімпіяду ў Атлянце я ўжо не глядзеў. І справа тут, вядома, не ў няўдачах нашай, ужо шматлюднай і асобнай, каманды. Раптам ва ўсёй сваёй краснай прыгажосьці выявілася, што не жыве беларускі дух у здаровым целе. Беларушчына, адваяваўшы сабе трывалы плацдарм на ніве прыгожага пісьменства й непрыгожай палітыкі, далей пакуль што не сягнула. Амаль не прабралася ў войска. Толькі намёкам выявілася ў бізнэсе. І не завалодала сэрцамі спартоўцаў. Вінаваціць у гэтым нашых алімпійцаў асабіста ў мяне няма ніякай ахвоты. Але асабліва цяжка мне глядзець іхныя інтэрвію. Дакладна ведаючы, што адразу ж пасьля выказваньняў па справе пойдуць да непрыстойнасьці сьлёзныя дыфірамбы на адрас двойчы прэзыдэнта — краіны і Алімпійскага камітэту — «бяз мудрага клопату якога нашаму спорту ня выжыць».

«Уяўляю твар Замяталіна, калі-б Цыплакоў ці Салей зьвярнуліся па палітычны прытулак у Японіі. Але ж ня зьвернуцца», —дасадаваў адзін патрыёт напярэдадні Нагана. Ды нягледзячы на нязбытнасьць ягоных хваравітых мараў, сёлетняя Алімпіяда кардынальна адрозьніваецца ад папярэдніх тым, што Беларусь на ёй прадстаўляюць дзьве каманды. У адной збольшага змагаюцца за тое, каб ня быць апошнімі. Тады як другая, дарэчы, апранутая ў нашыя колеры, заявіла пра сябе першымі шумнымі перамогамі. Цікава мне было слухаць у ранішнім мэтро размову двух мужычкоў пасьля беларускага разгрому нямецкай хакейнай зборнай. Я так і ня змог зразумець, якая эмоцыя болей апаноўвала сэрцы суразмоўцаў — радасьць ад перамогі, ці зьдзіўленьне такому выніку. Настолькі пакутліва цяжка было ім усьведамляць той нязвыклы факт, што Беларусь і эліта — паняцьці-сынонімы. Хай пакуль што толькі на хакейнай пляцоўцы. Але звыкацца з гэтаю аксыёмаю пара. Дарастаць да амбіцыяў. Безь якіх ня можа быць ні каманды, ні культуры, ні нацыі.

Эх, не складаюць у нас песень беларускаму спорту. Для нашых творцаў ён дагэтуль ня стаў тэмаю мастацтва. Прынамсі мне на памяць нічога такога не прыходзіць, акрамя апавяданьня Кастуся Травеня ў «Нашай Ніве», у якім аўтар вырашальны футбольны мач з камандай Расеі ператварае ў вырашальны для лёсу нацыі. Я думаю, ці не таму ўсе мае знаёмцы так прагна чакалі менавіта беларуска-расейскай дуэлі...

**Зьміцер Бартосік**

# Пачатак бясконцай дарогі

*Н.Илькевич. «Душа двоилась...» Повесть, рожденная в Смоленске. Бібліятэка часопіса «Край Смоленский». — Смаленск, 1997. 36 С.*

Ключ для прачытаньня чытач знойдзе ў падзагалоўку гэтай кнігі. Аповесьць Максіма Гарэцкага «Дзьве душы» дасьледчык разглядае выключна як паўнавартасную і ў поўнай ступені праўдзівую крыніцу гісторыі Смаленска, сьведчаньне пра чорныя дні 1918-19 гадоў гэтага калісьці патэнцыйна беларускага места. На іншыя аспэкты аўтар нават не вядзе вокам.

Усьведамляючы ступень незнаёмасьці сёньняшняга смаленскага (расейскага) чытача з творчасьцю Максіма Гарэцкага, дасьледчык вымушаны быў значны аб'ём сваёй брашуры прысьвяціць пераказу аповесьці «Дзьве душы». Пераказваючы фабулу, аўтар, рухомы «смаленскацэнтрызмам», апускае ладныя фрагмэнты, дзеі якіх адбываюцца па-за межамі горада N., які дасьледчык катэгарычна называе Смаленскам. Таму ў цытатах раптам зьяўляюцца героі, пра якіх у сваім пераказе Н.Ількевіч не сказаў і паўслова.

Н.Ількевіч не пасьлядоўны ў транскрыпцыі беларускіх прозьвішчаў. Прыкладам, прозьвішча галоўнага героя аповесьці «Абдзіраловіч» дасьледчык падае як «Обдиралович», але са Зьмітрака Бядулі «Бедулю» чамусьці рабіць ня стаў. Чым «аканьне» горш за «яканьне»? Дарэчы, газэта «Беларусь» (1919-20 г.), дзе Зьмітрок Бядуля зрабіў крытычны разбор аповесьці «Дзьве душы», выходзіла ў Менску, а ня ў Вільні, як сьцьвярджае аўтар кнігі (С.6).

Сёньня гэта здаецца нерэальным, але твор Максіма Гарэцкага «Дзьве Душы» быў добра вядомы і папулярны ня толькі ў Заходняй, але і ў Савецкай Беларусі, дый сам факт падзелу краіны на той час існаваў больш на мапах, чым у рэальнасьці. Пацьверджаньне гэтаму можна знайсьці ў кнізе «Успаміны пра Максіма Гарэцкага», а калі ўжо падыходзіць да літаратурнага твору, як да гістарычнай крыніцы, — то і ў самога Гарэцкага (гл. апавяданьне «У 1920 годзе»).

Цытаваныя ўрыўкі з аповесьці падаюцца ў аўтарскім перакладзе, але, на вялікі жаль, мастацкі пераклад не зьяўляецца «каньком» Н.Ількевіча, і тэкст нашага вялікага стыліста выглядае на старонках расейскай кнігі як тэорапіс малапісьменнага школьніка зь беларуска-расейскага памежжа. Адзінае, чым можа гэтая брашура ў нейкай ступені дапамагчы расейскаму чытачу прачыніць заслону гісторыі Беларусі — гэта тая літаратура, на якую спасылаецца аўтар у сваіх заўвагах. Але яна ў большасьці выпадкаў выходзіла на беларускай мове і як была, так і застаецца, насуперак тэзам рамаўтыкаў ад панславізму, для суседзяў на ўсходзе недаступнаю.

У прадмове да кнігі я вычытаў: «Шлях да Гарэцкага працягваецца». Што ж, шанец асіліць дарогу ёсьць толькі ў таго, хто ідзе.

**Андранік**

# Дзіцячае сьвята

*Яраслаў Гашак. Прыгоды бравага салдата Швэйка. Пераклад А.Мажэйкі. — Менск: Ураджай, 1998. 5000. (Сэрыя «Школьная бібліятэка»)*

Першае беларускае выданьне «Швэйка» адбылося ў 1931-32 гадох. Перакладчыкі — Зарэцкі, Лужанін, Крапіва. Мовы арыгіналу — нямецкая, расейская й чэская. Бібліяграфічны статус кнігі — рарытэт. Культурны і грамадзкі — амаль ніякі, бо беларусы дагэтуль ўпрысёрб зачытваюцца расейскім варыянтам рамана.

19 лютага ў Менскім Доме дружбы народаў прадстаўлялі першы беларускі пераклад «Швэйка», зроблены з чэскага арыгіналу. Я ня ведаю, зь якімі канкрэтна народамі «дружыць» наш вядомы культурны асяродак, але атмасфэра вечарыны была сапраўды сяброўская, з кавай і кветкамі. Да таго ж, больш «дружнай» і «дружалюбнай» атмасфэру сустрэчы ў Доме рабіла экспазыцыя эратычнага фота славутага Рымантаса Дзіхавічуса, што атачала прысутных.

Аўтар перакладу Аляксандар Мажэйка адразу шчыра паведаміў, што насамрэч першым беларускім літаратарам, які ўзяўся за пераклад «Швэйка» быў Уладзімер Жылка. Ён пераклаў другую частку рамана, якая патрапіла да Кандрата Крапівы, які, у сваю чаргу, «пажартаваў», паставіўшы пад рукапісам уласнае імя. Праўда, спадар Мажэйка пасьпяшаўся суцешыць прысутных: будучы «чэсным чалавекам», Крапіва пераслаў ганарар сапраўднаму аўтару...

Аляксандар Мажэйка адразу зацікавіў прысутных інфармацыяй аб тым, што ягонай працай выпраўленыя памылкі ведамага нам расейскага перакладу, якія вынікалі зь няправільнага разуменьня расейцамі некаторых «схожых» чэскіх словаў. Але расчараваў тым, што не займаўся перакладам нямецкіх фразаў, якія ствараюць каларыт твора. Зрэшты, нераспрацаванасьць у новым перакладзе нямецкіх вайсковых прымавак і выслоўяў пачатку стагодзьдзя, якія маюць самадастатковую значнасьць і цікавасьць, у гэтым выпадку ня мае вялікага значэньня. Рэч у тым, што новая кніга зробленая для сур'ёзнага чытаньня школьнікамі ўсіх узростаў, а таму ў ёй няма месца ня толькі сапраўднай нямецкай размоўнай лексыцы, але й сцэнам і дыялёгам, якія робяць «несур'ёзнага» Швэйка «Швэйкам».

На жаль, я ўжо выйшаў зь дзіцячага ўзросту. А таму напрыканцы сустрэчы пераключыў увагу на выкшталцоныя здымкі «ню». А ў думках пажадаў аўтару плёну ў далейшай працы над рукапісам поўнага перакладу, у якім усё будзе сапраўднае і прыгожае, без навалавўу, кшталту «поезд» ці «дом вар'ятаў».

**Севярын Квяткоўскі**

# Апошні камень

*DEVIATION. [...] або, таталітарызм ня прйдзе. DEVIATION, MBA prod., 1998.*

З усіх лёзунгаў, што я бачыў накрэсьленымі на плякатах дэманстрантаў мінулых менскіх вёснаў-зімаў, толькі адзін уразіў мяне сваёй прастатой, вызначасьцю й шчырасьцю: «Дыктатура — гаўно». Мяркую, юнак, які трымаў плякат, стоячы насупраць толькі адкрытага McDonalds'а, у пікеце салідарнасьці з палітвязьнямі, выразна ілюстраваў патэнцыйную аўдыторыю гарадзенскага гурта «Deviation».

Касэта — добры гук, выдатная паліграфія й арыгінальны дызайн вокладкі. З трынаццаці песьняў прадстаўлена дванаццаць тэкстаў. Цалкам беларускі альбом. Дзьве расейскамоўныя і дзьве польскамоўныя piosenki (выкананыя ў стылістыцы пераасэнсаванага польскага андэграўнду часоў вайсковага становішча) натуральна ўпісваюцца ў сытуацыю полікультурнасьці Беларусі, якая ў беларускім року канцэптуальна была прадстаўленая нядаўна ў «Народным Альбоме».

«Deviation» — мэдычны тэрмін. Ён азначае прамежкавы стан арганізму, які скіраваны да эрэкцыі. Упэўнены, што назва з гэткім самакрытычна-няпэўным сэнсам абранная гуртам ня зь сьціпласьці, а адно дзеля намёку-«падсьцёбу» слухачоў — расслабляцца нельга! Прынамсі, на тое выглядае сёньня...

Упершыню я пачуў і пабачыў «Deviation» летась на фэсьце «Басовішча». На кантрасьце з выступамі «монстраў» беларускага року зрэдчаснай ігра «міма касы» й празьмернасьць немудрагелістага патасу некаторых тэкстаў выразна «вісьлі на вушах». Тым ня менш, панк-хардавы выступ гарадзенцаў пакінуў найбольшы эмацыйны ўспамін ад фэсту. Праз штo: непасрэднасьць і жывасьць вакаліста Стаса ў імкненьні кантактаваць з аўдыторыяй? Ці відавочнае неразуменьне палякамі-беларусамі «праблематыкі» тэкстаў аб «жырных міністрах і тупых амапаўцах» і «расейскіх кратах і дарозе на Курапаты»? Аб тым, што трэба «змагацца, не здавацца»...

Калі ў маладосьці ў цябе не ўзьнікала жаданьне «перакуліць аўтамабіль», дык ці будзе аб чым паразмаўляць з табою ў старасьці? Сваім зьяўленьнем «у нашых жыцьцях» ППРБ спарадзіў новую хвалю маладзёжнага «пратэсту, зьмяшанага з абсурдам нянавісьці», жаданьне «перакуліць аўтамабіль, разьбіць крамную шыбу...», жаданьне «невыноснае, як родавыя схопкі» («НН» №1, 1994). Але шмат хто з гэтай хвалі так і ня выйшаў на вуліцу, альбо, выйшаўшы раз, больш не спрабаваў. Усё гэта не датычыць «Deviation». Яны пачалі зь «перакульваньня» ў простым і ўскосным сэнсе: з запісу песень і візітаў у «дэманстрацыйныя» камэры міліцэйскіх пастарункаў.

На складзе «НН» маецца касэта, якая аб'ядноўвае альбомы гуртоў «КальЯн» і «Deviation» пад назовамі «Ў краіне цудаў» і «Lukashenko... uber alles» 1996 і 1997 гадоў стварэньня адпаведна. Свайго кшталту пункт адліку іхнай вядомасьці ў Менску. На мой погляд, касэта мае адно архіўную вартасьць.

Заўжды існуе пагроза «зблытаць жаданьне пратэсту з натхненьнем, з творчай задумай», якое ўрэшце скіроўваецца да прадукаваньня «дзіцячай паэзіі». Мяркую, «брат па панку» дывэйшанцаў «КальЯн» так і застаўся ў зьмілавальна-непасрэдным «дыскурсе» сьпеваў «адна палка два струна — ненавіджу савецкую ўласьць», прыдатных адно для ўжываньня ў «сямейным альбоме», альбо для стварэньня масавасьці «пяцідзесяці беларускіх гуртоў» пры адборы кандыдатаў на «агульнанацыянальны» рок-конкурс. Што да «Deviation», апошні альбом паказвае, што дзейнасьць гурта хіснулася менавіта ў той бок, які робіць сэнс саманазвы адно сьціпла-хуліганскім «прысьцёбам», адбіткам пэрыяду «пошукаў шыбіны для каменя».

Цяпер хлопцам ня трэба насіць камяні ў кішэнях, бо яны самі сталіся «камянём», якога так не хапала, каб расшавоўліць пададзеную на «Рок-Кароне'97» «ва ўласным соку» менскую рок-тусоўку. Як ні дзіўна, з майго гледзішча, сёньня «Deviation» найбольш поўна адпавядае панятку «традыцыі і сучаснасьць». А менавіта — традыцыі ў беларускай рок-музыцы, запачаткаванай «Мроя». У «Deviation» выразна адчуваецца «старамроеўскага» кшталту «прыпанкаванасьць», і адначасова — «сярэднемроеўская» «хардавасьценькасьць». Але гэта ўспрымаецца не як плягіят, а менавіта як пераемнасьць, бо дывэйшанцы працуюць у цалкам аўтэнтычнай сучаснасьці. Можна нават зазначыць блізкасьць тэкставай патасна-патрыятычнай лірыкі «старога» і «малога» гуртоў. Гэта не зашкодзіць, бо аб'ектыўна немагчыма «закасіць» пад гурт пачатку васьмідзясятых. Досьвед папярэдняга, амаль цалкам англамоўнага і «англастылёвага» альбому «Deviation», засьведчыў марнасьць такіх высілкаў.

Старая «Мроя» імкнулася падкрэсьліць постмадэрнісцкую самагіронію да патэтыкі ў тэкстах, і пры гэтым вельмі сур'ёзна ставілася да музычных, крыху наіўных, але неабходных як сродак «узрываньня прасторы» формаў песень. «Deviation» наадварот. Ягоны тэксты «сьцёб-выклік» (пра мачэньне мянтоў і «забіць яны хочуць надзею») — той самы «камень», а музычныя пошукі, ня гледзячы на недастатковае (мяркую, пакуль што) майстэрства выкананьня, лёгкія й непрымусовыя.

Сёньня «Мроя» (NRM) апранула пінжачкі a la «Beatles», і гатовая даць канцэрт нават у клюбе КГБ. Але ня варта наракаць на «дыназаўраў». Калісьці яны папрацавалі так, што калі сёньня ў клюб імя Дзяржынскага запусьціць «Deviation» і сотню-другую іхных слухачоў, дык праблема з жаданьнем «кінуць камень» вырашыцца імгненна.

Гэта будзе апошні камень.

**Севярын Квяткоўскі**

# Сто беларускіх кніг XX ст.

«Наша Ніва» працягвае фармаваць рэйтынг лепшых беларускіх кніг XX стагодзьдзя паводле допісаў нашых чытачоў. Сёньня ў агульным рэдакцыйным сьпісе ўжо 630 назваў. За апошні час гэты сьпіс папоўнілі:

— Андрусь зь Менску, які першы згадаў нядаўна выдадзеную кнігу Янкі Запрудніка «Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях»;

— Вадзім Гайдалёнак таксама зь Менску, ён прыгадаў 33 найменні, але зь іх у нашым сьпісе не было толькі трох: гэта творы Янкі Брыля «Вячэрняе» і Васіля Быкава «Пайсьці і не вярнуцца» і «Сьцюжа»;

— сям'я Судзілоўскіх з Гомеля даслала некалькі сьпісаў. Зь неназванага раней там згадваюцца «Што, сябры» і «Навошта Радзіма паэту?» Ніла Гілевіча, «Патрыёт» і «Фанаты» Сяргея Грахоўскага.

Нагадаю, што праект «СТО БЕЛАРУСКІХ КНІГ» будзе працягвацца да канца стагодзьдзя, і ўзяць удзел у ім зможа кожны, хто зацікаўлены ў паўстаньні ў Беларусі герархіі сапраўдных культурных каштоўнасьцяў. Пакуль за сьпіс лідэраў нашага рэйтынгу выглядае наступным чынам (лічба ў дужках паказвае на колькасьць згадак гэтае кнігі нашымі чытачамі):

**Багдановіч Максім. Вянок (29)**
**Быкаў Васіль. Знак бяды (26)**
**Геніюш Ларыса. Споведзь (25)**
**Караткевіч Уладзімер. Дзікае паляваньне караля Стаха (24)**
**Колас Якуб. Новая Зямля (23)**
**Тарашкевіч Браніслаў. Беларуская граматыка для школаў (23)**
**Сагановіч Генадзь. Невядомая вайна (22)**
**Ермаловіч Мікола. Старажытная Беларусь (21)**
**Быкаў В. Сотнікаў (20)**
**Караткевіч Ул. Каласы пад сярпом тваім (20)**
**Купала Янка. Спадчына (20)**
**Смоліч Аркадзь. Геаграфія Беларусі (20)**
**Арсеньнева Натальля. Пад сінім небам (19)**
**Караткевіч Ул. Чорны замак Альшанскі (19)**
**Ластоўскі Вацлаў. Кароткая гісторыя Беларусі (19)**
**Туронак Юры. Беларусь пад нямецкай акупацыяй (19)**
**Аляхновіч Францішак. У кіпцюрох ГПУ (18)**
**Ігнатоўскі Усевалад. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі (18)**
**Мележ Іван. Людзі на балоце (18)**
**Купала Янка. Жалейка (18)**
**Гарэцкі Максім. Рунь (17)**
**Тарасаў Кастусь. Памяць пра легенды (17)**
**Віцьбіч Юрка. Плыве з-пад сьвятое гары Нёман (16)**
**Ермаловіч М. Па сьлядах аднаго міта (16)**
**Колас Якуб. На ростанях (16)**
**Караткевіч Ул. Хрыстос прызямліўся ў Гародні (15)**
**Маўр Янка. Палескія рабінзоны (15)**
**Энцыклапэдыя гісторыі Беларусі І і ІІ т. (15)**
**Арлоў Уладзімер. Таямніцы полацкай гісторыі (14)**
**Караткевіч Ул. Зямля пад белымі крыламі (14)**
**Ластоўскі В. Падручны расейска-крыўскі (беларускі) слоўнік (14)**
**Чаропка Вітаўт. Імя ў летапісе (14)**
**Гарэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры (13)**
**Беларусь. Энцыкляпэдычны даведнік (12)**
**Гарэцкі М. Дзьве душы (12)**
**Геніюш Л. Ад родных ніў (12)**
**Ткачоў Міхась. Замкі Беларусі (12)**
**Абдзіраловіч Ігнат. Адвечным шляхам (11)**
**Адамовіч Алесь, Брыль Янка, Калесьнік Уладзімер. Я з вогненнай вёскі (11)**
**Гарун Алесь. Матчын дар (11)**
**Дуйнар-Запольскі Мітрафан. Гісторыя Беларусі (11)**
**Кіпель Вітаўт. Беларусы ў ЗША (11)**
**Колас Якуб. Сымон-музыка (11)**
**Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі (11)**
**Разанаў Алесь. Вастрыё стралы (11)**
**Цётка. Хрэст на свабоду (11)**
**Алексіевіч Сьвятлана. У вайны не жаночае аблічча (10)**
**Архітэктура Беларусі. Энцыклапэдыя (10)**
**Быкаў В. Альпійская баляда (10)**
**Гілевіч Ніл. Родныя дзеці (10)**
**Дайнека Леанід. Сьлед ваўкалака (10)**
**Калубовіч Аўген. Крокі гісторыі (10)**
**Сямашка Я. Армія Краёва на Беларусі (10)**

## Віктар Шніп

***

... І ўбачыў я дарогу ў белы Храм,
А на дарозе — толькі цень крыжа,
Які адвеку вечна несьці нам,
Бо іншых крыл ня ведае душа,
Чым гэты крыж, чым гэтае жыцьцё,
Дзе нам няма спатолі ад пакут,
Дзе, як анёлы, над зямлёй лісьцё
Ляціць туды, дзе будзе Божы суд...
За сьпінаю цямрэча, нібы цень,
Зь якога выйшаў, каб застацца тут,
Каб бачыць прад сабой, як Бога,
дзень,
Каб плакаць і сьмяяцца ад пакут.

КАЗКА ПРА АПОШНЯГА П'ЯНІЦУ

Гразёй аблеплены платы
І вуліца, нібы канава.
«Апошні п'яніца — сьвяты,
Яго ахоўвае дзяржава» —
Пра гэта ведаюць усе.
Няма на п'яніцу праклёну.
Дадому пляшку ён
нясе,
Нібы кароль сваю
карону.
За ім бягуць сабакі
ўсьлед
Ягонай каралеўскай
сьвітай.
Ён не кляне наш
грэшны сьвет,
Ён ведае, што ўсё
прапіта.
Ён прыйдзе радасны
дамоў,
І падабранымі са
сьмецьця
Партрэтамі
бальшавікоў
Распаліць печку,
будзе грэцца...



ТАПЕЛЕЦ

На чорных крылах
хваль плыве тапелец
сіні,
Вароны кружацца галодныя над ім.
А хамы на ўзьбярэжжы, як на градах
сьвіньні,
Балююць сыта, не бядуюць
ні аб чым.

Ганяе вецер,
быццам
прывіды,
газэты,
За імі мухі
злосна чорныя
гудуць.
Гніюць сьмярдзюча ў травах агуркі,
катлеты.
А пляшкі — п'юць
ратамі бітымі ваду.

А ён плыве, абняўшы
плынь рукамі,
Цяжкі, як лёс, які ня
варты і граша.
Глядзіць спакойна ў
неба чорнымі вачамі,
Дзе каняй шэрай
лётае, крычыць душа.
Да берага прыплыў, а хамы сьпяць, як
сьвіньні,
І сыты храп, як пыл, ляціць па сьвеце
ўсім.
І б'ецца ў бераг галавой тапелец сіні,
Вароны звар'яцела каркаюць над ім.

***

Нялёгка жыць у гэтым тлумным
сьвеце
І паміраць ня хочацца зусім.
І ўжо душу зь мяне бязбожны вецер
Ірве, нібыта з цыгарэты дым.
І я іду, як цень, які ня знае,
Адкуль узяўся ён, навошта ён.
Звалюся ў сьнег, і сьнег мяне схавае,
Нібы ад воч савіных, ад вакон.
Мне хочацца крычаць. Ды хто пачуе
Акром сабак, што шнырац па дварах,
Якім на сьметнях сёньня не шанцуе,
Як не шанцуе мне на лёгкі шлях.
Ды трэба жыць пакуль бязбожны
вецер
Ірве зь мяне душу, як кволы дым
З атрутнай цыгарэты, што мне
сьвеціць
У горадзе галодным і чужым.

Ан Дынь Ко

# ВІЛЕНСКІ БАЙСТРУК

Цяпер ужо ніхто ня скажа, што з Валадаркі нельга ўцячы.

Ад славутага менскага астрогу, галоўнае турмы краіны, усяго нейкія сто мэтраў да цэнтральнае плошчы, пляцу Незалежнасьці, і мэтраў пяцьдзясят да Дому Ўраду. Сваю першую назву вязьніца атрымала з нараджэньня — па імені губэрнатара-будаўніка яе ахрысьцілі Пішчалаўскім замкам. Цягам амаль палова стагодзьдзя ён быў адзіным неразбураным замкам Беларусі. Крывой вуліцы, на якую выходзяць турэмныя муры, пасьля рэвалюцыі надалі імя чэкіста (а мо й не чэкіста) Валадарскага, то ў турмы аб'явілася й новая назоўка: Валадарка. За стагодзьдзе з Валадаркі не зьбягаў ніхто: ні за цара, ні за Керанскага, ні пры саветах, першых немцах, бальшавіках, паляках, за Сталіна, за Гітлера, пры камуністах, пры незалежнасьці ані за Лукашэнкі. Першым і адзіным быў Максім Крыварот, які ўцёк 15.08.1996 з дапамогай сваёй сяброўкі Багданы і беларускай Самаабароны.

Няма лепшай экскурсіі ў Менску, як прайсьці тым шляхам, якім уцякалі Крывароты.

Выцягаючы Багдану з кабіны раструшчанага грузавіка, які зрабіў сваю справу, не падкачаў, Максім ведаў, што цяпер, калі выкананы чацьверты і галоўны пункт пляну ўцёкаў, іх пэўная фора складае ня больш за дзесяць або дваццаць сэкундаў, пакуль не перайшоў шок вартаўнікоў і не раве сырэна трывогі. Ён ведаў таксама, як шмат залежыць ад выпадковасьцяў: што за мінакі апынуцца ў гэтую хвілю побач, ці ня трапіцца ля турмы выпадковы патруль, ці прачнуцца ад грукату зруйнаванай сьцяны тыя мянты, што сьцерагуць турэцкую амбасаду, ці ня дасца ў вочы што падазронае нараду, які па. жыцьці таўчэцца ў кутку плошчы Незалежнасьці ля гатэлю «Мінск». Ён перакінуў пісталет з Багданінай кішэні сабе за пас; пацалаваў Багдану, злапаўшы за грудзі; ён падвярнуў нагу на цагліне і ледзьве ня ўпаў; ён па-ранейшаму адчуваў сябе сьцятым, як спрынтэр перад стартам, але які ён ужо быў шчасьлівы, хвілі цягнуліся для яго хвілінамі.

Адпачынкавая пустэча завулку, што вядзе ад Расейскага тэатру да неахайнай будоўлі музэю кіно ўспрымаецца як належнае.

Максім Крыварот тут ня змог утрымацца, каб не падскочыць, не сарваць некалькі кіслых, дробных яблыкаў-жалезьнякоў і не надкусіць іх адно за адным на бягу. У сваім стане звышканцэнтрацыі ён таксама ня мог не заўважыць памылкі на шыльдзе ўкраінскага консульства «Прийом грамадян», і не зарагатаць таму, што вялебна-хрысьціянскі штандар нунцыятуры Сьвятога Пасаду лунае пад маладзіковістым чырвоным турэцкай амбасады — якая параза хрысьціянства — а побач з шыльдай нунцыя вісіць раўнаважная шыльда «Прадстаўніцтва кампаніі Philips». Ён зашпурнуў недагрызак у разьбітую балонку вакна будучага музэю — большую безгустоўнасьць і эклектычнасьць рэстаўрацыі цяжка знайсьці; зноў чмокнуў Багдану ў шыю, свабода, — падумаў ён, — можна пайсьці і павячэраць у «Гасьцінным двары», і засьмяяўся з цнатлівай парнаграфіі савецкіх фантанаў, з голых бронзавых дзеўкі й хлопца са сьцертымі полавымі прыкметамі, што «ўяўляюць сабой кампазыцыйны цэнтар прасторавага рашэньня сквэру». Чамусь у тыя часы аголеныя целы дазвалялася ўвабражаць толькі ў фантанах. Ці гэтыя статуі мелі завабліваць людзей да купаньня?

Далей яны зьмяшаліся ў натоўп парафіянаў з кветкамі — быў дзень Усьпеньня Дзевы Марыі — у Чырвоным касьцёле зь ягонымі так безгустоўна размаляванымі ў бэзавы й ружовы колеры скляпеньнямі, зь ягонымі тандэтнымі скульптурамі, сьлязьлівымі надпісамі, гіпсавымі расьпяцьцямі, лубочнымі абразамі, усім markastылёвым, кідкім, быццам бы купленым у камісіёнцы і перафарбаваным. Нездарма кажуць, стойкі цмок заплаціў жыцьцём за сваё стойкае маўчаньне на допыце ў арханёла, які спрабаваў дазнацца імя аўтара гэтага дэкору.

Вясёлы ўсхваляваны ксёндз правёў іх у касьцёльныя лёхі, выдаў ключы і ліхтарык і наказаў усюды трымацца праваруч, а за дзьвярыма, на якіх будзе вісець дагары нагамі мэнора, павярнуць па сходах наверх. Яны мелі пражыць пад домам масонаў, дзе ў падзямельлях маецца маленькі пакойчык з двума — сувора й жартаўліва акцэнтаваў ксёндз — ложкамі, лямпамі і бібліятэкай, да дваццаць восьмага жніўня. Дваццаць восьмага а сёмай раніцы, на Гандлёвай набярэжнай супраць Выстаўкі іх меў чакаць рудаваты хлопец з рыбацкім рыштункам і павуком. Ім рэкамэндавалася выйсьці праз вакно ў Камунальны завулак, але не спускацца на Гандлёвую адразу ж за домам Ваньковіча, дзе строма, а абысьці дом масонаў на захад да бітай сьцежкі. Яны мелі запытацца ў хлопца: «Ну што, шчэ не перавяліся ў Сьвіслачы шчупакі?» Хлопец з павуком мусіў адказаць «шчупакоў ня ем, ем толькі стронгу». Іхны водгук «Мы ня ведаем смаку стронгі». Калі б ім не адказалі «Ем толькі стронгу», яны мусілі адразу павярнуць назад і сядзець у катакомбах яшчэ дваццаць чатыры гадзіны да сёмай раніцы наступнага дня.

Краты на невялічкім вакенцы ў касьцёльным падзямельлі адчыняюцца лёгкім поціскам далоні. Крокі тых, што наверсе, тукацяць глуха, покі не згасаюць зусім.

Падземная галерэя забірае ўсё данізу й данізу. Ад холаду пачынаюць шморгаць насы. Адусюль даносіцца роўны гук падзеньня кропляў. Недзе поддаль цурчыць вада. Сьвятло ліхтарыка расплываецца па грубых сьценах. Сюд-туд нага чапляе грудку друзу або засохлага цэмэнту, раз-пораз з-пад рукі, а то й на плечы зьверху ці збоку зь непрыветным сіпеньнем прамыкае струменьчык жарствы. Распростацца няма як: галава ўпіраецца ў кант нейкіх рыштаваньняў. Ад пляча да сьцяны таксама застаецца можа які крок. Даводзіцца рушыць сагнёнымі.

Далёка наверсе маўчыць Менск, кляты Менск наш шэранькі, закляклы ў разложыстай пrasторнасьці, змучаны кліматам, фізыялёгіяй і ампірам, але поўны загадкавых знакаў і таемных намёкаў. Менск нарадзіўся з паразы на Нямізе і ў вечнай паразе жыве. Перамогі тут немагчымыя, бо немагчыма напоўніць гэты неакрэсьлены горад, у якім не пабудуеш барыкадаў, які патанае ў абшары, у ляноце паркаў, што плаўна пераходзяць у батанічныя сады. Места адвечнага падпольля і партызаншчыны, дзе за кожным рогам калі не Марат Казей з гранатай, дык дзед Талаш з ружжом, дзе нават на цэнтры высокай моды вечную варту нясуць народныя мсьціўцы, а звычайны сталёвы танк ператвараецца ў прыжыцьцёвы манумэнт ганароваму старшыні таварыства абароны манашак. Горад колеру шкляных пэрлаў; поўны будынкаў, несправядліва забітых, што сталіся прывідамі і срэбнымі зданямі струменяць у неба месячнымі начамі, і поўны будынкаў-саркафагаў, несправядліва пабудаваных. Горад-тралейбус.

Тут тратуары шырокія як маставыя. Тут помнік Леніну прамаўляе на мове, забароненай камуністамі. Адкормленыя гіпсавыя калгасьніцы на дахах прыносяць сьпелыя снапы ў ахвяру птушкам. Умоўная Няміга сымбалічна ўліваецца ва ўмоўна шырокую Сьвіслач (хоць не такую ўжо й вузкую, раз па ёй у бэрнардынскія муры прыплыло столькі бізантыйскага харaства). Бронзаваму Багдановічу тут відаць пяць храмаў, а маладым, што прыносяць яму кветкі — толькі два. Здані з разбураных і апаганеных Залатагорскіх, Старажоўскіх, Жыдоўскіх, Нямецкіх і Татарскіх могілак носяцца ўздоўж старых трактаў, не даюць спаць менскім дыктатарам, і тыя таксама — паяжджане — мусяць бясьсільна лётаць уначы туды-сюды праспэктам, у якога дарма забралі імя Сталіна (Джугашвілі належыць да цімалкага шэрагу тых, каму ў Менску не пашанцавала: назвы зь ягоным імем зьніклі, і помнікі былі зруйнаваныя, а нават на будынку СуворАўскай вучэльні ягонае імя старанна пасьцiралі з кніжак, што аздабляюць фасаду, і дзе раней было напісана Маркс—Энгельс—Ленін—Сталін, засталася толькі тройка цнатлівых клясыкаў; так і вымелі чыста з усяго горада, перабудаванага ў ягоны гонар і да ягонага густу). Паяжджане нясуцца да мітрапаліта ці кардынала вымольваць адпушчэньне грахоў, шукаць збаленьня ад прывідаў, фантомы борзда хаваюцца ў паддашшы опэры, жабракі збрыдаюцца на вакзал, ноч агортвае паскудзтвы і агаляе вабноты, топіцца ў Сьвіслачы вар'ят Лё Карбюзье, і адразу запальваецца комусь патрэбная зыркая зорка манумэнта перамогі. Ноч накрывае змрокам усё, апроч фасадаў, менавіта таму Менску так пасуе ноч: пабудаваны ў XX стагодзьдзі горад фасадаў ня зносіць сьвятла і ня хоча, каб яму лезьлі ў душу, бо ня ведае слова «душа». Ягоная «душа» хаваецца там, дзе вартуюць вежы двухгаловых сабораў, пульсуюць жылы завулкаў, напятыя нэрвы катакомбаў; яна чакае паўстаньня зь мёртвых.

Усё ж той, хто бачыў ломкія цені клёнаў на бледным тле царквы сьвятога Язэпа, ня можа не палюбіць няўпэўненага хараства старога Менску, горада неспатоленых жаданьняў. Гэтаксама як той, хто ў першую кастрычніцкую сьцюжу саграваўся ля вечнага агню на плошчы Перамогі, наўрад ці забудзе бяздушную красу Менску, пабудаванага пасьля апошняй вайны, падобнага на пакрыўджаную і недагледжаную, але шчодра падфарбаваную правінцыйную пані з гонарам і парасо-

Працяг на старонцы 14.

**Мікола Сьцепаненка**

# Праўдзівая гісторыя аб пахаваньні бабы Мані

Гэта здарылася вясною ў вёсцы Копцеўка, што на Магілёўшчыне.

Зранку трыццацівасьмігадовая дачка ўбачыла нерухомае цела маці. Схапіла халодную далонь і пачала кленчыць, але безвынікова.

Не губляючы часу, дачка пабегла да доктара. Ад убогай хаткі, што стаяла наводшыбе ля ракі, да бальніцы было недалёка. Не прайшло і дваццаці хвілінаў, як каля ложка старой стаяў мясцовы фэльчар. Нетаропка агледзеўшы цела, ён паспачуваў дачцы і маленькай байструччы, якая ціхенька назірала за тым, што адбывалася ў хаце, і выпісаў пасьведчаньне аб сьмерці. З афіцыйнай паперай дачка накіравалася ў сельсавет. Старшыня з разуменьнем паставіўся да ейнага гора — выпісаў грашовую дапамогу ў памеры 1 млн. 200 тыс. беларускіх рублёў і даў загад на саўгасную пілараму.

У той самы дзень са сьвежых, набрынялых вільгацьцю дошак рабочыя насьпех зьбілі вялізную, не па памерах дамавіну, ведаючы наперад, што слова падзякі за сваю працу не атрымаюць, ня кажучы ўжо пра пляшку.

Баба Маня з дачкой была не зь мясцовых — прыехалі аднекуль з Расеі. Гаспадаркі сваёй ніколі ня мелі, жылі адасоблена ў маленькай, абабітай рубэроідам хаце. Раней да іх па вечарах наведваліся маладыя хлопцы, цягнучы з сабой бульбу, сала, малако. У выніку зьявілася на сьвет унучка, і гэта таксама выклікала абурэньне вяскоўцаў.

На наступны дзень, калі дачка пачала рыхтаваць маці ў апошні шлях, старая нечакана расплюшчыла вочы і раскрыла рот.

Пяць дзён баба Маня праляжала на бальнічным ложку, а фэльчар на выдзеленыя дзеля жалобы грошы калоў уколы і ставіў кропельніцы. На шосты дзень, калі скончыліся грошы, ён агледзеў пацыентку і прыйшоў да высновы, што на гэты раз баба Маня па-сапраўднаму адышла ў нябыт.

У бальнічным двары труну ўсклалі на калёсы, і перад тым, як адвезьці нябожчыцу дамоў, дачка правяла каня пад вокнамі сельсавету.

Дапамагчы хаваць старую з аднавяскоўцаў ніхто не захацеў. Дачцэ не заставалася нічога іншага, як прыйсьці да барака, дзе жылі асуджаныя каленіі-пасяленьня УЖ 15/18. Звыклы да хабару кантралёр каленіі прапаршчык Александровіч выдзяліў чатырох хлопцаў з умовай, што за працу жанчына разьлічыцца наяўнымі. Асуджаным, натхнёным выпадковым заробкам, а галоўнае — адсутнасьцю побач мянта, праца падалася зусім простай. Праз дзьве гадзіны ва ўказаным месцы, на самым ускрайку могілак была вырыта і акуратна зачышчана яма.

Не дачакаўшыся палудня, што паводле мясцовых звычаяў забаронена, труну зь нябожчыцай усклалі на калёсы і маленькая працэсія рушыла да могілак. У труне баба Маня выглядала амаль як жывая: тонкія чорныя бровы, румянец на шчаках... З-пад капы высоўваліся худзенькія ножкі ў белых шкарпэтках — баба Маня была неабутая.

Доўга разьвітвацца зь нябожчыцай ні ў кога жаданьня не было, і ўжо праз дзесяць хвілін двухметровы зэк Шура па мянушцы Малыш паказваў на грудок, аздоблены адзіным маленькім вяночкам.

Атрымаўшы на брата па 50 тыс. рублёў плюс палціньнік прапаршчыка Александровіча, хлопцы вярнуліся ў барак.

На гэтым гісторыя з бабай Маняй магла б і скончыцца, калі б яе не пабачылі зноў. Апоўначы, недалёка ад могілак вартаўнік Антон нечакана для сябе напаткаў жанчыну. У белых шкарпэтках яна павольна рушыла ўздоўж ракі.

П'яніцу Антону ніхто б не паверыў, калі б праз тыдзень ягоны аповед не пацьвердзіў браканьер Саха. Сярод ночы, закідаючы сеткі, ён пабачыў жанчыну ў белых шкарпэтках, якая прайшла праз грэблю і пасіху скіравалася ў бок могілак. Відавочнае супадзеньне прывяло да таго, што па вёсцы папаўзьлі розныя чуткі. Людзі сталага веку казалі, што баба Маня была вядзьмаркай, і цяпер чакайце ліха. Моладзь схілялася да думкі, што зэкі за грошы пахавалі пустую труну, а старая жывая.

Больш за ўсіх прывід бабы Мані непакоіў вартаўніка Антона, якому час ад часу даводзілася хадзіць у крадла і сустракаць на сваім шляху загадкавую постаць. Каб пераканацца на ўласныя вочы, ці сапраўды старую пахавалі, Антон зьвярнуўся ў барак да пасяленцаў і прапанаваў за адпаведны кошт разрыць магілу. З тых хлопцаў, якія хавалі бабу Маню, на пасяленьні засталіся адзіны Васіль па мянушцы Вініпух. Двое адбылі тэрмін і зьехалі, яшчэ адзін «раскруціўся» і адбывае пакараньне ў калёніі стогага рэжыму. Васіль выслухаў Антона і катэгарычна адмовіўся праводзіць эксгумацыю, паслаўшы яго...

Да гэтага часу прывід бабы Мані блукае па Копцеўскім наваколлі.



# ВІЛЕНСКІ БАЙСТРУК

Працяг са старонкі 13.

нам.

Паўтара года таму на Петрапаўлаўскай царкве шчэ званілі не ў званы, а ў рэйку. Каталікі тады толькі-толькі адваявалі ў таэквандыстаў і дзюдаістаў сваю катэдру, якая пяцьдзесят гадоў праслужыла спартзаляй: цені ўсходу ляжалі на спустошанай сьвятыні, і ад былых гаспадароў заставаўся на сьцяне надпіс-дэвіз Mors Tua Vita Mea, але каталікі доўга не счышчалі яго... Твая Сьмерць Маё Жыцьцё... Праспэкт, калі памятаеце, па савецкай старынцы заставаўся адзінай галоўнай сталічнай вуліцай на сьвеце, на якой амаль не было кавярняў, і залатая менская моладзь ціснулася, бессаромна падрабляючы квіткі, на якогась Гадара ці Джармуша з рэтраспэктывы пад фанабэрыстай назвай «Элітарнае кіно» ў Альтэрнатыўным. На сцэне опэры ўпершыню ў яе гісторыі з лёгкай рукі Пінігіна сэнсацыйна каталася просьценькае, але ж старое аўто. Гэта было ўсяго паўтара года таму. Адным тады здавалася, што Менск прагне зьдзяйсьненьня, насычэньня знакамі. Іншыя раней шаму лічылі, што шчэ доўга ў Менску можна будзе толькі пражываць ці спыняцца, але не прырастаць каранямі: мець наўтульны начлег, сьціснуўшыся, як на сядзеньні аднаго з тых тралейбусаў, што стаўляюць начаваць ля перапоўненага дэпа недзе на Чырвонай, на колішняй вуліцы ружовых ліхтароў, літасьціва пакідаючы адчыненымі вільготныя пярэднія дзьверы.

Калі жыцьцё было больш геамэтрычным, цяпер ці тады? Калі было больш дабрачыннай і менш нахлебнікаў, цяпер ці тады? Невядома.

Рэстаўрацыя толькі недзе з краёў, ад базыльянскага кляштару, падбіралася да палацыкаў Верхняга горада, а ў закінутых і разгромленых дамах цалаваліся закаханыя, спраўлялі фэсты наркаманы, туліліся вар'яты і валацугі. Між вялікіх руінаў швэндаліся вясёлыя студэнты, спадзеючыся пабачыць тое, чаго ня бачыў ніхто. Брыдкаму гмаху крамлёўскага палаца шчэ можна было адпомсьціць надпісам на бэтонным плоце вакол будоўлі. Як жа хутка ўсё зьмяняецца ў Менску, гэтай выпадковай, процi волі сталіцы!

Уласьці тады давалі рады за вечар арыштаваць сто, а то й дзьвесьце чалавек. Але на гэта яны й цяпер здольныя. Сёньня мала хто й згадае, што ўвесну 1996 году між арыштаванымі быў і Максім Крыварот: пра яго не пісалі ў газэтах, ягонае прозьвішча не выгуквалі шматлюдныя шэсьці, у яго абарону не выказваліся расейскія і амэрыканскія ўрадоўцы, і платы не бліскучэлі гучным «Свабоду Максіму». Нават тыя нешматлікія праваабаронцы, што спачатку мелі зьвестку пра ягоны арышт, у мітусьні драматычных і фэерычных вясны й лета выпусьцілі яго з вачэй. У адрозьненьне ад прафэсара Хадыкі, нацыяналіста Сіўчыка, Славаміра Адамовіча, сумленнага аматара піва Рамашэўскага, украінцаў, якія ўсе адчувалі за сабой падтрымку тысячаў, ён стаяў самнасам з карнай машынай.

Чаму так здаралася? Ён быў сіратою, адзінаком, з дальшымі сваякамі асабліва не кантачыў. У сяброў былі важкія прычыны, каб да часу не ўсчынаць галасу, і толькі ягоная дзяўчына магла б стаць тым чалавекам, які не даў згубіцца жывой душы, але яны былі пасправаўшыся, разыйшоўшыся, ён зьнік, маўчаў, не адгукаўся, сябры загадкава дурылі ёй галаву — ну што дзяўчына ў такой прыгодзе мела рабіць?

З Крыварота хацелі раскруціць супэрпрацэс, зноў зьняважыць і апляваць увесь рух зь яго дапамогай: таму яго трымалі ў ізаляцыі і не афішавалі, таму ў ягонай кватэры «абнаружылі» наркотыкі й зброю, а сьледчыя тры месяцы дзень пры дні пазьмення апрацоўвалі яго, таму яны ўрэшце выйшлі на Багдану, каб націснуць і з гэтага боку. Не была б то Багдана!

У менскім падпольлі неўзабаве страчваеш пачуцьцё зямнога, уяўленьне пра рэчаіснасьць паверхні. Падпольле прыцягвае магнітам, п'яніць галаву. Пад зямлёю ўмомант забываеш ня толькі надворныя тлум і нявыкрутку, але і ўсе засьцярогі зь перасьцярогамі, страчваеш інтуіцыю, чуйнасьць зацкаванага зьвяра, зь якімі гадуецца любы чалавек у гэтай пастцы Эўропы і безь якіх тут не пражыць.

Стома прыйшла хутка, і, вядома, уцекачы ня ўседзелі пад зямлёй. Спачатку яны пайшлі агледзець славуты палац, пад якім ім выпала жыць. Графіці Whitesnake і «Всё запрещено» на сьценах вялікай залі дома масонаў не напалохалі каханкаў, і яны выправіліся далей на шпацыр каханым горадам, местам эпохі магчымасьцяў, абыйшлі ўвесь Верхні горад, усё, што засталося ад шчырага Менску.

Мы таксама можам моўчкі пастаяць у двары дома №31 па Хрышчэнскай, перакручанай камуністамі ў Інтэрнацыянальную — тут нарадзіўся Крыварот, — вузенькім, з рэштамі бруку на зямлі, глухой сьцяной аддзеленым ад суседняга палаца, дзе месьціцца ваенная частка. На муры сінее надпіс «Жыву і памятаю». Колькі жыў Максім, столькі быў на сьцяне гэты надпіс. Цэлыя манастыры і гарады ўзрывалі саветы, а невядомая рука штогод паднаўляла і паднаўляе гэты сьціплы рэквіем. Хто прыдумаў гэта, хто даглядае? Дробныя менскія таямніцы, дробны менскі супраціў.

І ўжо ім схацелася выпіць кавы ў кавярні на Малой сцэне Купалаўскага, дзе яны калісь мелі звычку сустракацца. Яны не маглі адмовіць сабе ў гэтай прыхамаці. Дамініканская-Энгельса і самая эклектычная на сьвеце «Кастрычніцкая» плошча ў тыя часы шчэ былі цалкам перагароджаныя пачварнай будоўляй, ісьці вуліцай Леніна яны збаяліся — там заўжды таўчэцца поўна міліцыянтаў. Містычнымі дварамі па-за музэем Вялікай вайны, паўз танкі, гарматы і самалёты, што застыглі ў вечнай засадзе, яны выйшлі да Белсаўпрафу.

Горад увесь чыста быў ачэплены густой сеткай патрулёў. Міліцыя, амон, спэцназ, служба аховы прэзыдэнта, кгб, унутраныя войскі, слуханцы міліцэйскіх і спэцыяльных вучэльняў — усіх іх вывелі на вуліцы, каб схапіць і пакараць дзёрзкіх уцекачоў. У змрочным падземным пераходзе ля Белсаўпрафу таксама правяралі дакумэнты. Крывароты заўважылі гэта запозна, разгубіліся, кінуліся ў палац. Гэта не маглі не заўважыць. У фае грукацела дыскатэка. Рванулі налева, на лесьвіцу ўніз, направа праз вэстыбюль зноў на лесьвіцу, па калідорах паўз залі і кабінэты: дзесь паказвалі фільм, недзе сьпявалі сэктанты. Далей праз лесьвіцу, паўз тупік, да незамкнёных дзьвярэй на гарышча. Бегучы, Багдана ўсё ж не забылася пару разоў сыпануць за сабой перцу. З вэнэцыянскага даху палацу можна было ацаніць абстаноўку.

Яны ўзьлезьлі на дах сама каб пабачыць, як да палацу з-пад цырку пад'ехалі чатыры машыны. Плямістыя формы, сабакі. Грукат дыскатэкі раптам сьціх. Вызіраючы з-за бадзёрых статуяў, яны зноў глядзелі на свой горад зверху, а не з падмосьця. Панарама расьсьцілалася як пасыпаная блакітнымі мундзірамі: каля Дому афіцэраў і каля цырку, нават ля фантану зь лебедзем і пад танкам ля прэзыдэнцкага палацу варушыліся патрулі. Максім асьцярожна перагнуўся праз лядашчы вадасьцёк: пад калёнамі на рагу паўночнага і заходняга бакоў Белсаўпрафа нерухома стаяў, шырока расставіўшы ногі ў важкіх чорных ботах, дзябёлы амонавец. Ратавацца не было куды.

Яны глядзелі туды, дзе сонца дапякае сьціплыя крыжы сабораў, парныя шпілі якіх правальваюцца ў бяздонныя, бяскрайнія, бязьлітасныя новыя кварталы. Цела Верхняга горада дыхала ім у твар духам пабуджаных камянёў. Гэта быў іх горад, ён увесь памятаў іх. Сярод руінаў яны пратэставалі супраць разбурэньня саветамі будынку першага менскага тэатру, у іншым месцы курылі цёплымі травеньскімі вечарамі, марачы пра заўтра, пра «сонца, якое ўзыходзіць». Ля кляштару калісь упершыню было вымаўлена нязвыклае слова «незалежнасьць», а пад адным з груваcткіх вязаў, на купе будаўнічага друзу напіліся да піску, як шведы, у дзень ягонага паўналецьця: чарку па коле за незалежнасьць, чарку за беларускую птушку бусла, шчэ адну, каб кулі міналі, каб шаблі ня бралі, каб здыхалі ворагі, чарку за каханьне, порцыю за новую культурную сытуацыю... Ім ураз прыгадаліся дзесяць гадоў праўдзівага шчасьця як адзін

Паўль Целян

# ФУГА СЬМЕРЦІ

Чорнае малако сьвітанку мы п'ем яго ў прыцемках
мы п'ем яго ў поўдзень і раніцай мы п'ем яго ўночы
мы п'ем яго п'ем
мы рыем у паветры магілкі там ляжаць ня так цесна
У доме жыве чалавек ён бавіцца з гадамі піша
ён піша калі ўжо зьмяркаецца над ягонай Нямеччынай
твае валасы залатыя Маргарэт
ён піша іх і выходзіць з дому туды дзе зоркі
блішчаць ён кліча сваіх сабак ён кліча сваіх гэбраяў
мусіце рыць у паветры магілкі
загадвае каб гралі тут і скакалі

Чорнае малако сьвітанку мы п'ем цябе ўночы
мы п'ем цябе п'ем
У доме жыве чалавек ён бавіцца з гадамі піша
ён піша калі ўжо зьмяркаецца над ягонай
Нямеччынай твае валасы залатыя Маргарэт
попел тваіх валос Суламіт мы рыем у паветры моглікі
тут ляжаць ня так цесна
А ён крычыць рыйце зямлю глыбей і вы і тыя і гэтыя
каб сьпявалі і гралі
вымае з похвы клінок махае ў яго блакітнае
вока яшчэ глыбей у зямлю далакопы а вы
тыя і гэтыя грайце яшчэ каб усе пусьціліся ў скокі

Чорнае малако сьвітанку мы п'ем цябе ўночы
мы п'ем цябе ў поўдзень і раніцай мы п'ем цябе
увечары
мы п'ем цябе п'ем
у доме жыве чалавек твае валасы залатыя Маргарэт
попел тваіх валос Суламіт ён бавіцца з гадамі

Крычыць грайце пяшчотней да сьмерці сьмерць
Майстра зь Нямеччыны
крычыць дадайце скрыпак каб узьняцца
як дым у паветра
сярод аблокаў там вашыя магілкі там
ляжаць ня так цесна

Чорнае малако сьвітанку мы п'ем цябе ўночы
мы п'ем цябе ў поўдзень
сьмерць майстра зь Нямеччыны
мы п'ем цябе ўвечары й зранку мы
п'ем цябе п'ем
сьмерць — майстра зь Нямеччыны ў яго блакітнае вока
ён цэліць сьвінцовую куляй ён цэліць у цябе дакладна
у Доме жыве чалавек твае валасы залатыя Маргарэт
спускае сваіх сабак дае нам у паветры магілкі
ён бавіцца з гадамі й сьпявае сьмерць майстра
зь Нямеччыны

твае валасы залатыя Маргарэт
попел тваіх валос Суламіт

*Пераклад зь нямецкай Ігара Бабкова*



**ПАЎЛЬ ЦЭЛЯН** (Лео Паўль Анчэль) — адзін з самых легендарных сярэднеэўрапейскіх паэтаў дваццатага стагодзьдзя. Нарадзіўся ў Чарнаўцах у 1920 годзе, пісаў па-нямецку. Пасьля другой сусветнай вайны жыў у Бухарэсьце, Вене, Парыжу. Скончыў жыцьцё самагубствам у 1970.

У сваёй паэзіі ішоў ад «цёплага сярэднеэўрапейскага экспрэсіянізму» да «трагічнай мэтафізыкі» слова.

Верш «Фуга сьмерці» (Todesfuge) перакладзены з кнігі «Мак і памяць» (Mohn und Gedachtnis, Stuttgart, 1952).

уздых, як адзін узьлёт, ад першага да дзясятага, толькі іх што й было ў існаваньні, ад восемдзесят шостага да дзевяноста шостага ці ад шаснаццатага да дваццаць пятага, як ні вылічай. Ці перанясе старое места гэтую цяжэйшую, чым апэрацыя на сэрцы, адбудову? Урэшце, што... У турму Крыварот вяртацца не зьбіраўся ні ў якім разе.

Куды падзецца, куды падацца з даху? Перац вывядзе з гульні сабак, украдзе ў пагоні колькі хвілінаў. Прарывацца? Шаленства.

Палымяны й горды розум падказваў вырашэньне, адзінае выйсьце. Тады ў апошнюю хвілю мог здарыцца цуд. Тады на астатнім кроку іх падхапілі б анёльскія крылы і панесьлі па-над тупымі палацамі і стомленымі дахамі, комінамі і платамі, пароднымі ліхтарамі купалаўскага моста, празь Сьвіслач, уваччу таямнічай сяброўкі стагодзьдзя, шэрай спаруды Опэры, а зайздросныя паэты, а нават задуменны вечнай недавыказанасьцю празаік Гарэцкі з свайго ўтульнага рогу далёкай саборнай плошчы Свабоды доўга глядзелі б за імі, і незьлічоныя сьвятадухаўскія багародзіцы паказвалі адзіную найлепшую дарогу...

Разагрэтыя бляхі даху даносілі водгук далёкіх крокаў. Але ўжо праз хвілю ўся філязофія, усе жудасныя супярэчнасьці і сумневы, жаданьне жыць і дыхаць, якое толькі можа зьведаць дваццаціпяцігадовы мужчына, што ўпершыню па трох месяцах вашывага сьмярдзючага астрогу адтхнуў на поўныя грудзі, трохі паеў і ўсім нутром адчуў знаёмы пах пухкіх валасоў, знаёмую поўню жаночай плоці — усё зьмяшалася ў Крывароце, усё пасьлізнулася на мярзотным ёлкім жалі. Жыць! Хоць у зьвярынцы, але жыць! Будуць біць, але не заб'юць. Вытрымае. Не заб'юць, ён ім спатрэбіцца. Будуць паказваць па сваім тэлебачаньні, але не замардуюць. Празь дзесяць, праз дваццаць гадоў можна будзе зноў дыхаць, зноў глядзець на простыя крыжы і нягеглыя вязы. Пляваць, што няволя. Пляваць, што здача. Абы жыць. Ён ня здрадзіць, не пакаецца, не пацешыць прысатых гебістаў. Ён проста зробіць усё, каб не сканаць, — думаў ён, але Багдана ціха і цьвёрда сказала, што сядзе на краі даху, каб, калі тыя выйдуць сюды, ён стрэліў ёй у скроню.

Яна пасьпела зрабіць два асьцярожныя, нячутныя крокі, азірнулася, і раптам яе вочы спыніліся недзе ззаду Крываротавага цела, шыя абмякла, цела пачало абсядаць, а босыя — каб не было чуваць крокаў — ногі міжволі папаўзьлі па схіле да парапэту. Крыварот управіўся падхапіць яе, адчайна шукаючы вачыма нябачнага снайпэра. Але яна самлела не ад параненьня: на гачку, на шыі гіпсавага бугаягеадэзіста — (а мо' й землямера) калі прыгледзецца, на ім застаўся сьлед ад вяроўкі — вісеў труп у зашмуляным стракатым ватным халаце і высокіх белых шкарпэтках. Акуляры на носе стваралі ўражаньне, што ён усё шчэ сочыць за гасьцямі. З нагруднай кішэні тырчэла мятая паперка. «Зьнішчаю сваё жыцьцё сваёй уласнай воляй і ахвотай, каб нікога не вінаваціць». Канец даўжэзнай вяроўкі валяўся, скручаны, пад нагамі шыбеніка.

Максім моўчкі паклаў сяброўку на бляхі, адвязаў вяроўку з гачка і ледзь не кульнуўся пад нечаканай вагой зімнага трупа. Гідзіцца не было калі. Ён хутчэй штурхануў цела за выступ вэнтыляцыйнага коміну, абы не было відаць Багдане, якая там паціху ажывала, і пасьпеў заціснуць ёй рот, баючыся, каб яна ня ўскрыкнула, апрытомнеўшы. На іх шчасьце, гэты бок даху ніадкуль не было відаць: далягляд перакрывалі будоўля палацу, музэй, а ніжэй цямнелі бязьлюдныя адміністратыўныя двары.

Канец вяроўкі, якой абкруцілі нейкую жалязяку, а для страхоўкі шчэ й падперазалі задуменную невыразную статую, быццам незадаволеную тым, што яе паставілі сьцерагчы задні рог палацу, завіс у якіх мэтрах двух над наетым амонаўцам, і калі той малойца пачуў над сабой сьвіст паветра, ён нават і не пачуў, а толькі зьбіраўся падумаць, што чуе, падумаць, што недзе голуб паляцеў, то ў яго ў тую ж хвілю зьнікла здольнасьць думаць, бо менавіта яе найперш адбіў Крыварот, грузна прызямліўшыся на здаравяцкі карак.

Праз знаёмы пералаз у бэтонным плоце за музэем вайны можна выйсьці да пары сіратлівых дамоў, адзіных, што засталіся ад былой Юраўскай вуліцы. Міленькія балкончыкі з кветачкамі. Аскепак зацішнага места. Нібы Верхні горад скінулі зь неба, і ён цяжка прызямліўся, крыху раструшчыўшыся аб сваю гару так, што ягоныя асколкі паляцелі ў розныя бакі, урэзаліся ў мёртвую тканку каляніяльных кварталаў. Такое ўражаньне складаецца тут, і ў былым Захар'еўскім праезьдзе, а цяпер і на Ракаўскай...

На гаўбцы другога паверху самага ніжняга дому па былой Юраўскай ёсьць надпіс «Незалежная Рэспубліка Мроя». Можа, з хвіліну стаялі Крывароты, ня могшы адарваць вачэй ад гэтага бальконy. Дзе мы? Дзе мроі? Божа, запыні нам наш салёны час! — прасілі яны. — Сёлета Менску споўнілася дзевяцьсот трыццаць, але гэта шчэ не юбілей. Юбілеем, салодкім і пампэзным, будзе тысячагодзьдзе. Блізкая дата, да яе ўсяго семдзесят гадоў, семдзесят жніўняў, семдзесят асьвячэньняў кветак. Блізкая, але мы ўжо пры любым раскладзе, пры любым лёсе не дажывем. Божа! Што будзе празь семдзесят гадоў? Якім будзе гэты горад? Божа! Нашыя пацалункі, клятвы, нашыя ночы й вечары, беларуская птушка бусел... Хто будзе хадзіць тут празь семдзесят гадоў? Хто маўчаць? Як блізка і як далёка... Каханы горад, роспачныя праспэкты... Божа, спыні час. Быць, чуць гэты рваны гарадзкі гул, пакласьці далонь на цёплы вечаровы асфальт, зноў пералезьці праз пабітую цэмэнтовую агароджу, хоць хвіліну пасядзець — маладым, галодным, да шчымленьня ў грудзёх — сярод студэнцтва на лаўках ля ўнівэрсытэтаў, жыва згадаць першыя пацалункі ў духмяным закутку Батанічнага саду, падурэць на сходах да Сьвіслачы пад вальяжным вокам Міністэрства абароны. Нам, якія вырасьлі з «Жыву і памятаю», нам, якія сьпісалі палову менскіх платоў любімымі радкамі з Цэляна й Сыса, падары нам шанец пачытаць графіці ў Менску тысячагадовым, зьесьці акраец «Нарачанскага», выпіць пляшку «Старажытнага», сесьці ў вагон мэтро з натоўпам і выйсьці з натоўпам, выбегчы з падземнага пераходу і заблукаць у тумане. Самыя простыя, банальныя, немагчымыя жаданьні. Хочацца патрымаць мяккі туман у далонях, калі Менску будзе тысяча, а нам ня будзе ніколькі.

Яны не маглі, як звычайна рабілі, бываючы тут, выпіць някепскай кавы ў безгустоўнай кавярні «Радзівіл». Цёмнымі задамі лінгвістычнага ліцэю яны прабраліся на Гандлёвую, а там, якраз там, дзе бульбаеды зараз паставілі мэмарыял Віктара Цоя, сутыкнуліся зь няшчасным юнаком-міліцыянтам, і той запатрабаваў:

— Вашы дакумэнты, маладыя людзі!

Што ж, Крыварот палез па дакумэнты, выйграў сэкунду і зблізіўся, а тады трасянуў мянта раз, другі, перакінуў, даў нагою, і шчэ раз высьпятка, і лобам, лобам у жвір. Раптам яму стала так прыкра за ўласную жорсткасьць. Магчыма, гэты сумленны міліцыянцік родам зь нейкай прыгараднай вёскі адпусьціў бы іх і так. Крыварот аж пачырванеў ад раптоўнай прыкрасьці.

Другі з залётнага патруля, сяржант, выйшаў з двара ліцэю — якога ліха яму было там трэба, невядома — калі Крывароты ўжо падбіраліся за домік Ваньковіча. Сяржант стрэліў тройчы, стрэліў у сьвет, на тупатлівы шоргат крокаў. Багдана толькі якбы спатыкнулася і войкнула, ды бегла далей, але праз тры крокі, быццам папяровы самалёцік... Крыварот абняў яе, заўважыў, што яна ня чуе ягонага дотыку, падхапіў пад рукі, ступіў, упаў, настраміўшы далонь на нейкі дрот, выцяг пісталет і стрэліў у паветра для пастрашкі, каб іх не спрабавалі дагнаць. Грымнуў стрэл у адказ, і грукнуў тынк. Крыварот прапоўз колькі мэтраў, цягнучы Багдану, прыўстаў і, хістаючыся, зноў узьняў яе. З-пад Багданіных пальцаў, счэпленых на баку, з-пад ягонай зьнясіленай пясьці чорна-чырвоным струменьчыкам на зарослую быльлём зямлю сыпаўся зь белага мяшэчка перац, парашок канспірацыі. Недзе ззаду, ужо за рогам, зноўку націснуў на курок міліцыянт.

Тут, за вакном старога будынка вольных муляроў, знаходзіцца кавалак сьцяны, які трэба павярнуць, каб трапіць у схоў.

— Дзе мы, Максімка?.. Ратуй, ня кідай... ой, як мне пячэ, Максімка... — прашаптала Багдана, не расплюшчыўшы вачэй.

— Ня бойся, пташачка, сэрца маё, мы ўжо пад зямлёй, каханая, па-пад зямлёй, далёка ад іх... Усё будзе добра. Галоўнае, мы пад... — пацалаваў яе Крыварот.

Пару месяцаў таму пры кіраўніцтве справамі прэзыдэнта створана спэцыяльная камісія па вывучэньні і выкарыстаньні новаадкрытых менскіх катакомбаў. А на Нямізе нехта сапсаваў аквітны шчыт «Мінску — 930. Цвети родной город». Чыясь цьвёрдая рука вывела зьнізу чорным «мая сьмерць тваё жыцьцё». Хоць за паўтара года ўсё перамянілася, але нічога не мінула. Ўсё міне празь семдзесят гадоў.

СТО ТВОРАЎ МАСТАЦТВА XX СТАГОДЗЬДЗЯ

*«... мы павінны ўсьведамляць сваю дзейнасьць як усталяваньне новых стандартаў архітэктуры, якая арганізуе будучае жыцьцё гарадоў».*

Міхаіл Гінзбург



# Іосіф Лянгбард. Менская Опэра

Высокія стылі, праходзячы поўнае кола разьвіцьця сваіх ідэяў і формаў, увасабляюцца ўрэшце ў дойлідстве. Архітэктура, як сынкрэтычнае і найбольш сацыяльна значнае мастацтва, кладзецца вянком на ўсю піраміду мастацтваў. Помнікі архітэктуры, нібы фішкі на гулецкім стале, пазначаюць ня толькі каардынаты розных стыляў, але і іх кошт...

Напрыканцы 20-х гадоў, у часы ўсеагульнага захапленьня функцыяналізмам, Менск імкліва пачаў зьмяняць сваё аблічча. Новая эпоха прагнула сьцьвердзіцца ў новым стылі. Зьявіліся новыя, нязнаныя дагэтуль тыпы будынкаў: дамы-камуны, рабочыя клюбы, дамы афіцэраў, дамы спэцыялістаў, савецкія й бальшавіцкія ўстановы. Напачатку 30-х, як новая «пралетарская» культура ўжо скокала канкан на спадчыне мінулага, разгарнулася й будаўніцтва ўстановаў культуры: бібліятэкі, кінатэатры, народныя тэатры. Дайшла чарга і да опэры з балетам...

... На мяжы другога і трэцяга дзесяцігодзьдзяў у дойлідстве БССР выявіліся дзьве найбольш выразныя тэндэнцыі ў рэчышчы так званага новага рацыянальнага руху. Першая зь іх зьвязаная з прынцыпамі функцыяналізму, дакладней, гэткімі, якімі іх прадстаўлялі маладыя савецкія архітэктары. Канцэпцыі функцыяналістаў вынікалі выключна з меркаваньняў функцыянальнае мэтазгоднасьці. Выключна ўтылітарная пляніроўка, кампазыцыя, функцыянальныя дэталі акрэсьліваліся жыцьцядзейнымі працэсамі, дзеля якіх прызначаўся будынак. Радыкальны ідэалізм нарматыўнага ўспрыманьня існасьці быў сфармуляваны клясыкам функцыяналізму Лё Карбюзье: «Дом — машына для жыцьця». Менавіта функцыяналісты выступілі з разгорнутай праграмай, што сацыялягізавала ўсе сфэры жыцьця. Ім і належыць распрацоўка тых самых новых тыпаў сацыялістычных будынкаў...

... Другая тэндэнцыя — канструктывізм, які таксама абсалютызаваў тэхнічныя сродкі, але ўсё ж абапіраўся на эстэтыку прыродных якасьцяў матэрыялаў і на гармонію канструкцыяў (гэткае разуменьне роднаснае готыцы). Дзейнасьць савецкіх канструктывістаў, са словаў іх найбуйнейшага тэарэтыка, пісьменьніка Трацьцякова, мусіла «распусьціць у справе эстэтычную эмацыйную сутнасьць мастацтва». Тое, што было дасканала і відовішчна сканструяваным, тое і было эстэтычным...

... У 1928 годзе ў Менску зьявіўся малады малавядомы архітэктар з Масквы Георгі Лаўроў. Лаўроў паходзіў родам са Смаленшчыны. Вучоба ў маскоўскіх Вышэйшых мастацка-тэхнічных майстэрнях сфармавала яго сымпатызантам юнага функцыяналізму. Маштаб ягонае дзейнасьці ў Беларусі цяжка ўявіць. За пяць гадоў ён пабудаваў ансамблі БДУ, Політэхнічнага інстытуту, бібліятэкі імя Леніна, лябараторыі і друкарні АН БССР, клінічны гарадок, інтэрнаты й карпусы Горацкае акадэміі, кінатэатр у Воршы і г.д... Нічога дзіўнага, што менавіта яму даручылі праект першага ў XX ст. беларускага тэатру опэры...



**ЛЯНГБАРД ІОСІФ** (1892, Бельск-Падляскі — 1951, Ленінград) архітэктар, пэдагог. Скончыў Пецярбурскую Акадэмію Мастацтваў у 1914 годзе. Заслужаны дзяяч мастацтваў БССР. Паводле ягоных праектаў былі пабудаваныя: Дом ураду, Дом афіцэраў, Акадэмія Навук Беларусі ў Менску (1930-39), Дом Саветаў у Магілёве (1939). Адзін з аўтараў генэральных плянаў Менску і Гомеля (1944).

У чарговыя ўгодкі «перамогі» бальшавікоў над войскамі ІІ Рэчы Паспалітае, 11 ліпеня 1933 году было распачатае будаўніцтва Опэры. Месца было абранае незвычайнае — рынкавы пляц на былой Траецкай гары. Гэтая гара і да сёньня пануе над навакольлем, а ў 30-я яна дамінавала абсалютна над усім Менскам.

... Паселішчы на тэрыторыі Траецкай гары існавалі яшчэ ў XII ст. Тутака побач пралягаў Стара-Барысаўскі тракт, пры якім быў насыпаны невялікі вал — рэдут Сьвятой Тройцы, пры якім існавала каплічка з той самай назвай. Мяркуюць, што менавіта тут стаяў першы мураваны менскі касьцёл — фара, фундаваная Ягайлам у 1390 годзе. З XVI ст. у панараме Траецкае гары дамінавалі манастыры Ўшэсьця й Сьв. Тройцы з цэрквамі. Яшчэ праз два стагодзьдзі тутака паўсталі каталіцкія кляштары базыльянак, баніфратаў, марыявітак, кармэлітаў, бэнэдыктынаў. Намоленае месца...

Але павевы зьмяніліся. Разам са згортваньнем беларусізацыі, зьмяніліся й маштабы сацыяльных пераўтварэньняў. Толькі ўстаўшая на ногі бальшавіцкая імпэрыя прагнула сымбаляў свае нязломнасьці і ўсеабдымнасьці, якая б сягала да зораў, а не аскетычнага адлюстраваньня рэальных патрэбаў. Сьціплы праект Лаўрова не надаваўся...

У 1933-м у Менску зьявіўся немалады вядомы архітэктар зь Ленінграду Іосіф Лянгбард. Лянгбард паходзіў родам зь Беласточчыны. Ён атрымаў грунтоўную адукацыю яшчэ ў тым, у старым Пецярбургу. Праўда, зь Менскам лёс зьвязаў яго крыху раней. У 1929 годзе Лянгбард выйграў Усесаюзны конкурс на праект Дому ўраду. Лаўроў і тады прайграў. Будоўля перадвызначыла лёс Менску... Старому гораду ня быць! Гэтая акалічнасьць стала шчасьлівым білетам для Лянгбарда. З 30-га году працы ўжо йшлі поўнай хадою, але Лянгбард не сьпяшаўся з поўным пераездам... І толькі пасьля таго, як лёгіка абсурду тых гадоў падштурхнула да будаўніцтва... другой сталіцы БССР, Лянгбард вярнуўся на радзіму. Апроч завяршэньня калясальнага па тых часах ансамблю Дому ўраду, у Лянгбарда зьявілася новая замова — перарабіць праект ужо запачаткаванага тэатру опэры. Лаўроў пакінуў Беларусь назаўсёды.

Прапанова Лянгбарда была ўжо бясконца далёкаю ад ясных і рацыянальных формаў 20-х гадоў. Наогул, пра ўласна Опэру тады яшчэ не казалі. Новы праект уяўляў сабою палац для «масавага музычнага дзеяньня» зь безьліччу скульптураў і рэльефаў. Нават гледзячы на дэтальны, карпатліва прамаляваны красьлюнак (ледзьве паварочваецца язык называць гэты мастацкі твор менавіта так проста) галоўнага фасаду, цяжка сабе ўявіць, што ў гэтай фантастычнай спарудзе мусіла б зьмяшчацца... 5.000 чалавек! Цяжка паверыць, што кіраўніцтва БССР усур'ёз успрымала гэтую фантасмагарычную задуму. У 1934 годзе ўсё было ўсур'ёз — архітэктар атымаў званьне Заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

У аснову пляну быў пакладзены калясальны, але раўнуючы рымскі, цырк з амфітэатрам. На ягонай сцэне мусілі адбывацца калясальныя містэрыі з удзелам любое вядомае на тыя часы тэхнікі.

Пакрысе, пакуль справа дайшла да рэалізацыі (і ўлічваючы трывожнае міжнароднае становішча), глядзельная заля была зьменшаная да 3 тысячаў месцаў, а ў 1937 годзе ўжо і да паўтарох тысячаў. Адпаведна мяняліся й прапорцыі: Опэра зьмяншалася, як сьнежная гурба, таяла, таяла пакрысе. Прапалі з рэчаіснасьці скульптуры й барэльефы, падземныя абходы, велізарныя прапілеі перад лесьвічным маршам. Але галоўнае кампазыцыйнае рашэньне засталося — тры вялізныя барабаны, пастаўленыя адзін на адзін, якія ззаду пераўтвараюцца ў прастакутныя крылы сцэнічнага аб'ёму і датасоўных памешканьняў, утвараючы падковападобны плян. Роўны рытм пілястраў стварае ўражаньне недавершанасьці руху, які імкнецца некуды да неба.

Будынак Опэры адкрылі ў 1939 годзе. Ужо праз год яе трупа атрымала ордэн Леніна і тэатар быў названы Вялікім. Што ж, у дачыненьні да самога будынку тут не было ніякае мэтафары — ён сапраўды стаў найбуйнейшым у сьвеце сацыялізму.

Па вайне моцна пашкоджаная шматпакутная Опэра паўстала наноў. Праўда, на гэты раз была амаль цалкам зьмененая пляніроўка — стварылі традыцыйную для тэатраў ярусную сыстэму —партэр і тры неглыбокія ложы. Колькасьць месцаў ізноў зьменшылася, да 1200. Работы вяліся пад кіраўніцтвам усё таго ж Лянгбарда. Паваенная эйфарыя запатрабавала і простых чалавечых радасьцяў — багатых дэкарацыяў і ляпное аздобы. Вэстыбюлі, фае і глядзельная заля былі ўпрыгожаныя багатай плястыкай пад кіраўніцтвам Бембеля. У 1948 годзе Опэра ізноў прыняла ўдзячных слухачоў.

З таго часу мінула шмат гадоў. У 1967 Опэра была наноў рэканструяваная, зьмененыя канструкцыі дахаў. Шматсхільныя дахі моцна зьмянілі вобраз будынка, спрасьціўшы яго. Зрэшты, пакрысе спрашчаліся і інтэр'еры. Асабліва гэта стала заўважным пасьля чарговае рэканструкцыі ў 1978 годзе.

Сёлета Опэра ізноў сьціхне, як папярэдне паведамляецца, на два гады... Бадай, і гэта не апошняя перабудова адзінага дому (№1) на плошчы Парыскае Камуны. Хочам мы таго ці не, гэтая скарбонка памяці з работамі Бембеля і Кішчанкі, з потам балерынаў і цяжкім дыханьнем сьпевакоў застанецца сымбалем Менску. Сымбалем фантастычных намераў і бясконцае недавершанасьці патаемных жаданьняў...

**Сяргей Харэўскі**

**У папярэдніх нумарах прадстаўленыя творы:**

1. Фэрдынанд Рушчыц. Зямля
2. Мсьціслаў Дабужынскі. Віцебск, лесьвіца
3. Марк Шагал. Прамэнад
4. Ільля Рэпін. Беларус
5. Марк Антокальскі. Помнік Кацярыне
6. Вітальд Бялыніцкі-Біруля. Блакітная капліца
7. Хаім Суцін. Паж
8. Казімер Малевіч. Чорны квадрат
9. Язэп Драздовіч. Пагоня Ярылы
10. Валянцін Волкаў. Менск, 2 ліпеня 1943 году
11. Манумэнт Перамогі
12. Помнік Леніну ў Менску
13. Пётра Сергіевіч. Шляхам жыцьця
14. Аляксей Глебаў. Францішак Скарына
15. Міхал Філіповіч. Бітва на Нямізе
16. Лявон Вітан-Дубейкаўскі. Касьцёл Пятра і Паўла ў Дрысьвятах
17. Лявон Тарасэвіч. Бяз назвы
18. Ян Булгак. Выгляд з Зарэчча

"Наша Ніва" незалежная газэта

НАША НІВА

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

рэдактар ........ Сяргей Дубавец
выдавец ........ Рэдакцыя газэты "Наша Ніва"
заснавальнік ........ Павал Жук
адказны сакратар ........ Алег Дзярновіч
мастацкі рэдактар ........ Сяргей Харэўскі
аддзел інфармацыі ........ Андрэй Лапцёнак, Віктар Корзун
дызайн і вёрстка ........ Лявон Раманчык
набор ........ Аляксандра Макавік
стыль і карэктура ........ Паўлюк Канавальчык пры ўдзеле ........ Сяргея Шупы

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ
220123 Менск, а/с 71
Тэл./факс 213-43-52
E-mail: niva@user.unibel.by
http:////members.xoom.com/Nasa_Niva



Наклад 2923. 8 палос фармат А2 нумар падпісаны ў друк 2:07, 23/2/1998. Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 967. Кошт свабодны. У шапіках "Белсаюздруку" — 9500 руб.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты "Известия", д. 8, кв. 173.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12